*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
22
ЛІСТАПАДА
1991 г.
№ 47 (3613)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ — 15 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)

## НА ЧЫМ БАКУ БРЭСТ?

**Аляксей КАЎКА: «...Праграмісты-прапагандысты «двуязычной» Беларусі могуць трымфаваць. Іхняя праграма выканана й перавыканана. На супереўрапейскім узроўні. Фактычна ж узровень той банальны ад банальнейшага: імперскі, каланіяльны. Сапраўды, дзе ты апынуўся, чалавеча? На зямлі дзяржаўнай Беларусі ці ў выслаўленым тэатры абсурду, дзе што ні аб'ява па радыё, што ні шыльда, ні надпіс — лішні доказ, лішні знак насмешлівы над суверэннасцю твае Радзімы...»**

СТАРОНКІ 2—3

## ХТО ПРАГНЕ РЭВАНШУ

**Міхась ЗАМСКІ: «Аўдыторыя» ж да апошняга часу не ведала, нават не падазравала аб некаторых баках дзейнасці камуністычнай партыі. Тут, у Наваполацку, я пазнаёміўся з дакументам, які скалануў мяне сваім цынізмам, сваёй бессаромнасцю, ад якіх патыхнула смуродам страшнага 37-га. Дакумент гэты — даведка аб дзейнасці наваполацкіх дэмакратычных суполак і рухаў, зробленая па заданні гаркома КПБ».**

СТАРОНКІ 5, 12

## «МІЖЧАССЕ» МІНЕ, А ШТО ЗАСТАНЕЦЦА?

**На пытанні «Анкеты «ЛіМа» адказвае Іван ЧАРОТА.**

СТАРОНКА 6.

## РЭЧАІСНАСЦЬ БЕЗ ГРЫМУ

**Віктар ЯРАЦ пра публіцыстычную паэзію часоў перабудовы.**

СТАРОНКІ 6—7

## ВЯРТАННЕ БУДЗЕ ПРАГРЭСАМ

**Вольныя варыяцыі на тэму «Адраджэнне беларускай капэлы».**

СТАРОНКІ 10—12

## ДОЙЛІД БЕЛАРУСКАГА АДРАДЖЭННЯ

**Да 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча.**

СТАРОНКІ 14—15



З-за адсутнасці кворуму Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь спыніў працу раней запланаванага тэрміну. Не ведаю, ці бывала такое ў гісторыі парламентарызму. Тым болей, што зараз, дзякуй Богу, на Беларусі не льецца кроў, як у Нагорным Карабаху, няма землятрусу і паводкі — адным словам, у дэпутатаў няма патрэбы прысутнічаць у «гарачых кропках» і, значыць, няма прычын адсутнічаць у зале пасяджэнняў парламента. Калі не лічыць такой прычынай абыякавасць да лёсу Рэспублікі і яе грамадзян. Ці была ў гісторыі парламентарызму падобная дэманстрацыя палітычнага бяссілля вярхоўнага органа ўлады!

Пад заслону (пакуль яшчэ, здаецца, быў кворум) дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі (дакладней, наменклатурна-камуністычная большасць) прагаласавалі за стварэнне ў Рэспубліцы Міністэрства па справах (!) абароны. Потым паўстала пытанне аб маёмасці і капіталах КПБ-КПСС, ды тут няпэўны кворум знік... Сярод пытанняў, якія павінны былі быць вырашаны на гэтай скамечанай сесіі, было і такое: зацвярджэнне эталонаў дзяржаўнага сцяга і дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь. Бо пакуль дэ-юрэ не зацверджаны эталон новага герба, дэ-факта існуе мінулы. Відаць, такі стан задавальняе памянёную большасць дэпутатаў парламента Беларусі. Яны ніяк не могуць развітацца ні з БССРаўскім гербам, ні з надзеяй на рэанімацыю ў той ці іншай форме Саюза ССР...

Сёння мы друкуем праект эталона герба Рэспублікі Беларусь, распрацаваны групай мастакоў у адпаведнасці з законамі геральдыкі і гістарычнымі традыцыямі беларускага народа. Праект ухвалены экспертамі-навукоўцамі.

Нашыя друкарскія магчымасці не дазваляюць перадаць усе колеры герба. На чырвоным тле — срэбраны вершнік на белым кані. Шчыт вершніка ўпрыгожаны залатым шасціканцовым крыжам.

Праз месяц — новая сесія Вярхоўнага Савета Беларусі. На ёй павінна, нарэшце, адбыцца развітанне з сімваламі камуністычнай мінуўшчыны.

П. ВАСІЛЕЎСКІ.

# Кола Дзён

Адзін з прыгодніцкіх раманаў папулярнага аўтара называецца «Агарова, 6». Ці не наспеў час пісаць новую кнігу — пад назвай «Нова-Агарова-ІІ»? Бадай, сюжэт у яе быў бы не менш «закручаны».

На мінулым тыдні ў Нова-Агарове, у рэзідэнцыі Прэзідэнта СССР, у пакутах нарадзілася новая абрэвіятура: ССД — Саюз Суверэнных Дзяржаў. У назвы, да якой усім нам прапанавана прывыкаць, будзе і дадатак — Канфедэрацыйная Дзяржава (ССД—КД?) Дык усё-такі — саюз ці канфедэрацыя? Дзяржавы ці дзяржава? Логіка і юрыдычныя «тонкасці», як заўсёды, адступаюць перад «вялікай палітыкай».

Лідэры суверэнных дзяржаў па чарзе, услед за Міхаілам Сяргеевічам і Барысам Мікалаевічам, падыходзілі да мікрафона на прэс-канферэнцыі, каб выказаць «одобрямс». На гэтай урачыстай цырымоніі не хапала толькі незабыўнага Анатоля Іванавіча...

### 14 ЛІСТАПАДА

**на пасяджэнні Дзяржсавета ў Нова-Агарове, які разглядаў тэкст новага Саюзнага дагавору, абмяркоўваўся лёс саюзных структур і інстытутаў. Вырашана захаваць пост Прэзідэнта Саюза, адрадзіць пасаду віцэ-прэзідэнта, а таксама рэанімаваць... Кабінет міністраў.**

**Дзяржсавет зацвердзіў І. Сілаева старшынёй Міждзяржаўнага эканамічнага камітэта — прэм'ер-міністрам эканамічнага супольніцтва.**

### 15 ЛІСТАПАДА

**Вярхоўны Савет Беларусі разглядаў пытанне «Аб Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь». Вырашана стварыць у структуры Саўміна Міністэрства па справах абароны. Кандыдатура міністра не абмяркоўвалася. Пытанне аб узброеных сілах і нацыянальнай гвардыі Беларусі засталося, па сутнасці, нявырашаным.**

### 16 ЛІСТАПАДА

**ў апошні дзень работы сесіі ВС Беларусі разглядалася пытанне аб КПБ. Зноў — безвынікова.**

**Адбыўся ўстаноўчы з'езд Свабоднага прафсаюза Беларусі. У дэкларацыі, прынятай на з'ездзе, гаворыцца, што гэтая масавая незалежная арганізацыя будзе абараняць інтарэсы наёмных работнікаў. Старшынёй прафсаюза выбраны сустаршыня Мінскага стачкама Г. Быкаў.**

### 17 ЛІСТАПАДА

**выканком Канфедэрацыі працы Беларусі (таксама незалежная прафсаюзная арганізацыя) прыняў рашэнне стварыць міжнародны аддзел для сувязі з замежнымі прафсаюзамі.**

### 18 ЛІСТАПАДА

**ў Маскве сустрэліся кіраўнікі ўрадаў суверэнных рэспублік і міністры фінансаў краін «вялікай сямёркі». Як і месяц назад, абмяркоўвалася праблема гарантый на выплату знешняй пазыкі СССР, ад якіх залежаць крэдыты краін Захаду рэспублікам. Тры рэспублікі — Азербайджан, Узбекістан і Украіна — пакуль адмовіліся ад сваіх подпісаў пад агульным мемарандумам.**

**У Браціславе ва ўзросце 78 гадоў памёр былы прэзідэнт Чэха-Славаччыны і першы сакратар ЦК КПЧ Густаў Гусак.**

### 19 ЛІСТАПАДА

**Указам Прэзідэнта СССР М. Гарбачова міністрам знешніх зносін Саюза прызначаны Э. Шэварднадзе. Не прайшло й года з таго часу, як Шэварднадзе падаў у адстаўку з паста міністра замежных спраў. Б. Панкін, які ўзначальваў гэтае міністэрства да яго рэарганізацыі, прызначаны паслом у Лондане.**

**У Маскве адбылося перазахаванне астанкаў героя Вялікай Айчыннай вайны генерала І. Чарняхоўскага. Яны былі дастаўлены з Вільні разам з помнікам.**

### 20 ЛІСТАПАДА

**Старшыня Савета Міністраў Беларусі В. Кебіч і прэм'ер-міністр Казахстана С. Цярэшчанка падпісалі ў Мінску міжрэспубліканскае эканамічнае пагадненне.**

**З ПОШТЫ ТЫДНЯ**

# На чыім баку Брэст?

Вядома, тэатр пачынаецца з вешалкі. Згадаў я лапідарнае выслоўе пад час нядаўняга вяртання з-за мяжы. Сустрэча з Бацькаўшчынай, дзе, колькі б часу чалавек ні бавіў, заўжды падзея. Са мной пагодзіцца ці не кожны, хто перасякаў дзяржаўную мяжу, хаця ў кожнага, мабыць, свая непаўторнасць моманту сустрэчы, сваё перажыванне радасці, а, можа, й прыкрасці. Вяртанняў праз пагранічны Брэст перажылося мною нямала, але гэтым разам — асабліва. Яшчэ б! Я вяртаўся ў дзяржаву, што абвясціла сваю незалежнасць. У адпаведным радку мытнай дэкларацыі — «Страна, в которую следует пассажир» — запісаў не без хвалявання: Рэспубліка Беларусь. Па нейкім часе, падумаў тады, і бланкі дэкларацый набудуць належны, беларускамоўны характар. Бо якая ж дзяржава без свае дзяржаўнае мовы?

Не ўтойваю: моцна-такі падварушыла, падбудавала нацыянальнае пачуццё ва мне вестка пра незалежнасць Беларусі. У Лондане, дзе з ласкі а. Аляксандра Надсана і Яна Міхалюка месяц працаваў з фондамі Скарынаўскае бібліятэкі, дзе ідэя беларуская не загасала нават у змрачнейшыя часы скону нацыянальнага дома, беларускасць мая набыла глыбейшага, свяжэйшага наталення. Вось дэталь. Лонданская тэлевізія на пастанову беларускага парламента ад 25 жніўня адгукнулася таго ж вечара, па-ангельску сцісла, лаканічна, але то была лаканічнасць! Праз увесь каляровы экран — бел-чырвона-белае палотнішча і паясняльная фраза дыктара: Рэспубліка Беларусь прыняла закон аб сваёй незалежнасці. Тры дні, распавядалі мне, такія ж сцягі развяваліся над беларускімі асяродкамі Лондана, а стрыманыя, паводле стэрэатыпу, ангельцы не шкадавалі нашым суайчыннікам прыязных гратуляцый. Мітынгаў не было, затое імша ўрачыстая ў царкве адбылася, прытым у беларускай царкве, — з малітвай за «Богам сцеражоную Беларусь і ўвесь беларускі народ...» Калі ж, падумалася, пачуем падобную малітву ў Кафедральным саборы ці Чырвоным касцёле ў Менску, наогул у святынях Беларусі, па-большасці, як дасюль, глухіх і абыякавых да слова беларускага? Але вяртаюся на граніцу, да выслаўёнае «вешалкі».

Чым жа сустракае замежнага вандроўніка пагранічны горад Беларусі? Пра мытную паперыну ўжо сказаў. Прапаршчык-пагранічнік, забіраючы пашпарты, папярэджвае: «Документы получите на московской стороне вокзала». Звыклая, колькі год, колькі раз на слыху рэпліка, раней і не задумаўся б над яе сэнсам. Але цяпер... Неяк, адчуваю, зніякавела нутро маё. Як жа так — пачатак Зямлі Беларускай, а назвы троха дзіўныя: «Варшавская сторона», «Московская сторона». Ну, з Варшаўскім бокам зразумела, за ім амаль адразу, праз пэру сот метраў, пачынаецца польская тэрыторыя і бліжэйшы з прыкметных гарадоў на ёй — пані Варшава. Але другі, усходні бок, чаму менавіта «Московская сторона»? Што, ад Бярэсця на адлегласці ў тысячу кіламетраў да расейскае сталіцы, ніякіх значных гарадоў? Безаблічная геапрастора, «северо-западный край», пра які нене дый нагадаюць настальгічнымі ўсхліпамі мілыя нашы «западноруссы»? А чаму той самы бок не менаваць, скажам, Беларускім або Менскім, Смаленскім урэшце (усё ж бліжэйшае да Беларусі месца, на свой лад славутае і таксама знанае ў свеце)?

З такою вось вярэдлівай думкай і ступіў я на родны ганак. Перайшоў праз тунель на згаданы бок і... Вялізныя надпісы на агромністай шыльдзе, прымацаванай прантамі на рагу вакзальнага будынка, адразу «падцерлі» сентыментальныя соплі незалежніка-летуценніка. Каб не забываўся, куды ступае і хто на гэтым ганку фактычна гаспадарыць. А надпісы такія — усе пяць:

**РЭПАРТАЖ У НУМАР**

# «Не толико жив ест человек хлебом...»

**Кніга заўсёды займала важнае месца ў культурнай спадчыне кожнага народа. «Не толико жив ест человек хлебом или лекарством но более всяким словом...», — пісаў наш славуты зямляк Францішак Скарына, чыё 500-годдзе мы адзначылі ў верасні мінулага года. Тады ж і быў адкрыты першы на Беларусі Музей нацыянальнага кнігадрукавання. Размясціўся ён у адрэстаўраваным будынку былой брацкай школы. Інтэр'еры XVIII ст. найлепш спрыялі распрацоўцы цікавага мастацкага рашэння экспазіцыі, якое ажыццявілі полацкія мастакі Сяргей Дзмітрыеў ды Ігар Куржалаў.**

**У музеі адлюстраваны розныя бакі кнігадрукавання. Першыя залы знаёмяць наведнікаў з помнікамі даннікжнага пісьменства, а таксама з рознымі формамі кнігі (скрутак, гармонік, кодэкс), з алфавітамі, з эвалюцыяй тэхналогіі вырабу кніг і матэрыялаў для пісання — пергаменту, паперы і г. д. Адна з залаў прадстаўляе рукапісную кнігу на Беларусі: старажытныя евангеллі з Полацка і Турава, аздобленыя ініцыяламі старавізантыйскага тыпу; Мсціжскае евангелле, ініцыялы якога нагадваюць дзівосных драконаў, а скураны пераплёт аздоблены гравюрамі на срэбры; першы рукапісны зборнік перакладаў біблейскіх кніг Старога і Новага запаветаў «Дзесятаглаў» (1502—07 гг.), якія з'яўляюцца шэдэўрамі мастацкай аздобы беларускай рукапіснай кнігі.**

**Перапісванне кніг было справай нялёгкай. Невыпадкова большасць пісцоў заканчвала сваю працу такой прыпіскай: «Чытаючы гэту кнігу папраўляйце мяне, грэшнага, але не кляніце». І вось для большага ўяўлення пра атмасферу стварэння рукапіснай кнігі ў экспазіцыі зроблена рэканструкцыя майстэрні перапісчыка кніг XVI—XVIII стст.**

**У найбольш прыгожай зале размясцілася частка экспазіцыі, прысвечаная Францішку Скарыне, які паклікаў чытаць, вывучаць ды тлумачыць «кнігу кніг чалавечых» — Біблію, які праз друкарскі варштат даў людзям слова на простай «паспалітай» мове, які азначыў адраджэнне беларускай паэтыкі, філасофіі, медыцыны, мастацтва. На першым месцы ў гэтай святочнай зале Скарынавы кнігі, з прадмовамі ды пасляслоўямі, гравюрамі і застаўкамі. Дапаўняюць інтэр'ер гравюры з відамі і планамі гарадоў, дзе бываў Скарына, фотарэпрадукцыі не шматлікіх, на жаль, ягоных дакументаў.**

**Інтэр'ер друкарні XVI ст. з наборнымі касамі і ручным друкарскім станам аддзяляе скарынаўскую залу ад пакояў, дзе размяшчаюцца кнігі паслядоўнікаў Скарыны: Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, Пятра Мсціслаўца, Івана Фёдарава, выданні друкарні братоў Мамонічаў з вядомым Статутам Вялікага княства Літоўскага 1588 г., выданні друкарняў Лоска, Любчы, Слуцка, Еўі, Куцейна, Магілёва, Супрасля, Гародні, Полацка.**

**Ад першых рукапісных кніг, якія аздабляліся мініяцюрамі, буквіцамі, застаўкамі, канцоўкамі, бярэ пачатак беларуская кніжная графіка. Друкаваная кніжная графіка паходзіць ад першых выданняў Скарыны, у чыіх кнігах упершыню ва ўсходнеславянскіх землях з'явіліся гравюры, выкананыя ў тэхніцы абразной ксілаграфіі. І ў музеі некалькі залаў прысвечана беларускай кніжнай гравюры. Цікава прадстаўлена і творчасць сучасных мастакоў-графікаў: ілюстрацыі М. Басалыгі, А. Зайцава, Г. Паплаўскага, А. Кашкурэвіча, А. Лось, выкананыя ў розных тэхніках. Таксама экспануюцца ксілаграфічны прэс, інструменты ды розныя прыстасаванні, якімі карыстаюцца мастакі.**

**У адной з залаў — першыя беларускія газеты, часопісы, слоўнікі, даведнікі, падручнікі, навуковыя працы, календары, паштоўкі, альбомы, літаратурныя творы. Сярод іх аўтараў — Цётка, Колас, Купала, Гарун, Гарэцкі, Буйла, Ластоўскі, Ігнатоўскі, Смоліч, Карскі, Пічэта. Завяршаюць экспазіцыю музея лепшыя кнігі розных беларускіх выдавецтваў, кнігі — лаўрэаты міжнародных, усесаюзных, міжрэспубліканскіх конкурсаў і конкурсу імя Ф. Скарыны.**

**А каго цікавіць працэс стварэння кнігі на сучасным паліграфічным прадпрыемстве, зможа прагледзець відэафільм «Нараджэнне цуду».**

**Ва ўтульных холах музея можна і адпачыць, можна пасядзець і ў кавярні, якая ў хуткім часе адкрыецца тут, набыць сувеніры ў кіёску. Дарэчы, будзе прадавацца і адноўленая беларуская газета «Наша Ніва»: штрых знамянальны ў абліччы менавіта гэтага музея.**

**Г. ЛАДЗІСАВА,**
**загадчыца Музея беларускага кнігадрукавання.**

Фота А. МАРЦІНКЕВІЧА.
г. Полацк.







МОСКОВСКАЯ СТОРОНА
MOSCOW SIDE
COTE DE MOSCOU
MOSKIEWSKA STRONA
MOSKAUER SEIT

Што ж, праграмісты-прапагандысты «двуязычной» Беларусі могуць трыумфаваць. Іхняя праграма выканана й перавыканана. На суперэўрапейскім узроўні. Фактычна ж узровень той банальны ад банальнейшага: імперскі, каланіяльны. Сапраўды, дзе ты апынуўся, чалавеча? На зямлі дзяржаўнай Беларусі ці ў выслаўленым тэатры абсурду, дзе што ні аб'ява па радыё, што ні шыльда, ні надпіс — лішні доказ, лішні знак, насмешлівы над суверэннасцю твае Радзімы. Не чутно, не відно на берасцейскім вакзале слова беларускага. «КАМЕРА ХРАНЕНИЯ. CLOAK POOM», КИОСК «Союзпечать». KIOSKE DE jornaux «Sguzpetchatj»; «ВОЕННЫЙ КОМЕНДАНТ» і г. д. і т. п. на ўсіх будынках, сценах, дзвярах вакзальнай і прылеглай плошчы.

І ўсё ж... Развітаўся з Бярэсцем нечакана абнадзееным, павесялелым. Злёгку хіснула састаў, усцяж замутнёнага вагоннага ваконца паплыла паволі «Московская сторона» — будыніны, шыльды, шэрая, прыцярушаная скупаватым вячэрнім водсветам платформа... І раптам з вакзальнай сцяны мільганулі два словы — гожыя белыя літары на блакітнай прамавугольнай планачцы: «Маскоўскі бок». Эге, ледзь было не выгукнуў з радасці: жывы курылка! Прымацаваўся-такі на пагранічных варотах са сваёй суверэннасцю, няхай для пачатку сціпленька, збоку. Ды на першае лета дзякуй і за гэта. Заўтра, дух перавёўшы, глядзіш, вышэй ускарабкаецца, на самы пік згаданага «пяцімоўя» — воку майму пакуль панылага, бо чужога, пагардлівага да мовы майго народа, маёй дзяржавы. Веру, аднак, апануе беларускі курылка запаветную вышыню. З адпаведнай ужо не толькі формаю, але і зместам: Беларускі (Менскі?) бок.

А покі што пытанне адкрытае: на чыім жа баку памежны горад Беларусі? У пытанні гэтым мяне непакояць не толькі і не столькі прывакзальныя шыльды. А — друк, асвета, інфармацыя, культура, наогул нацыянальнатворчая рэчаіснасць нашага старадаўняга Бярэсця. Горада,ператворанага працяглай каланізацыяй у зацяты бастыён асімілятарства, антыбеларускасці, а апошнім часам і ў аб'ект рэваншысцкіх дамаганняў (гл. «Суседскія захады» І. Бараноўскага, «ЛіМ», 8.XI.91). Падобных бастыёнаў уздоўж граніц беларускіх імперская сістэма наўзводзіла нямала і здаваць іх, па ўсяму мяркуючы, не збіраецца. Відаць, дужа ўпэўненая, да самаўпэўненасці, у памяркоўным беларусе. Але ці азначае ўсё гэта, што рахманасць беларуская, нібы суконка, толькі й прынадная для шмальцавання імперскіх ботаў?

У самы раз, здаецца, засярodзіць увагу над гэтым пытаннем прэм'еру, іншым дзяржаўным мужам Рэспублікі Беларусь. Бо абарона беларускае чэсці, беларускіх нацыянальных інтарэсаў — справа не толькі адзінкавых пісьменнікаў, журналістаў, чытачоў, але таксама, калі не перадусім, абавязак Беларускай дзяржавы.

**Аляксей КАЎКА.**

г. Масква.

## НАДЗЁННАЯ ЦЫТАТА

«Каб засцерагчы рэспубліку ад раскрадання нацыянальнага набытку, жыццё прымушае нас ісці на жорсткія меры — увядзенне талонаў, візітных картак, безнаяўных разлікаў за тавары і паслугі, мытных застаў на дарогах з суседнімі рэспублікамі. Рэальнасць такая, што, нягледзячы на яўную непапулярнасць гэтых мер, ад іх пакуль што адмовіцца нельга. Больш таго з 1 студзеня 1992 года з мэтай абароны спажывецкага рынку ў рэспубліцы будуць уведзены купоны...

Мы — за прыватызацыю ў інтарэсах пераважнай большасці насельніцтва, а не мафіі і перакупшчыкаў. Заводы, фабрыкі, зямлю павінны атрымаць працоўныя калектывы і грамадзяне, тыя, хто шматгадовай працай выпакутаваў права на ўласнасць...

Мы добра ведаем пра цяжкае становішча, у якім апынуліся сёння культура, навука, народная адукацыя. Ва ўмовах велізарнага дэфіцыту бюджэту не хапае сродкаў на іх развіццё. Нягледзячы на ўсе цяжкасці, Савет Міністраў Беларусі тым не менш прыняў рашэнне аб паэтапным павелічэнні заработнай платы работнікам гэтай сферы... Як бы ні складвалася абстаноўка, урад заўсёды будзе падтрымліваць культуру, навуку, людзей, якія займаюцца выхаваннем маладога пакалення».

**З Заявы ўрада Рэспублікі Беларусь.**

# ПРАЦАВАЦЬ НА СЯБЕ

**У мінулую суботу адбылася канферэнцыя Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады «Эканамічная праграма БСДГ і дзяржаўны суверэнітэт Беларусі». На разгляд сяброў партыі і шматлікіх гасцей былі прапанаваны тэзісы эканамічнай праграмы беларускай сацыял-дэмакратыі, падрыхтаваныя доктарам эканамічных навук прафесарам Уладзімірам Кулажанкам.**

Яна прадугледжвае самыя розныя формы ўласнасці, развіццё прадпрымальніцтва, рэформу структуры народнай гаспадаркі, стварэнне сваёй фінансавай і крэдытнай сістэмы і накіравана на дасягненне дзяржаўнага і эканамічнага суверэнітэту Беларусі, на забеспячэнне чалавечых умоў існавання і належнага ўзроўню жыцця насельніцтва рэспублікі.

Натуральна, што выступленні многіх прамоўцаў выходзілі за межы абмеркавання праграмы партыі. Аналізавалася эканамічная і палітычная сітуацыя ў краіне, называліся цікавыя факты і лічбы.

Прысутных уразіў даклад акадэміка Радзіма Гарэцкага па мінеральных рэсурсах нашай зямлі. Вучоны-геолаг на падставе апошніх даследаванняў назваў Беларусь казачна багатай на выкапні краінай, адной з найважнейшых эканамічных зон былога СССР. Аказваецца, наша зямля тоіць у сабе не толькі торф, калійную соль ды нафту, але і жалезныя руды, і рэдказямельныя элементы, і разнастайныя будаўнічыя матэрыялы, і гаручыя сланцы, і неблагі вугаль, і алюміній, утрымліваючыя мінералы і г. д. аж да алмазаў і бурштыну. І ўсё гэта, падкрэсліў Радзім Гаўрылавіч, — у прамысловых колькасцях. Невядома толькі, хто ж будзе вывучаць і распрацоўваць такія багацці — ні адна ВНУ на тэрыторыі Беларусі не рыхтуе геолагаў!

Эканаміст Віктар Жданюк доказна сцвердзіў, што толькі сацыяльна-рыначная эканоміка можа стаць гарантам сапраўднага суверэнітэту нашай зямлі. У гэтай сувязі пазіцыя руху дэмакратычных рэформаў Беларусі была ацэнена як пазіцыя людзей, што страцілі нацыянальныя карані, не ўлічваюць гістарычныя і палітычныя рэаліі.

Народны дэпутат РБ Мікалай Крыжаноўскі гаварыў пра «сусветныя» цэны. Аказваецца, кошт беларускіх трактароў ды халадзільнікаў у доларах непараўнальна большы, чым у рублях. Прамоўца заклікаў спадарства не палохацца разлікаў з суседзямі ў СКВ.

Беларусь і яе народ працуюць на Цэнтр — вось галоўная думка ў выступленнях дырэктара Беларускага НДІ цэн Леаніда Кавалёва і загадчыка сектара НДЭІ Дзяржэканомплана Міхаіла Радзіеўскага. Мы выраблаем выдатныя рэчы, сельская гаспадарка дае прадукцыі куды больш, чым трэба Беларусі, але з усёй сваёй працы рэспубліка і яе жыхары не атрымліваюць належнага ні ў матэрыяльным выражэнні, ні ў грашовых (асабліва валютных) сродках.

**НАШ КАР.**



# Роберт РАНДАЎ:
# «Хай прывыкаюць да вашай мовы...»

**Нядаўна гасцямі Саюза пісьменнікаў Беларусі былі супрацоўнік Літаратурнага калёквіуму ў Берліне Олеф Дзядэк і вядомы перакладчык, выдатны знаўца беларускай літаратуры Норберт Рандаў. Яны мелі гутаркі з кіраўніцтвам СП, пісьменнікамі. Па ініцыятыве нямецкага боку прынята дамоўленасць правесці ў маі 1992 г. у Берліне Дні беларускай літаратуры.**

**На працягу пяці дзён мне давялося суправаджаць гасцей, гаварыць з імі. Некалькі выказванняў, рэплік хочацца прапанаваць чытачу. Думаю, яны могуць быць не бескарысныя для нас ад чалавека, які яшчэ нядаўна жыў у ГДР, а ў выніку ўз'яднання яе з ФРГ больш як год таму назад стаў працаваць пры рыначнай эканоміцы, а дакладней, у капіталістычнай сістэме.**

●

**Сустракаючы гасцей у аэрапорце «Мінск-2», я заўважыў, што ў іх розныя пашпарты: у Дзядэка — ФРГ, у Рандава — ГДР.**

**— Ужо год няма ГДР як дзяржавы, а пашпарт стары дзейнічае? — кажу Норберту.**

— А навошта мяняць? — дзівіцца ён. — Каб усім аддрукаваць новыя кніжкі, трэба шмат грошай. Вось калі скончыцца тэрмін пашпарта, тады і заменяць.

**Адказ, як кажуць, у самае вока тым нашым дэпутатам, якія «ў мэтах эканоміі» галасавалі супраць змены назвы сталіцы Беларусі на Менск. Маўляў, надта вялікія затраты запатрабуе змена шыльд, бланкаў, пячатак і г. д. Хай бы старыя бланкі расходваліся, шыльды даслужылі свой век, а тады можна і новыя, як гэта робяць немцы.**

**— Гавораць, у вас цяпер багата тавараў, але не заўсёды ёсць за што іх купіць. А пра нас можна сказаць: грошы ёсць, толькі няма чаго за іх набыць. Што, на твой погляд, лепш?**

— Лепшы першы варыянт, таму што ён прывучае людзей працаваць і зыходзіць з перспектывы.

**Пасля я падумаў, што можа быць яшчэ і трэці, самы горшы варыянт, калі грошай не хапае, каб што купіць, але і тавараў няма.**

●

**— Як цяпер адчуваюць сябе былыя прадпрыемствы ГДР?**

— Не вытрымліваюць канкурэнцыі з прадпрыемствамі ФРГ.

**— А выдавецтвы?**

— Цяжка. Калі раней кніга па попыту стаяла побач з адзеннем і харчамі, то цяпер яна перайшла на трэцяе месца. Гэтае самае будзе і ў вас.

**— У нас ходкія дэтэктывы, фантастыка, творы рэпрэсіраваных аўтараў, даведачная літаратура. А як чытач насыціцца імі, што рабіць далей?**

— Выпусціць кружэлку Данчыка.

●

Сядзім за вячэрай. Я нагадваю, як адзін вядомы рускі паэт не так даўно пісаў, што хоць на паліцах у магазінах і не стае прадуктаў, аднак калі зойдзеш да каго ў госці, то ўбачыш даволі багата накрыты стол.

— Так, — заўважае Норберт. — Але ж колькі каштуе часу, каб усё гэта дастаць.

●

**— Як ты думаеш, ці атрымліваецца ў нас што з рыначнай сістэмай? — пытаю ў Рандава.**

— Мне здаецца, пакуль што вашы людзі не гатовыя да яе.

**— Згодзен. Цяпер нам часта ставяць у прыклад Польшчу. Але там праводзіўся рэферэндум і большасць людзей выказалася за рынак. У Польшчы людзі псіхалагічна гатовы былі да такога пераходу. Чамусьці не ўлічваюць, што там многае ўжо непасрэдна было зроблена да самой рэформы. Прыватная ўласнасць на зямлю, малая прыватызацыя, канвертуемы злоты, які стаў такім у многім дзякуючы дазволу любому грамадзяніну рабіць валютныя ўклады ў банках і многае іншае. У нашых жа людзей не пыталіся: пераходзіць на рынак ці не. Па звычцы, усё ідзе, спускаецца зверху. Адсюль нестабільнасць, магчымасць путчу і да т. п.**

●

**Напярэдадні ад'езду Норберт просіць, каб я выслаў яму здымкі ўдзельнікаў Дзён беларускай літаратуры і даведкі пра іх. Прывыкшы яшчэ да аб'яўлення незалежнасці Беларусі ўсю замежную карэспандэнцыю весці па-руску, на гэты раз удакладняю, на якой мове пісаць.**

— Калі вы аб'явілі незалежнасць рэспублікі і хочаце сцвердзіць сваю мову, дык, канечне, на беларускай. Хай шукаюць перакладчыка. І не хвалюйцеся, знойдуць. Хай прывыкаюць да вашай мовы.

●

**І апошняе. Пра самі Дні літаратуры. Як толькі ў нас пачалася перабудова, дык адразу перасталі праводзіцца дні літаратуры, культуры ў рэспубліках. Маўляў, гэта форма аджыла, трэба ствараць нешта новае. А вось немцы, дакладней, Літаратурны калёквіум, чамусьці выйшлі з такой ініцыятывай. Відаць, усё залежыць ад зместу, якім можна «начыніць» такія дні.**

**Аляксей ГАРДЗІЦКІ.**

# ЯШЧЭ АДЗІН РУХ?

16—17 лістапада ў Мінску праходзіла ўстаноўчая канферэнцыя Руху за дэмакратычныя рэформы на Беларусі.

Сярод 50 дэлегатаў з усіх абласцей і сталіцы Рэспублікі былі інжынеры, настаўнікі, бізнесмены, савецкія работнікі, вучоныя — юрысты, філосафы, эканамісты.

Напярэдадні канферэнцыі ў газеце «Белорусский рынок» (№ 9) былі апублікаваны праекты «Канцэпцыі пераходу да рынку» і праграмы РДРБ. У праграме, у прыватнасці, адзначаецца, што «паступовы пераход да рынку ўжо немагчымы». Таму рух выступае «за радыкальны варыянт». Праграма ўключае прыватызацыю (некалькі этапаў), зямельную рэформу, якая бясплатна дасць зямлю тым, хто яе апрацоўвае, жыллёвую і падаткавую рэформы, зняцце ўсіх перашкод для гаспадарчай ініцыятывы і камерцыі, уключэнне Беларусі ў міжнароднае раздзяленне працы. РДРБ выступае за стварэнне незалежных прафсаюзаў, якія змогуць эфектыўна адстойваць правы і інтарэсы працоўных.

Рух за дэмакратычныя рэформы ставіць на мэце стварэнне прававай дзяржавы і грамадзянскай супольнасці на Беларусі, заснаванай на прыярытэце асобы і прыватным праве. Галоўны прынцып: «Грамадзянам дазволена ўсё, што не забаронена законам».

З дакладамі на канферэнцыі выступілі кандыдат эканамічных навук Л. Злотнікаў, дацэнт БПІ В. Абрамава, літаратар С. Букчын.

Быў прыняты статут Руху за дэмакратычныя рэформы на Беларусі, у якім адзначаецца, што «РДРБ арыентуецца на тыя... сацыяльныя групы грамадства якія ставяць на мэце дасягненне народнай згоды ў ажыццяўленні эканамічных і палітычных рэформ і праявдзенні дэмакратычных кандыдатаў у органы заканадаўчай і прадстаўнічай улады ўсіх узроўняў».

Прынцып згоды сёння надзвычай актуальны. Але следаваць яму на практыцы, аказваецца, не так лёгка.

На другі дзень канферэнцыі адбылася характэрная падзея, якая ледзь не прывяла да расколу арганізацыі ў самым пачатку яе існавання.

Група дэлегатаў з Барысава прапанавала ў савет руху кандыдатуру маёра КДБ С. Панкратава. Гэта выклікала прынцыповую нязгоду часткі прысутных. Толькі пасля некалькіх гадзін дыскусій прадстаўнік «органаў» зняў сваю кандыдатуру. «Крызіс» мінаваў.

Сустаршынямі савета РДРБ выбраны Л. Злотнікаў і В. Абрамава, старшынёй выканкома — А. Віцень.

РДРБ заявіла аб сваёй самастойнасці ў дачыненні да Руху дэмакратычных рэформ, заснавальнікамі якога выступілі Э. Шэварднадзе, А. Якаўлеў і інш. На з'езд гэтай арганізацыі, які маецца адбыцца ў снежні ў Маскве, вырашана паслаць толькі назіральнікаў.

**НАШ КАР.**

ДУМКА ЧЫТАЧА

# КУДЫ НАМ ІСЦІ

**Што мы ведаем пра падзеі, якія адбываюцца навокал! Бадай, толькі тое, што яны складаныя, што ў бліжэйшы час лепей не будзе, што лёс самай «вялікай дзяржавы» — СССР — далёка не высветлены...**

А ці можам мы што-небудзь сказаць пэўнае пра будучыню сваёй Беларусі? Адны кажуць, што лепшае рашэнне ўсіх праблем — поўны суверэнітэт, другія — што без Саюза нам не жыць, а трэція, якіх большасць, слухаюць і не ведаюць, хто з іх мае рацыю, на чыім баку праўда. У сваіх спрэчках розныя палітычныя групоўкі шчодра выкарыстоўваюць паняцці «федэрацыя», «канфедэрацыя», «сумесная кампетэнцыя» і г. д. Між тым, не палітычныя партыі ў канчатковым выніку будуць вырашаць лёс Рэспублікі, а той самы народ, які хоча, ды, на жаль, не заўсёды здольны зразумець схаваны сэнс слоў і заклікаў.

**Дык вось, што такое федэрацыя? Людзі шмат разоў на дзень чуюць гэтае слова, але, як я пераканаўся, не зусім дакладна разумеюць яго сэнс: юрыдычны і палітычны, Юрыдычна федэрацыя ўяўляе сабой форму дзяржаўнай будовы, пры якой некалькі асобных дзяржаў утвараюць новую адзіную дзяржаву; гэта досыць жорсткі цэнтралізаваны саюз дзяржаў, якія аб'ядналіся з мэтай вядзення сумеснага ўнутранага і знешняга дзяржаўнага жыцця і перадалі дзеля гэтага цэнтральнаму федэральнаму ўраду важнейшыя функцыі і правы: абарону, транспарт, энергетыку, знешнюю палітыку, кантроль над важнейшымі галінамі вытворчасці і г. д. і пакінулі сабе, па сутнасці, толькі невялікую і не вельмі істотную частку кампетэнцыі. Для больш дакладнага ўяўлення аб федэрацыі параўнаю яе з уніяй і канфедэрацыяй.**

Унітарная дзяржава (унія) як форма дзяржаўнай будовы — гэта адзіная дзяржава, якая мае звычайны адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел (вобласці, прэфектуры, раёны і г. д.). Вырашэнне ўсіх пытанняў ва ўнітарнай дзяржаве падпарадкавана цэнтральнай адміністрацыі, і мясцовыя органы ўлады ажыццяўляюць толькі бягучую распарадчую дзейнасць.

Канфедэрацыя не з'яўляецца формай дзяржаўнай будовы, бо не ўтварае дзяржавы. Гэта саюз дзяржаў, якія валодаюць поўным суверэнітэтам, палітычнай і эканамічнай незалежнасцю і аб'ядналіся з мэтай больш эфектыўнага функцыянавання некаторых галін дзяржаўнага жыцця: ваеннай, эканамічнай і інш. Дзейнасць дзяржаў-удзельніц канфедэрацыі каардынуецца з сумесна ўтзоранага імі цэнтральнага органа, які не мае ў адносінах ні да аднаго з членаў канфедэрацыі ніякіх уладных паўнамоцтваў. Паколькі пры канфедэрацыі ўсё ажыццяўляецца на аснове добраахвотнасці, то тут дасягаецца сапраўдная незалежнасць дзяржаў, якія ў яе уваходзяць, цалкам захоўваецца іх дзяржаўны суверэнітэт.

Не трэба тлумачыць, чым адрозніваюцца унія і канфедэрацыя—тут усё відавочна. Дастаткова яснае і адрозненне федэрацыі ад канфедэрацыі: калі ў канфедэрацыі галоўнае месца пры вырашэнні любога пытання належыць незалежным дзяржавам-удзельніцам, то ў федэрацыі ўсё наадварот: у выпадку супярэчнасці ў рашэннях ці заканадаўстве апошняе слова застаецца за «цэнтрам», суб'екты федэрацыі (штат, рэспубліка) павінны яму падпарадкавацца.

**Праблема пачынае вымалёўвацца пры параўнанні федэрацыі з уніяй. Справа ў тым, што паміж імі не існуе выразнай і прынцыповай розніцы, як у папярэдніх двух выпадках. Калі там ёсць выразна акрэсленая мяжа, пераступіўшы цераз якую, заўсёды дакладна ведаеш, дзе знаходзішся, то тут мяжы няма, яна размыта. Фармальнае адрозненне заключаецца ў пераразмеркаванні кампетэнцый паміж цэнтральнымі і мясцовымі органамі: у федэрацыі яе суб'екты фармальна маюць больш кампетэнцыі, чым адміністрацыйна - тэрытарыяльныя адзінкі унітарнай дзяржавы. І ўсё. Колькасць тут зусім неабавязкова пераходзіць у якасць, бо няма каму вырашаць, ці дастаткова кампетэнцыі ў мясцовых улад, каб назваць дзяржаву федэратыўнай, і наадварот, ці настолькі яе мала, каб дзяржава называлася унітарнай. Гэта праблема нараджае гарачыя спрэчкі ў навуковым свеце. Але, самае галоўнае, яна нараджае шматлікія складанасці ў жыцці многіх дзяржаў. Неканкрэтнасць федэралізму ў тэорыі абарочваецца трагічнымі падзеямі ў рэальным жыцці. Напрыклад, у Савецкім Саюзе.**

Я б не пагадзіўся з думкай М. С. Гарбачова (і не толькі яго) аб тым, што, маўляў, СССР быў не федэрацыяй рэспублік, як запісана ў Канстытуцыі, а унітарнай дзяржавай. Адсюль вынікае простая і ясная выснова: ад кепскай унітарнай дзяржавы нам усім патрэбна хутчэй прыйсці да добрай федэратыўнай, і тады ўсё ў нас будзе проста выдатна. Гэта не што іншае, як непрыхаваны здзек над здаровым сэнсам, гістарычным вопытам, здзек над народамі, ашуканымі і прыніжанымі за гады савецкай улады.

Ні ў тэорыі, ні на практыцы ніякага суверэнітэту для суб'ектаў федэрацыі няма і быць не можа. Калі суб'екты федэрацыі атрымаюць суверэнітэт, федэрацыя стане канфедэрацыяй. Менавіта гэтага слова «канфедэрацыя» так баяцца прыхільнікі захавання «турмы народаў» — раней у «цэнтры», а цяпер яшчэ і ў Расіі. Ім выгадная блытаніна ў паняццях і ў розумах людзей, сумяшчэнне несумяшчальнага, дэмагагічнымі абяцаннямі гарманічнай федэратыўнай дзяржавы яны збіваюць народ з панталыку. Такая палітыка ідзе яшчэ з тых часоў, калі было ўсё роўна, што абяцаць: камунізм, харчовую праграму або жыллё да 2000 года — толькі б адурманіць народы і развязаць сабе рукі для новых злачынстваў.

Савецкі Саюз не быў унітарнай дзяржавай. Па ўсіх прыкметах форма дзяржаўнай будовы ў ім цалкам адпавядала федэрацыі з самага яго ўтварэння. Леніна, самага выкрутлівага з тагачасных бальшавіцкіх палітыкаў, не задавальнялі ні унія, ні канфедэрацыя. Першая — таму што азначала нібыта вяртанне да імперыі і магла нарадзіць шмат складанасцей нацыянальнага і палітычнага характару. Другая, хоць і не нараджала асаблівых складанасцей, але і існавання жорсткага бальшавіцкага рэжыму таксама з яе не вынікала. Узброіўшыся марксісцкай «дыялектыкай», Ільіч прыкінуў, што патрэбна штосьці сярэдняе: спачатку больш «свабоднае», а потым, калі трэба будзе закручваць гайкі, —закруцім. Свабоду для гэтага манеўра давала толькі такая цудоўная форма дзяржаўнай будовы, як федэрацыя. Учапіўся за яе Ільіч, і стала наша краіна федэратыўнай. У залежнасці ад абстаноўкі, як і прадбачыў правадыр рэвалюцыі, кампетэнцыю то давалі, то адбіралі, то мацней рабавалі народ, то слабей. У выніку ўсе рэспублікі ператварыліся ў «калоніі без метраполіі». Частка іх багаццяў ішла на ўтрыманне і абслугоўванне камуністычнага рэжыму, частка проста ішла ў пясок. Нікога нічога не цікавіла, СССР стаў вялікім калгасам, у якім усё ва ўсіх адбіралі і ўсе згубілі цікавасць як да іншых, так і да сваёй роднай зямлі. Пад кіраўніцтвам «партыі новага тыпу» СССР стаў «імперыяй новага тыпу», федэратыўнай «турмой народаў».

Той-сёй можа спытаць: паколькі федэрацыя такая ўжо кепская, то чаму некаторыя федэратыўныя краіны існуюць і квітнеюць многія дзесяцігоддзі і нават стагоддзі. Каб адказаць на гэтае пытанне, трэба падзяліць усе федэрацыі на два буйнейшыя тыпы: мананацыянальныя федэрацыі (тыпу ЗША, Германіі) і шматнацыянальныя (СССР, Індыя). Возьмем для прыкладу ЗША. Хоць насельніцтва ЗША складаюць перасяленцы і эмігранты розных нацыянальнасцей, яны не расселены па асобных тэрыторыях, а змешаны і раўнамерна размеркаваны па ўсёй краіне. Тут няма «кітайскага» або «нямецкага» штатаў, насельніцтва аднароднае і ўтварае адзіную амерыканскую нацыю, амерыканскі народ. Такая ж карціна ў ФРГ. Краіна падзелена на федэральныя землі, населеныя толькі і выключна немцамі. Як форма дзяржаўнай будовы, федэрацыя ў такой дзяржаве з'яўляецца формай простага падзелу кампетэнцыі паміж федэральным урадам і суб'ектамі федэрацыі. Калі гэта кампетэнцыя і пераразмяркоўваецца ў залежнасці ад палітычнай сітуацыі, то толькі дзеля дабра. Суб'екты амерыканскай федэрацыі—штаты, або нямецкай—федэральныя землі не прэтэндуюць на павелічэнне сваёй кампетэнцыі, а федэральныя ўрады — на яе памяншэнне з-за нейкіх амбіцый таго ці іншага боку, таму што ўсё падпарадкавана здароваму сэнсу і эканамічнай (палітычнай) неабходнасці.

Для СССР жа федэралізм — не проста форма размеркавання кампетэнцый, гэта форма ўзаемадзеяння паміж нацыянальна-тэрытарыяльнымі ўтварэннямі (рэспублікамі). Складанасці, супярэчнасці і канфлікты, звязаныя з гэтым узаемадзеяннем, выклікаюцца ў нас, як бы ўсё гэта ні затушоўвалася, адной галоўнай прычынай—нацыянальнай. У некаторых іншых дзяржавах прычыны могуць быць іншыя — расавыя, напрыклад. Пры гэтым для ўзнікнення канфлікту, акрамя нацыянальнага, абавязкова патрэбна яшчэ якая-небудзь прычына, часцей за ўсё эканамічнага або палітычнага характару.

Атрымліваецца свайго роду гаручая сумесь, бінарны зарад. Эканамічнае (і палітычнае) развіццё дзяржаў цыклічнае, таму міжнацыянальныя выбухі ў федэрацыях паўтараюцца з той жа заканамернасцю і прыкладна з той жа частатой, што і крызісы ў эканоміцы і палітыцы. Часцей за ўсё канфлікты наогул цалкам не затухаюць, а марудна тлеюць да наступнай успышкі.

**Уявім сабе такую сітуацыю. Адзін са штатаў у ЗША раптам пацярпеў ад бедства, або здарыўся неўраджай, або, у рэшце рэшт, разляніліся людзі. Калі дапусціць такое, то больш удалы суседні штат ніколі не скажа: «Чаму мы павінны на іх працаваць? Нахлебнікаў нам не трэба — аддзяляемся!» Гэты штат, як простая частка тэрыторыі асобнай дзяржавы, проста ціха падзеліцца з той часткай дзяржавы, якая церпіць бедства, дзеля таго, каб ЗША ў цэлым квітнелі.**

**Зусім іначай будзе выглядаць падобная сітуацыя ў СССР або, скажам, у Чэха-Славакіі, Югаславіі, Індыі. Адразу ж усплывуць нацыянальная падазронасць, варожасць, пачнуць гучаць узаемныя папрокі і абвінавачанні. Найбольш гарачыя з «братніх рэспублік» возьмуцца за зброю... Натуральна, пры адсутнасці свабоды народ кожнай рэспублікі будзе падазраваць іншыя народы ў тым, што яны яго абабралі, нешта несправядліва падзялілі і г. д. Ці ж можа ўстаяць «саюз непарушны» на хісткім пяску народжанай ім нацыянальнай варожасці? Вядома ж, не. Рана ці позна яму прыйдзе заканамерны канец — добра, калі бяскроўны.**

Гісторыя паказала немагчымасць адзінага існавання таго, што адзіным быць не можа. Гвалтоўна сабраныя ў імперыю народы зноў імкнуцца набыць незалежнасць. Гэта цяжкі і небяспечны шлях, але ён варты таго, каб яго прайсці. Свабода, як і наогул любая высокая мэта, патрабуе ахвяр. Мы можам толькі старацца зрабіць так, каб гэтых ахвяр было менш.

На жаль, не заўсёды так бывае. Дагэтуль прадаўжаюць гучаць галасы, што беларускі народ павінен жыць у «федэрацыі суверэнных рэспублік». Можна спытаць: навошта? Ці не для таго, каб быць уцягнутым ва ўнутрыўрадавую грызню і «палацавыя інтрыгі» свайго ўсходняга суседа, які не можа саўладаць з уласнай «маладой дэмакратыяй»? Альбо зноў захацелася стаць «Паўночна-Заходнім краем»? А можа, нам, жорстка пацярпеўшым ад Чарнобыля і не атрымаўшым дапамогі ад «сяброў», зноў хочацца сваёй працай і сродкамі латаць дзіркі ў чужой эканоміцы? Думаю, што не. Толькі безадказны чалавек можа абысці горкі вопыт мінулага, штурхнуць Беларусь у бездань федэратыўнага «Саюза». Выйсцем для ўсіх можа быць толькі дасягненне сапраўднага суверэнітэту тымі рэспублікамі, якія здольны быць суверэннымі ў сілу гістарычных, культурных і эканамічных умоў.

Яшчэ больш за год назад відны амерыканскі палітык і вучоны Збігнеў Бжэзінскі ў адным са сваіх даследаванняў пісаў аб перспектыве Савецкага Саюза: «...Узнікненне канфедэрацыі або садружнасці нацый акажацца ў будучым найлепшым выйсцем для ўсіх зацікаўленых бакоў—для рускіх, для большасці нярускіх і ўжо, вядома, для ўсяго астатняга свету. Фактычна падобнае вырашэнне праблем — адзіна правільнае, яно дазваляе спалучаць дэмакратыю з адносным адзінствам. Дэмакратыя і працвітанне перастануць быць для рускага народа недасягальнымі мэтамі, таму што гэтага нельга дамагчыся, падаўляючы іншыя народы. Для нярускіх народаў гэта азначае, што яны стануць гаспадарамі на сваіх тэрыторыях, пазбегнуўшы канфліктаў і гвалту. Еўрапейская садружнасць нацый стане сапраўды плюралістычнай і стабільнай». Для «правільнага выкарыстання» федэралізму дзяржаве, акрамя пэўных нацыянальна-гістарычных перадумоў, патрэбна яшчэ асаблівая палітычная культура. Ні таго, ні другога ў савецкай федэрацыі, утворанай на аснове Расійскай імперыі, не было і быць не магло. Таму развал Саюза ССР — заканамерны і гістарычна справядлівы працэс. Вядома, пэўныя сувязі паміж рэспублікамі захаваюцца і заўсёды будуць існаваць. Але яны павінны быць толькі добраахвотнымі і не выходзіць за межы свабоднай канфедэрацыі дзяржаў.

Калі і можна гаварыць цяпер пра нейкую федэрацыю, то толькі пра магчымае ў аддаленай будучыні збліжэнне Беларусі з Еўрапейскай садружнасцю. Але для таго, каб дасягнуць узроўню агульнаеўрапейскай федэрацыі, нам неабходны працяглы перыяд паскоранага эканамічнага і палітычнага развіцця ў самастойнай дзяржаве. Пакуль жа, каб не было блытаніны, усялякія размовы аб федэрацыі лепш зусім пакінуць.

**Андрусь АЛЕШКА,**
**студэнт юрыдычнага факультэта МДУ імя М. В. Ламаносава,**
**старшыня ўправы згуртавання беларускай моладзі Масквы «Пагоня».**

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# КОЗЫР— «ПІКАВАЯ ДАМА» ЧАРНОБЫЛЯ?

Чарнобыльская карта. Балюча глядзець, як яе разыгрываюць не толькі ў рэспубліцы, але і ў Саюзе. Сам такі выраз абражае не толькі тых беларусаў, што жывуць у забруджанай мясцовасці, але і ўсіх маіх землякоў. Калі прасачыць за спрэчкамі па пытанні падпісання Саюзнага дагавора БССР, то добра бачна, што адзін з цэнтральных довадаў і «федэралістаў», і «незалежнікаў» — чарнобыльская аварыя. Але зірнём на гэтую праблему збоку, вачамі простага расейскага абывацеля. З яго поглядаў складаецца грамадская думка і, як следства, палітыка мясцовых улад. Што людзям кажа пра аварыю «чацвёртая ўлада» — друк? Вольна ці міжвольна ён прыніжае памеры катастрофы і зводзіць іх на нішто. Стала модным сярод тэле- і радыёкарэспандэнтаў СССР, РСФСР, пералічваючы прыродныя катаклізмы і аварыі, ставіць побач з чарнобыльскім выбухам не толькі Арал і Армянскі землятрус (гэта яшчэ можна зразумець), але і транспартныя аварыі, лакальныя прыродныя стыхіі, якіх па статыстыцы ў свеце адбываецца тысячы! Ненаўмысна ці наўмысна гэта робіцца—цяжка сказаць. Тым не менш, людзі думаюць адпаведна падаваемай інфармацыі. Больш таго, з лёгкай рукі сродкаў масавай інфармацыі ўжо з'явілася адзінка вымярэння — адзін чарнобыль. Вынік работы хімкамбіната «Маяк», што на Урале, — 20 чарнобыляў («Огонёк»). Экалагічная забруджанасць Запарожжа — 2 чарнобылі (праграма «Час»). Для дасведчаных людзей — гэта бязглуздзіца. Для большасці грамадскасці — гэта цікавыя, «смажаныя» факты. Гэткая палітыка ўжо дала свае вынікі. У Маскве, напрыклад, адносіны да чарнобыльскай праблемы і да праблемы іракскіх курдаў прынцыпова не адрозніваюцца: недзе некаму кепска. Не лепшае становішча і ў іншых кутках Расіі, Казахстана, Узбекістана. Ды што там, нават на Беларусі нямала абыякавасці да лёсу і здароўя свайго народа. Не буду спрошчваць і звальваць усё толькі на друк, тэлебачанне і радыё. Краіна стогне ў сударгах нацыянальных канфліктаў, эканамічнага крызісу, навокал галеча, злачыннасць. Сляпому бачна, што СССР больш не існуе.

Эгаізм ахоплівае і будзе ахопліваць не толькі арганізацыі і прадпрыемствы — цэлыя народы ў перыяд распаду імперыі будуць ігнараваць інтарэсы саюза і ў нейкай ступені суседзяў. Ад гэтага нікуды не дзенешся, бо, скажыце, ці вельмі хвалюе беларускі ўрад праблема забруджанасці Урала? Скажам шчыра, не больш, чым чарговы тайфун на японскім узбярэжжы. Дык чаму ж мы чакаем іншых адносін да сябе? Мабыць, няма сэнсу падсоўваць сваім палітычным апанентам «пікавую даму» Чарнобыля. Лепш сумесна адыграць козыры ў цэнтра.

**Віктар НАГНІБЯДА.**
г. Масква.

# Хто прагне рэваншу

## Сакратары былога Наваполацкага ГК КПБ кожную раніцу прыходзяць на працу ў свае кабінеты

ПЕРШАМУ сакратару былога Наваполацкага ГК КПБ А. Захаранку я пазваніў дахаты і, прызнаюся, быў здзіўлены, калі на маю просьбу аб сустрэчы пачуў у трубцы дзелавітае: «Прыходзьце да мяне ў гарком»...

У час сваіх вандровак-камандзіровак я неаднойчы меў магчымасць упэўніцца ў тым, што бадай у кожным райцэнтры райком партыі можна знайсці, не пытаючыся, па адной адзінай прыкмеце — звычайна ён месціцца ў самым прыкметным будынку. Не пакрыўджаны ў гэтым сэнсе і Наваполацкі гарком партыі, які займае трэці паверх вялізнага (ці не на цэлы квартал) дома ў цэнтры горада.

Кабінет Алега Дзянісавіча — дакладная копія кабінетаў партыйных кіраўнікоў такога рангу: масіўны пісьмовы стол, ля якога з аднаго боку стаіць тумбачка з тэлефонамі, з другога — столік з двума крэсламі абапал — для наведвальнікаў. Ёсць у кабінеце і другі стол — доўгі, як узлётная паласа, за якім праводзяцца пасяджэнні. Завяршаюць карціну цяжкія, «пад дуб» уваходныя дзверы, паркетная падлога, дывановая дарожка.

Мне часам здаецца, што людзі, якія стаялі ля вытокаў гэтага а-ля партстылю, кіраваліся не столькі эстэтычнымі меркаваннямі, колькі жаданнем, мо і падсвядомым, выклікаць у наведвальніка трапяткую пачцівасць, нават пачуццё страху адно толькі ад усведамлення таго, дзе ён апынуўся...

А. Захаранка — сярэдняга росту каржакаваты мужчына сарака з нечым гадоў. У першых ходзіць (хадзіў?) з ліпеня 1991-га, да гэтага пару год працаваў другім сакратаром гаркома, а яшчэ раней аж 13 гадоў быў вызваленым сакратаром парткома буйнога будаўнічага трэста ў Наваполацку. З непрыхаваным гонарам Захаранка расказвае, што мае дзве вышэйшыя адукацыі — скончыў гістарычны факультэт БДУ і Наваполацкі політэхнічны інстытут. Ці шкадуе ён, што не папрацаваў па набытых спецыяльнасцях? Не, не шкадуе. Амаль тое самае мне скажа і сакратар гаркома па ідэалогіі Валянціна Дзмітрыеўна Фралова, хімік па адукацыі, якую, па яе словах, аднойчы «пацягнула» на партыйную работу.

Што тут сказаць? Партфункцыянеры іх пакалення, пазбаўленыя, упэўнены, камуністычных ілюзій (чаго нельга сказаць, пра большасць партыйцаў, напрыклад, дваццатых гадоў), занялі партапаратныя крэслы з адзіным жаданнем далучыцца да клана эліты, гаспадароў жыцця. Яны, не абцяжараныя крыштальным сумленнем, падыходзілі партыі. Партыя падыходзіла ім...

Алег Дзянісавіч вельмі не любіць Міхаіла Гарбачова і не хавае гэтага ад заезджага журналіста. Асабліва не можа ён дараваць свайму ўчарашняму генсеку прыпыненне апошнім дзейнасці КПСС. На маю заўвагу, што ЦК кампартыі, фактычна, стаяў ля вытокаў путчу, падтрымаў яго, Захаранка са злосцю гаворыць: «Гэта трэба яшчэ паглядзець, хто і дзе стаяў...»

Увогуле ж, пра свае адносіны да жнівеньскіх падзей Алег Дзянісавіч гаворыць досыць асцярожна, заўважыўшы толькі, што ён не падтрымаў ГКЧП. Памылковай, па яго словах, была і заява бюро ЦК КПБ аб салідарнасці з путчыстамі.

Слухаў яго і ўспамінаў свае сустрэчы з дэпутатамі Наваполацкага гарсавета ад Дэмакратычнага форуму, якім давялося ў дні жнівеньскіх падзей блізка сутыкацца з першым сакратаром гаркома. Тады, расказвалі яны, ён адчуваў сябе на кані, не хаваючыся, пагражаў сваім апанентам: маўляў, вось цяпер мы за вас возьмемся...

Можна толькі здагадвацца, як напалохала яго паражэнне путчыстаў. Але цяпер, як мне здалося, Захаранка супакоіўся. Пэўна, ён чакаў горшага. Так, пастановай гарадскога Савета кабінеты гаркома партыі яшчэ 25 жніўня былі апячатаны і тут нават быў выстаўлены міліцэйскі пост, але ўжо праз некалькі дзён Алег Дзянісавіч абскардзіў гэтую пастанову ў пракуратуры, і сакратары гаркома зноў селі за свае сталы.

«Па-ранейшаму я першы сакратар гарадскога камітэта кампартыі Беларусі,— цвёрда заяўляе Захаранка.— Ніхто мяне з гэтай выбарнай пасады не звальняў. Зрабіць гэта можа, калі палічыць патрэбным, гарадская партканферэнцыя. Але ж нам не дазваляюць яе правесці. Тыя ж дэмакраты...»

Як бы там ні было, сакратарам гаркома, іншым работнікам, у тым ліку шафёру гаркомаўскай машыны, ідзе зарплата, Захаранка, як і раней, ездзіць па сваіх справах на службовай «Волзе».

«Па ўсім відаць, партыйная каса ў вас не збяднела»,— кажу Алегу Дзянісавічу. «Грошы ў нас ёсць,— пагаджаецца ён,— нядаўна 15 тысяч рублёў выдаткавалі на харчаванне студэнтаў». «І ўсё за кошт партузносаў?»— пытаюся. «Вядома ж»,— чую ў адказ.

Хітруе Захаранка, лепш за мяне ведае, што існаваць толькі за кошт партузносаў, нават калі дадаць да іх сродкі, выручаныя партпрэсай і партвыдавецтвамі, партыя не змагла б.

Нядаўна ў «Комсомольской правде» быў надрукаваны, знойдзены ў архівах ЦК КПСС, цікавы дакумент пад назвай: «Аб неадкладных мерах па арганізацыі камерцыйнай і знешнеэканамічнай дзейнасці партыі», дзе перад партыйнымі кадрамі ставіцца задача «вучыцца гандляваць». Пры гэтым патрабуецца, як гаворыцца ў дакуменце, «захаванне разумнай канфідэнцыяльнасці і выкарыстанне ў шэрагу выпадкаў ананімных форм, якія маскіруюць прамыя выхады на КПСС. Канчатковая мэта, пішацца тут далей, будзе заключацца ў тым, каб разам з камерсіялізацыяй наяўнай партыйнай уласнасці планамерна ствараць структуры нябачнай партыйнай эканомікі, да работы з якой будзе дапушчана вельмі вузкае кола асоб». Звяртаюць тут увагу словы «нябачная», «ананімныя»... Дальбог жа, бальшавіцкая партыя перастала б быць сама сабой, калі б не рабіла са сваёй дзейнасці тайны.

Пусціўся ў камерцыю і Наваполацкі гарком партыі. Сёлета ён, напрыклад, арганізаваў аўкцыён, на які былі выстаўлены для продажу дэфіцытныя тавары, у тым ліку тэлевізары і халадзільнікі. Выручаныя грошы, больш як 50 тысяч рублёў, сказаў мне Захаранка, пайшлі на дапамогу ветэранам. Не пажадаў ён толькі расказаць, як гаркому ўдалося набыць гэты дэфіцыт.

Летась гарком стаў заснавальнікам малога прадпрыемства пад назвай «Перспектыва». Па словах Захаранкі, ніякай практычнай выгады гарком ад «Перспектывы» не мае. Дык навошта гэта было рабіць? Алег Дзянісавіч у адказ толькі пацiснуў плячамі. Сёе-тое ўдалося высветліць у час гаворкі з дырэктарам шматпрофільнага малога прадпрыемства «Перспектыва» М. Пілімонам, які, дарэчы, трапіў сюды з пасады загадчыка арганізацыйнага аддзела Наваполацкага гаркома партыі («Перспектыва», дарэчы, месціцца ў гэтым жа памяшканні). Аказваецца, «пад аўтарытэт» вышэйшай у горадзе партыйнай улады малое прадпрыемства ўзяло ў банку крэдыт, набрала людзей і пачало досыць паспяхова працаваць — ужо амаль выплацілі крэдыт. МП добра зарабляе на ўзвядзенні розных гаспадарчых пабудоў у раёне. «Мы нават свой цагельны заводзік пабудавалі»,— пахваліўся Мікалай Сцяпанавіч. «Ну і якая карысць ад вашай дзейнасці гаркому?» — пытаюся я. Пілімон пераводзіць гаворку на іншае, але ўрэшце гаворыць праўду. Аказваецца, малое прадпрыемства, заснаванае грамадскай арганізацыяй, плаціць падатак з прыбытку ў памеры 35 працэнтаў, а не 45, як іншыя. Вось гэтую розніцу ў дзесяць працэнтаў — прыблізна 50 тысяч рублёў — «Перспектыва» і павінна пераводзіць на рахунак гаркома, як свайго заснавальніка. Я кажу Мікалаю Сцяпанавічу, што гарадскі камітэт партыі, відаць, дапамагаў малому прадпрыемству наладжваць сувязі з рознымі арганізацыямі і прадпрыемствамі—без гэтага ў наш час пратэкцый абысціся цяжкавата. Пілімон загадкава ўсміхаецца: «У рэшце рэшт, гарком зацікаўлены ў нашых поспехах».

У маю задачу не ўваходзіла высвятляць, як дапамога партыйных кіраўнікоў малому прадпрыемству суадносіцца з існуючым заканадаўствам, а мо і з крымінальным кодэксам. Можна толькі здагадвацца, як тут, скажам, выкарыстоўвалі «тэлефоннае права»...

70 гадоў РКП — ВКП(б) — КПСС спусташала дзяржаўную кішэню. Сёння, калі паўсюль гучаць патрабаванні вярнуць народу нарабаваную ў яго маёмасць, камуністычная вярхушка пачынае плакацца, апеляваць да мільёнаў радавых членаў партыі: маўляў, вас хочуць пакрыўдзіць. Ды не іх! Не радавыя камуністы адпачывалі ў шыкоўных санаторыях і пансіянатах, дачах і «паляўнічых» доміках, не яны жылі ў дамах «палепшанай» планіроўкі, займаючы двухсотметровыя кватэры. Зазірніце ў будынкі райкомаў, гаркомаў, абкомаў, ЦК КПБ — усюды безгустоўная раскоша, дзе трэба і не трэба — мармур, гранітная плітка, паркет з каштоўных парод дрэва, свяцільнікі коштам у тысячы рублёў кожны, імпартная сантэхніка і г. д. Няўжо ўсё гэта пабудавана і прыдбана на сабраныя партузносы? А можа, усё-такі за кошт дзяржавы, за кошт падаткаплацельшчыкаў?

У Наваполацку мне трапіў у рукі досыць цікавы дакумент, які працытую цалкам (ён невялікі). «Распараджэнне № 124 ад 5 мая 1990 года. Перадаць бязвыплатна на баланс гаркома партыі частку будынка выканкома Наваполацкага гарсавета агульнай плошчай 1087,28 кв. м. і балансавым коштам 123724 р. Старшыня выканкома Наваполацкага гарсавета Г. Г. Голуб» (цяпер Г. Голуб, дарэчы, з'яўляецца намеснікам дырэктара Наваполацкага малога прадпрыемства «Эўрыка»).

«Давайце ўявім сабе,— кажу я сакратарам гаркома,— што Вярхоўны Савет Беларусі прымае пастанову аб аднаўленні дзейнасці КПБ. Якія вашы першыя захады?» Захаранка і Фралова ў адзін голас адказваюць, што адразу б пачалі падрыхтоўку да выбараў, каб забяспечыць камуністам большасць мандатаў ва ўсіх органах улады, уключаючы Вярхоўны Савет. «Мінулыя выбары ў Наваполацкі гарадскі Савет,— кажа Захаранка, — мы прайгралі. Сёння камуністы тут складаюць толькі палову дэпутацкага корпуса. Нам жа патрэбна пераважная большасць, каб фарміраваць палітыку». Няўжо мае субяседнікі спадзяюцца, што вернецца мінулае? Праўда, Валянціна Дзмітрыеўна (відаць, з «папраўкай» на прысутнасць карэспандэнта) кажа, што калі кампартыю легітымізуюць, яны ў сваёй працы ўлічаць дапушчаныя раней пралікі. «У партыйных кіраўнікоў павінна быць больш сціпласці,— гаворыць яна.— Вось і нам трэба будзе адмовіцца ад цяперашніх апартаментаў, хопіць аднаго гэтага майго кабінета.— Злавіўшы пануры позірк Захаранкі, папраўляе сябе: — Ці вось Алега Дзянісавіча».

Калі б Алега Дзянісавіча абралі дэпутатам Вярхоўнага Савета (уявім і такое), дык, мяркую, першае, што б ён зрабіў, — унёс бы прапанову аб скасаванні закона аб дэпартызацыі. З нашай з ім гаворкі я ведаю, што закон гэты Захаранку дужа не падабаецца, бо «накіраваны супраць інтарэсаў працоўных». Ні больш, ні менш. «Калі я працаваў сакратаром парткома будаўнічага трэста,— расказваў ён,— да мяне заўсёды прыходзілі рабочыя, каб я абараніў іх ад няправільных дзеянняў адміністрацыі». Але галоўнага Захаранка чамусьці не сказаў: што дэпартызацыя нанесла сакрушальны ўдар па партыі, фактычна разбурыўшы яе структуру, якая грунтавалася на вытворчым прынцыпе. Ці многа камуністаў данеслі свае партбілеты да пярвічных арганізацый па месцы жыхарства? Валянціна Дзмітрыеўна шчыра прызнаецца, што, на яе думку, зараз з 5 тысяч наваполацкіх камуністаў засталося ў партыі не больш тысячы. Але і з імі, лічыць яна, трэба працаваць. Як? Зноў павышэннем узроўню агітацыі і прапаганды, якім партыя заўсёды надавала першаступенную ўвагу? Валянціна Дзмітрыеўна прызнаецца, што ў апошнія гады народ стаў вельмі апалітычны, агітатары скардзіліся, што іх не хочуць слухаць, ды і знайсці талковага прапагандыста стала амаль немагчымым. Нават таварыства «Веды», якое заўсёды было апірышчам КПСС, вымушана змяніць тэматыку сваіх лекцый, на тыя, «пра авангардную ролю партыі», людзі не ідуць. «Але затое,— гаворыць Фралова,— які ажыятаж з білетамі ўзнік у горадзе, калі сюды прыехала экстрасенс і чарадзейка вядомая бабка Фядора. У залу было не ўбіцца. І жонка касманаўта Паўла Паповіча Марына Паповіч, якая прыязджала ў якасці старшыні ўсесаюзнага таварыства па НЛА, ішла «на ўра»... Сапраўды, падумаў я, куды цікавей пачуць пра неапазнаныя лятаючыя аб'екты, чым пра «апазнаную» КПСС...

У калідоры гаркома звярнуў увагу на прымацаваны да сцяны вялікі стэнд: «Актывісты ідэалагічнай работы». Партрэты актывістаў некуды зніклі, засталася адна цытата з У. І. Леніна: «Искусство всякого пропагандиста и всякого агитатора в том и состоит, чтобы лучшим образом повлиять на данную аудиторию, делая для нее известную истину возможно более убедительной, возможно более усвояемой, возможно нагляднее и тверже запечатляемой».

Ведаў бы Ільіч, што на змену камуністычным агітатарам прыйдзе бабка Фядора, якая сапраўды пакажа, «как лучшим образом повлиять на данную аудиторию»...

«Аўдыторыя» ж да апошняга часу не ведала, нават не падазравала аб некаторых баках дзейнасці камуністычнай партыі. Тут, у Наваполацку, я пазнаёміўся з дакументам, які скалануў мяне сваім цынізмам, бессаромнасцю, ад якога патыхнула смуродам страшнага 37-га. Дакумент гэты — даведка аб дзейнасці наваполацкіх дэмакратычных суполак і рухаў, зробленая па заданні гаркома КПБ. З'явілася яна ў сакавіку 1988 года з нагоды меўшага быць «Дня адкрытага пісьма», на якім павінен быў выступіць з адказам на пытанні працоўных Наваполацка першы сакратар Віцебскага абкома КПБ Грыгор'еў. Вось некалькі цытат з гэтай «даведкі», а, фактычна, даносу. «Нягледзячы на тое, што аб сустрэчы (з У. Грыгор'евым.—**М. З.**) было аб'яўлена ў газеце «Химик», нейкай ініцыятыўнай групай працягвалася агітацыйная работа па прыцягненні да сустрэчы найбольшай колькасці жыхароў... Па дамоўленасці з Г. Маісеевым (народны дэпутат Беларусі, кіраўнік «Зялёнага руху» ў Наваполацку.—**М. З.**) рэдактар радыёгазеты завода «Нафтаоргсінтэз» 17 сакавіка ў 12.40 у час радыёперадачы самавольна аб'явіў аб маючай адбыцца сустрэчы з Грыгор'евым і заклікаў прыняць у ёй удзел рабочых прадпрыемства... 17—18 сакавіка неўстаноўленымі асобамі перадаваліся тэлефанаграмы ў розныя ўстановы горада з заклікам прыняць удзел у «Дні адкрытага пісьма»... У зале Палаца культуры «Хімік», які разлічаны на 600 чалавек, сабралася больш як тысяча, яшчэ каля чатырох тысяч сабралася на вуліцы, куды невядомымі асобамі вялася трансляцыя з сустрэчы... У руках у людзей былі транспаранты і лозунгі з наступным зместам: «Не знішчайце лес!», «Дайце нам чыстай вады!», «Што мы пакінем нашчадкам?» На адным з транспарантаў быў намаляваны кран, з якога цякла брудная вада...»

Вельмі паважаны і аўтарытэтны ў Наваполацку чалавек, да якога выпадкова трапіў гэты данос, параіў мне звярнуць асаблівую ўвагу на тыя мясціны «дакумента», дзе даецца расшыфроўка пашпартных дадзеных асоб, што выступалі на сустрэчы ад мікрараёнаў. «Сапраўдная агентурная работа»,— падкрэсліў мой знаёмы. У справядлівасці ягоных слоў я ўпэўніўся, прачытаўшы такія радкі: «Ерафееў Яўгеній Мікалаевіч, 1943 г. нарадж. Слесар завода шкловалакна. Жыве па адрасе: Наваполацк, Калініна, 3. Выкрыкваў: «Не пудрыце нам мазгі»; Альтбрэгін Марк Міхайлавіч, нарыхтоўшчык канторы другаснай сыравіны. Паводзіў сябе агрэсіўна, неаднойчы перабіваў Грыгор'ева, нешта выкрыкваў; Корзін Мікалай Мікалаевіч, 1938 г. нарадж. Ураджэнец вёскі Сквірцы Міёрскага раёна, трэнер ДСТ «Садко» (у руках быў пачак папер). Сказаў наступнае: «Беларускі народ шмат пакутаваў, вам прыйдзецца несці адказнасць за здзекі над ім»; Гусакоў Віктар Мікалаевіч, 1938 г. нарадж. Нарадзіўся ў вёсцы Літвінава Полацкага раёна. Электраманцёр цэха № 14 завода «Палімір», хатні адрас: Наваполацк, Маладзёжная 103, кв. 81. Гаварыў ад мікрафона, што камуністы, прыкрываючыся партбілетамі, робяць свае чорныя справы...»

Хто выконваў гэтую брудную работу для гаркома? Мясцовы КДБ? Міліцыя?

Сустрэча з вялікім партбосам была прысвечана пытанням экалогіі — праблеме для навапалачан надзвычай балючай. Вось ужо колькі гадоў яны з'яўляюцца заложнікамі буйных хімічных прадпрыемстваў, што выкідваюць у паветра тысячы тон атрутных рэчываў. У горадзе пастаянна расце крывая захворванняў, у тым ліку і анкалагічных. Дык чаму, спытае каторы нездагадлівы чытач, трэба было прымаць перад сустрэчай і ў час яе такія меры перасцярогі? Усё тут ясна: партыйныя кіраўнікі да смерці напалохаліся, што тое «мерапрыемства» выйдзе за вызначаныя межы. Гаркомаўцы разумелі, «чыя кошка мяса з'ела», хто блаславіў будаўніцтва наваполацкага прамысловага вузла, падначаленага адразу тром цэнтральным міністэрствам, хто, дзеля тысяч тон хімічнага валу, грэбаваў жыццём насельнікаў горада, не хацеў унікаць у тое, якім паветрам яны дыхаюць, якую ваду п'юць, у якіх умовах працуюць? Адыграў, вядома, сваю ролю ва ўсёй гэтай непрыгляднай гісторыі і выхаваны таталітарным рэжымам страх перад высокім партыйным начальнікам,

(Працяг на стар. 12).

## Анкета «ЛіМа»

1. На што, па-вашаму, абапірацца творцу, у прыватнасці пісьменніку, ва ўмовах «міжчасся», няўхільнага насоўвання рынку? Ці можна сёння пісаць, як раней, — як бы па інерцыі?

2. Як вы ставіцеся да спробаў стварэння беларускай масавай культуры, да жадання некаторых маладых літаратараў здабыць вядомасць, спадабацца чытачам «любой цаной»?

3. Ці дапускаеце вы, зноў жа ўлічваючы «рыначныя» густы, свядомую эксплуатацыю той ці іншай «моднай» формы? Ці дапаможа нам арыентацыя на фармальны пошук і чужыя знаходкі ў вырашэнні моўных, чытацкіх і іншых праблем?

Іван ЧАРОТА

# «МІЖЧАССЕ» МІНЕ, А ШТО ЗАСТАНЕЦЦА?

1. Мушу адзначыць, што пытанні даволі правакацыйныя і наводзяць на асацыяцыі з «зачараваным колам». Аднак тут на дзіва прыдатным аказваецца не павярхоўнае, а першаснае, рытуальна - магічнае значэнне пераасэнсаванай метафары: той, каму хацелася большых скарбаў, моцы, памыснасці, выходзіў самай нялюдскай парою на ростань, каб спагнаць жаданае з нячысціка, і там сабе акрэсліваў замоўленым прутам на зямлі круг, у якім павінен быў утрымацца, не саступіць...

У такой праекцыі не лішне паглядзець на цяперашнія літарацкія клопаты. Хоць бы дзеля таго, каб яшчэ раз пераканацца, што нічога (амаль) новага на свеце не адбываецца. А гэта значыць таксама, што дарэмна мы зацыкліваемся на так званым «міжчассі».

Яно, бадай, вытлумачваецца: абсурдная рэальнасць, успрынятая ўсімі пяццю — у пісьменнікаў ды яшчэ ўзрушанымі — пачуццямі, засланяе і перспектыву, і рэтраспектыву. Аднак супакоіўшы сенсорыку, так ці інакш адкрываеш вельмі проста зразумелае і неаспрэчнае: мы ў аднолькавай ступені з усімі папярэднікамі і наступнікамі апынаемся МІЖ былым і будучым. Да прыкладу, хіба трывалейшы, прасцейшы час выпадаў на долю С. і Т., Б. і Г., К. і Л..? Крыптонімы тут для таго, каб кожны мог узяць любую эпоху і любое яму вядомае імя з гісторыі нашай культуры. Так што справа не ў саміх па сабе «між-, над-, па-за-чассях». Усё залежыць ад таго, якое значэнне надаецца часовасці, наколькі добраахвотна ствараецца замкнёнае ў часе кола творчых ды пабочных інтарэсаў і як вырашаецца сфармуляванае ў анкеце пытанне, «на што абапірацца».

Пісьменнік ва ўсе часы мог і мусіў абапірацца на дараваны яму талент і набытае самім сумленне. А калі бракуе і таго, і таго? Што ж, гэта блага, аднак не дзіўна і не так ужо страшна, бо ўсё роўна ў літаратурным працэсе больш як дзесяць гадоў паўназначна існуе толькі 1 % выдадзеных твораў. Астатнім наканавана з'явіцца і знікнуць у тым самым «міжчассі». Пры нармальных умовах гэта заканамернасць, і, як ні прыкра, незваротная.

У розных накірунках можа пайсці гаворка аб магчымасцях «пісаць, як раней,— як бы па інерцыі». Мне асабіста важнымі ўяўляюцца незапраграмаваныя ў пытанні аспекты. Адзін з іх адкрываецца, калі да першай часткі сфармуляванага зрабіць сваё ўдакладненне: ці мог бы сёння пісаць, як раней... напрыклад, Багдановіч? Ну, а пры нязменнай фармулёўцы таксама не абыдзешся простым адказам. Шэдэўры не толькі ў асобнага творцы, але і ў нацыянальнай літаратуры з'яўляюцца далёка не штогод, успышка натхнення так ці інакш суправаджаецца доўгачасовым паценнем, і толькі сёння можа канчаткова аформіцца тое, што абудзілася ў душы даўно і пакутліва спела ранейшыя гады ці нават дзесяцігоддзі. Апроч таго, не варта забывацца, што інерцыя — рух у той час, калі па асноўных законах павінен быць стан спакою; дык няхай выяўляюць інерцыю дадатная сіла, дзейснае сумленне, няўрымсны талент.

Пры ўсім гэтым нікуды не

Віктар ЯРАЦ

# РЭЧАІСНАСЦЬ БЕЗ ГРЫМУ

## Публіцыстычная паэзія часоў перабудовы

НА АДНЫМ з пісьменніцкіх сходаў разгаварыліся з Алесем Асіпенкам пра новыя творы, пра ўдачы і няўдачы ў літаратуры. Алесь Харытонавіч згадаў, між іншым, і такое: «Калі выйшаў зборнік Пімена Панчанкі «Крык сойкі», я сказаў пры сустрэчы, што зборнік моцны, добрыя вершы, але ёсць і не вельмі — прахадныя, так сабе». На шчырую, без хітрыкаў, ацэнку Пімен Емяльянавіч адказаў з уласцівай яму праматой: «А ты што хацеў, каб толькі адны добрыя?»

Гэтую гаворку прыводжу таму, што ў ёй лаканічна адлюстравана разуменне творчасці як працэсу, у якім — не адны толькі ўзлёты і поспехі, перамогі і адкрыцці, але і прабуксоўка, «бег на месцы».

Па-свойму цікавым мастацкім матэрыялам для шырокага чытача і для даследчыкаў сталася вершаваная публіцыстыка апошніх гадоў. Многія творы шмат у чым выявілі свой час, яго духоўна-грамадзянскія параметры. Пацвярджае гэта і зварот да такіх рэспубліканскіх выданняў, як часопісы «Полымя», «Маладосць» і «Беларусь», альманахі «Дзень паэзіі», штотыднёвік «ЛіМ», якія не шкадавалі сваёй «жылплошчы» для паэтычнай публіцыстыкі.

Закранаючы праблемы развіцця гэтага жанру, варта падкрэсліць, што палітызацыя грамадства, як правіла, непазбежна выклікае палітызацыю мастацтва, якое, пры ўсёй банальнасці сцёртага выслоўя, з'яўляецца «сейсмографам рэчаіснасці». А добра гэта ці дрэнна — адказ трэба шукаць у кожным асобна ўзятым выпадку. Характэрна, што ў наш час актывізуецца публіцыстычная дзейнасць не толькі паэтаў як найбольш мабільных у водгуках на праявы і змены жыцця, але і многіх празаікаў, драматургаў, перакладчыкаў.

На публіцыстычнай ніве даволі шчодры ўраджай у Пімена Панчанкі. Сам характар, арыентацыя паэта на поўную праўду, адмаўленне кананізаваных установак і раней падключалі яго слова да «лініі высокага напружання».

Панчанка часта знарычыта мадэлюе такую гіпербалізаваную сітуацыю, якая прыводзіць чытача да высновы, што людзям патрэбна прыкласці ўсе намаганні (а на гэта якраз і разлічвае паэт), каб змрочна-ўяўнае не стала рэальным, сапраўдным. Актывізацыя душэўных сіл, духоўных набыткаў асобы— вось да чаго заклікае паэт, свядома робячы радок аголена-прамалінейным, па-аратарску адкрытым.

Для Панчанкі катэгорыя праўды — найважнейшая. Яшчэ задоўга да шумных сучасных падзей ён звяртаўся да ўсіх нас: «Не маніце ні народу, ні сабе». Без міндальнічання ўмее ён сказаць па-франтавому рашуча і ёміста-канкрэтнае: «Няхай агнём бязлітасным гарыць Свет бюракратаў, махляроў і гадаў». Зразумелай адкрытасцю вылучаецца верш П. Панчанкі «Абрыдла мне дзяржаўная палітыка» ў сёлетняй пятай кніжцы «Полымя».

Разважаючы пра сувязі нашай сучаснай паэзіі з грамадскімі зрухамі, малады крытык Алесь Бельскі ў артыкуле «На зыходзе квадры» («ЛіМ», 15.3.91) невыпадкова ставіць пытанне: «Скрыжоўваючы ў творы палітыку і паэзію, ці заўсёды ярка і глыбока ўдаецца паэтам выявіць змест свайго асэнсавальнага «я»? І сам жа спрабуе адказаць: «...хоць тэматычны, сацыяльны, палітычны пласт у паэзіі вельмі багаты, але ён раўнацэнны ў ідэйна-эстэтычным плане. Розны мастацкі ўзровень вырашэння праблем, розныя індывідуальныя падыходы і пралікі. На паэтычную бязважкасць часам хварэе радок нават самых вядомых паэтаў». Гэтае дыпламатычнае і такое распаўсюджанае ў нашых публікацыях слоўца «часам» і сапраўды тут да месца, бо хоць і карэктна, але ўсё ж сведчыць, што ідэалізаваць выключна ўсё — рэч не самая лепшая: як увогуле для літаратуры, так і для таго, хто не мае пільнай патрэбы ў празмерных кампліментах.

У рэчышчы сказанага патрабуюць свайго прачытання і набыткі апошніх гадоў Максіма Танка, манера пісьма якога далёкая ад гладкапісу: у ёй моцны рацыяналістычны пачатак, арганічная сувязь з фальклорам, які выконвае не арнаментальныя функцыі, а раствораны, як соль у крыві, у тканіне радкоў, ва ўсім арганізме твора. Схільнасць да філасофскага лаканізму, па-сялянску грунтоўнай непаспешлівасці развяг і пантэістычнага ўслаўлення быцця — у многіх яго творах. Не выключэнне тут і мініяцюры.

У верлібры «Экалогія» аўтар уступае ў спрэчку са словамі з некалі папулярнай «касмічнай» песні «На пыльных тропинках далёких планет останутся наши следы»:

**Няўжо не бачыце,**
**Як яе здраталі,**
**Вытапталі,**
**Пакалечылі?**

**А яшчэ збіраемся**
**Такія ж сляды пакінуць**
**І на іншых планетах.**

Апошнім часам увогуле даволі актыўна працавалі многія старэйшыя прадстаўнікі літаратуры. Пакаленне, якое добра спазнала на сабе драмы і трагедыі часу, з неадольнай сілай адчула даўнюю патрэбу выказаць усё набалелае, найбольш важнае, галоўнае. Усведамляючы ліміт часу, яго абмежаваны запас, аўтары памкнуліся як хутчэй данесці запаветнае, усё тое, чаму былі сведкамі. Гэта споведзь не можа пакінуць абыякавым. Бясспрэчна, і тут не ўсё раўназначнае ў мастацкіх адносінах: у тым ліку і з прычыны зразумелай, прадыктаванай абставінамі фарсіраванасці.

Жаданне не толькі, а можа, і не столькі абвінаваціць, закляйміць, але і зразумець чалавека, растлумачыць матывацыю яго дзеянняў, учынкаў, заглыбіцца ў псіхалогію асобы — задача літаратуры. Не выключэнне тут — і публіцыстычная паэзія. Але ж былі і ёсць у нашым жыцці і такія, хто вінаваты па-сапраўднаму, на чыім сумленні не проста нейкія пралікі-памылачкі, а кроў чалавечая, нечы знявечаны лёс. Пра такіх без спачувальнасці і філасофскага альтруізму (а ці спачувалі сваім ахвярам каты, ці пакутавалі над імі ад пякучага дакору сумлення?) піша Грахоўскі ў вершах «Вечныя», «Вячэрні звон», «Апраўданне крыві» і іншых («ЛіМ», 23.3.90).

Вядома, рэдка якому аўтару ўдаецца быць заўжды на ўзроўні. Ці не таму з моцнымі вершамі «Вяртанне», «Няўжо яшчэ жывы?» (пра сталіністаўсексотаў і апрычнікаў) суседнічае «Дыялог», які атрымаўся крыху расцягнутым, з дэкларацыйнай перагрузкай і ўсё з той жа зразумелай верай у хуткае лепшае.

Жаданне паспрыяць зменам, на жаль, прыводзіць іншы раз і да тлумачальнасці: «Дагэтуль з розных сфер Мы часта церпім здзекі, Бо правяць і цяпер Упартыя няўмекі». Сугучныя вершу «Балючае», радкі якога тут прыведзены, і такія, як «Закон», «Чужыя», «Вінаватыя» («ЛіМ», 23.3.90), якія пазначаны пэўнай аднатыпнасцю вырашэнняў. Ад прагі прабіць голасам сумлення жалезабетонную сцяну сытай абыякавасці, заспакоенага існавання і ўзнікае, насуперак аўтарскай волі, як спадарожнік усхваляванай размовы, эфект павучальнасці і паўтораў самім жа неаднойчы сказанага.

Заканамерна, што вершаваная публіцыстыка антыкультаўскага кірунку шырокай плынню памкнула таксама з-пад пяра літаратараў, асуджаных на працяглае маўчанне і пасля рэабілітацыі, альбо тых, хто жыў у выгнанні, за мяжой. Да ліку апошніх варта аднесці Масея Сяднёва і Васіля Супруна, творы якіх неаднаразова змяшчаліся на старонках перыёдыкі.

Своеасабліва прагучала «публіцыстыка пытанняў» у творах В. Супруна:

**Дзе песні народа? Дзе песні-надзеі?**
**Чаму анямелі, скажыце, чаму?**
**Якія прычыны, якія падзеі**
**змаглі задушыць песень душу саму?**

**Чаму анямелі і поле, і людзі,**
**і вёскі, і вечар вясковы, і дзень?**
**Няўжо ўсё стаптана, няўжо так і будзе?**
**Няўжо наша песня да нас не прыйдзе?**

Знешне непрэтэнцыёзныя, вершы Супруна надзелены тым перажываннем, за якім бачыцца драматычны лёс асобы, не зламанай абставінамі.

Публіцыстычныя творы маюць самы шырокі выхад на чытацкую аўдыторыю, і з'яўленне іх дыктуецца не толькі аператыўнасцю водгуку на падзеі, але і гарачым жаданнем змен у нашай рэчаіснасці. І хоць законы публіцыстычнага жанру вымагаюць апраўданай дэмакратычнасці ўспрымання, аднак спашлюся, маючы на ўвазе прыроду мастацтва ўвогуле, на адно важнае меркаванне французскага сюррэаліста Ж. Както: «Чым менш мастацкі твор зразумелы, тым марудней ён раскрывае свае пялёсткі і тым павольней вяне... Твор, які не захоўвае таямніцы і раскрываецца занадта хутка, рызыкуе гэтак жа згаснуць, і ад яго застанецца толькі мёртвая сцябліна». Не сумняваючыся ў рацыянальнай праваце Както, нельга не заўважыць і тое, што мастацтва няўхільна імкнецца, адначасова з прагай глыбіні і складанасці, і да апраўданай прастаты: «...Нельзя не впасть, как в ересь, в неслыханную простоту» (Б. Пастэрнак). І тут таксама ўся справа ў тым, якая прастата — пушкінскай, купалаўскай арыентацыі, ці звычайная спрошчанасць.

Публіцыстычны характар можа набываць і спакойна-ўзважаная размова, без абавязковых узвышаных фраз, як, у прыватнасці, сталася ў «Сумным вывадзе» Рыгора Барадуліна:

**Ходзіць ісціна з кульбай пад пахаю,**
**А лянота ляжыць калодаю.**
**Чалавецтва —**
**Суцэльная мафія**
**У зацятай вайне з прыродаю.**

(«Маладосць», 1990, № 2).

Шырыня рытміка - інтанацыйнага ладу, багацце мелодыкі і слова, вобразная стыхія — усё гэта ёсць і ў яго «чыстай» лірыцы, і ў яршыстай — па-маладому — вершаванай публіцыстыцы. А слова вершаў «Беларусь на крыжы», «Як у казцы», «На тым свеце вугалькамі», «Певень першы раз прапяяў...» акрэслена публіцыстычнае, але далёкае ад ментарства, дыдактыкі і плакатнасці.

Увогуле ёсць сэнс паспрачацца з крытыкам Ігарам Жуком, які ў лімаўскай анкеце ў палемічным запале сцвярджае: «Сённяшні стан літаратуры —як адчуванне рэдкалесся: скрушна і вусцішна. Наваколле свеціцца «белымі плямамі», і іх не могуць захінуць ні паасобныя магутныя кроны, ні тым больш — сухастоіны. Вусцішна яшчэ і ад таго, што ў рэдкалессі найбольш прыкметна, як дрэвы падаюць, пакідаючы за сабой прагал, якога няма каму і запоўніць». Ці сапраўды такой выглядае панарама сённяшняй паэзіі?

дзецца ад высвятлення прычын нетрываласці нашых апірышчаў, слабой абароненасці ды моцнай залежнасці ад «няўхільнага насоўвання рынку».

Як ні круці, усё вяртаецца да спаконвечнага: «дар — яечня», Мы, пад рознымі ўплывамі, доўга выпрацоўвалі сабе пераканание, што антытэзы тут няма, і нам — адораным! — гэта павінна прыходзіць у неаддзельным адзінстве. Мы вырашылі, што служэнне — гэта служба, адмаўляючы няпісаныя законы, паводле якіх служэнне Слову абмяжоўваецца словам, а служэнне духу можа аплаціцца толькі духоўным. Наш сімвал веры: «ды можна рукапіс прадаць».

Можна. Той, які купяць. На рынку, што насоўваецца не сам па сабе, а намі ствараецца. Адпаведна попыту, нам пажадана масавага. А гэта якраз наступнае пытанне.

2. Масавае па прыродзе супрацьстаіць асабоваму, г. зн. індывідуальным, незалежным праявам духу, розуму, слова. У самім выразе «масавая культура» дзіўная кантамінацыя. Правільней гаварыць пра «субкультуру», непазбежную ў выніку цывілізацыйных працэсаў, але пры гэтым анідзе не замацаваную ў статусе нацыянальнай. Дазволю сабе спрошчанае, ды не самае «кульгавае» параўнанне: лідскія красоўкі ці аршанскія джынсы розняцца ад астатніх не нацыянальнымі прыкметамі, а таварнай якасцю, і ўсе вядомыя дагэтуль змены ў кан'юнктуры не ўплывалі на суадносіны іх з «фірмовымі», што заўсёды было і будзе на рынку любога (літаратурнага ў тым ліку) шырспажыву.

І яшчэ раз карціць нагадаць: нічога на свеце няма новага. Нават нежаданне ці няздольнасць размяжоўваць культуру і цывілізацыю ў нашай гісторыі давала шмат павучальных прыкладаў. Я маю на ўвазе апантаную разбуральнасць пад лозунгамі прагрэсіўных пераўтварэнняў. Прычым, як ні дзіўна, усё гэта ў той ці іншай меры замыкалася на масавасці. І стваралася культура пралетарская, рэвалюцыйная, сацыялістычная, паэзія рабочая, камсамольская, песня піянерская, турыстычная, гадоў за трыццаць да рок-мэнаў давалі канцэрты на стадыёнах «паэт-мэны».

Дарэчы, як ісціна ў вышэйшай інстанцыі замацавалася (не толькі тады прынятае): «Паэт у нас — больш як паэт». Мелася на ўвазе, што ён па абавязку — «агітатар, гарлан, главар» альбо масавік-забаўнік. І ўхвалялася не тое, што вызначае, стварае паэта, а тое, што выяўлена ў актуалізаваным «больш». Ці не гэта перавярнула шкалу каштоўнасцей і перашкодзіла нам асэнсаваць месца ў літаратурным кантэксце большасці сучаснікаў, а тым болей папярэднікаў?

Нам яшчэ належыць спакойна разбірацца ў адрозненні слоў «элітарны» — «вядомы» — «папулярны» — «масавы» і г. д. адносна літаратурнага твора і яго аўтара. Але гэтым разам нельга не звярнуць увагі на неадэкватнае ўжыванне іх, і ў першую чаргу на тое, што рэальна сыходзяцца полюсы: распаўсюджваецца гульня ў выключнасць - элітарнасць, яна становіцца модай, якая непазбежна выклікае масавасць. І ў мяне асабіста гэта выклікае трывогу. Ужо таму, што творчасць можа знайсці замену ў імітацыі. З усімі шматстайнымі вынікамі.

3. Праблема запазычанняў на нашай глебе мае пакуль што сэнс такога ўзроўню: «У чужых руках усё значнейшае». І наўмысная эксплуатацыя такой асаблівасці масавай свядомасці не выходзіць за межы элементарнай кан'юнктуры, што ніколі нікому нічым не дапамагала. Трэба сур'ёзна, памяркоўна і самапаважліва працаваць на заСВАЕнне лепшага, здольнага ўзбагаціць, а не уніфікаваць.

Шкодзіць яўна «дзіцячая хвароба» першаадкрывальніцтва, культуртрэгерства. Некаторыя з'явы можна параўноўваць з забавамі. Скажам, цікава адкрываць зоркі ў планетарыі? Альбо на водным роварьі па Свіслачы, якая ўпадае ў Камсамольскае возера, падацца адкрываць Еўропу?

У побытавым плане гэта апраўдваецца проста: «Чым бы ні цешыцца, абы не вешацца». З пункту гледжання масавасці-рыначнасці, бясспрэчна, абяцанка паказаць алігатара збярэ большую гурму, як самая шчымлівая песня родных жабак.

А калі сур'ёзна, сітуацыя наша патрабуе сур'ёзнага ўдзелу культуролагаў - кампаратывістаў, знаўцаў і перакладчыкаў іншанацыянальных літаратур.

Кіньма пустазвонныя дыскусіі пра свой «постмадэрнізм». У нас можа развіцца хіба што «постсацрэалізм» у варыянце горшым, як папярэдні. У культуры, як і ў жывой істоты, ёсць генетычная абумоўленасць. Не трэба развявацца на какосы, пакуль не вынішчаны дарэшты бацькоўскі сад. Ад сваёй садавіны і алергіі такой не зведаем.

---

Важкім зместам, дзе паяднаны прамата выказвання і іронія, сатырычны падтэкст і сацыяльныя абагульненні, вылучаюцца вершы апошніх гадоў Ніла Гілевіча. У іх — абарона мовы і культуры, прыроды і гісторыі, людской паважлівасці і разважлівасці. Гэты лейтматыў у такіх гілевічаўскіх творах, як «Наконт дэмакратыі і дэмакратаў», «Сон у бяссонніцу», «У родным горадзе», «Грамадзяне, спяшайцеся!», «Б'юць у сэрца», «Крумкач», «У беспрасветны час...» Магчыма, падчас яны гучаць трохі ўзвышана-дэкларацыйна, але па-грамадзянску заклапочана і актуальна.

У асобных вершах паэт, праўда, злоўжывае дзеясловамі загаднага ладу. Уласціва гэта і Артуру Вольскаму, Алегу Лойку, Міколу Янчанку, іншым.

Прыцэл на публіцыстычную абвостранасць даўно і выразна пазначыўся ў паэзіі Петруся Макаля, дзе пластычны радок, энергічны жэст узмацняюцца іранічнай падсветкай, калючым пацвельваннем («Рок», «Роздум пастушыны»). У рэчышчы публіцыстычнай скіраванасці—вершы «Нарэшце і я пакратаю...», «Вярнуць гаспадара», «Чаму пажар не тушаць», «Раблю я тое, што магу...», «Споведзь ката», змешчаныя ў дзесятым нумары леташняй «Маладосці».

Асэнсаванне паэтам працэсу перабудовы няпростае, як няпростыя і тыя пытанні, на якія ён шукае адказу: «Няўжо мы ўздымалі цяжар стопудовы дзеля таго, каб заўтра ізноў дойліды новае перабудовы наш гмах перакроілі да асноў»? У вершах Макаля асабістае вельмі шчыльна знітавана са светам людскіх памкненняў. Аўтарская думка раствараецца ў маштабнай плыні сацыяльнага клопату. Ці не адсюль імкненне да афарыстычнасці фраз у вершах, якія ніяк не назавеш лаканічнымі. Вось некалькі такіх узораў: «У крамах не хапае мыла, каб учарашні грэх адмыць...», «Запозненыя прыгаворы—як выстралы пасля вайны», «Нялёгка і поле падчас перайсці, калі гэта поле міннае».

У асобных вершах публіцыстычная моц паслаблена пэўнай «прабуксоўкай» думкі, што вядзе да перанасычэння, аб'ём непажадана расцягваецца, разбухае («Не ведаюць людзі, што заўтра будзе...», «Калі ўжо глынеш, не пазбыць у жыцці...», «Нам памаглі часіны скрушныя...»). Назіраецца і схільнасць да самаатэстацый, накшталт: «Нясу штодзённа, штогадова сваю і роднасць, і сумленнасць...».

Што ж лепей — тэматычны канфармізм, алімпійская сузіральнасць быцця ці гарачы, зацікаўлены водгук на сучасныя з'явы і факты? На пытанне гэтае адказаць нялёгка, але шукаць адказы патрэбна, хоць ісціна і бывае часта такой жа недасяжнай, як «высокае неба ідэалу» (А. Вярцінскі). Згадаем прызнанне Міхася Стральцова, які быў глыбокім знаўцам паэтычнай матэрыі:

Мне звышнадзённай тэмы
не падняць,
Як не пазбыцца і лірычных
трантаў.
Як барытону можна заспяваць
Напружана-задзірыстым
дыскантам?
Каб так зрабіў, каб гэтакі наіў
Мяне завабіў на сцяжынку
моды,
Дальбог, павыміралі б салаўі
На ўчастку мне адведзенай
прыроды.

Ёсць такі «ўчастак» і ў Дануты Бічэль-Загнетавай, якую хвалюе не толькі сучаснасць, але і мінулае. Гісторыя Беларусі ўсё больш займае месца ў яе творах, набываючы парытэтнае становішча побач з інтымнай тэматыкай. Асэнсаванне сённяшняга і старажытнага — і ў лімаўскіх вершах «І дзве Літвы» і «Птахамі продкі былі» (6.І.89). У другім з іх навідавоку імкненне да фармальных пошукаў: разбіўка слова, перанос складоў з канца аднаго радка ў другі, што, на жаль, у дадзеным выпадку не прыводзіць да адкрыцця ці значнасці гучання. Твор гэты, як і некаторыя іншыя, абцяжараны лексічна, перагружаны словамі, груваскі. Ды сапраўдная глыбіня не ў груваскай стыхіі слоў. Менавіта пераадоленне такога «гушчару» прыводзіць аўтара да плённай яснасці, якая не губляе ні грунтоўнасці, ні паэтычнасці.

Рэаліямі нашых дзён насычаны вершы Д. Бічэль-Загнетавай у шостым нумары «Полымя» за г. г. Лаканічныя, без вонкавых навацый, яны, аднак, прымушаюць задумвацца над сказаным, над тым, што данесена па-свойму і не без іранічнасці («Доля гіне ў чэрствым свеце...», «Падае мядзяк...»).

Пачуццё мастацкай меры выявілася ў наскрозь публіцыстычнай «Спрэчцы нігіліста з Багушэвічам» М. Арочкі («Маладосць», 1990, № 12). Менавіта яна пацвярджае тое, як сплаў вопыту і чуцця слова садзейнічае не толькі пластычнасці радка, шматфарбнасці інтанацый персанажаў дыялога, але і адчуванню іх логікі, што дыктуецца і характарам гаворкі, і разуменнем палярных поглядаў на свет рознымі людзьмі. Аўтар не стаў на шлях карыкатурнага, гратэскнага развенчвання багушэвіцкага антыпода — ён проста даў яму слова, прапануючы магчымасць пры гэтым і свайму (сучаснаму) апаненту выкласці ўласную пазіцыю, з якой паўстае ступень культуры і таго традыцыйнага выхавання, якое дало беларускай зямлі такі «плён» Адраджэння.

Асабістая далучанасць да гістарычных падзей, усведамленне адказнасці перад светам усё настойлівей акрэсліваецца ў творчасці пакалення так званых саракагадовых. Выяўленне грамадзянскай пазіцыі тут нестандартнае, яно лучыцца не толькі з характарам асобы, але і са ступенню самакрытычнасці, тым болевым парогам, пра які асабліва любяць пагаварыць мэтры педагогікі і псіхалогіі.

Адметнасць пісьма — заўсёды адметнасць асобы. У гэтым пераконвае і Уладзімір Някляеў. Насуперак жывапісанню многіх аўтараў, стыль яго твораў — то ў нечым аскетычна-сухаваты, то знарочыста - тэлеграфны — несумненна прадыктаваны рацыяналістычнымі імпульсамі. Аднак гэты рацыяналізм — не голы шкілет, бо сістэма мыслення (а Някляеў мысліць не асобным радком, а творам у цэлым, загадзя прадвызначаючы фінал) хутчэй сінтэз супрацьлеглых лагічных пасылак, тое сутыкненне полюсаў, якое выкрасае іскру. У гэтым плане вылучаюцца такія вершы з лімаўскай (23.2.90) падборкі, як «Біяграфія», «Татальнасць», «У будучыні», «Успаміны пра Чарнобыль», «Саракагоддзе набяжыць...»

А вось дыпціху «Насупраць», да якога эпіграфам пастаўлены словы з прымаўкі «Гара з гарой не сходзяцца....», нягледзячы на моц спалучаных тэзісаў, не ўдалося растапіць лёд сканструяванасці і зададзенасці.

На жаль, часта сінонімам публіцыстычнай паэзіі выступае вершаваная журналістыка, якая ў рознай ступені ўласціва ледзь не для ўсіх аўтараў, на што «правакуе» і сам жанр. Васіль Жуковіч у вершы «Ты быў бы не лішні...» звяртаецца не да бюракратаў-апаратчыкаў, не да злосных прайдзісветаў, а, як і многія, да самога ўсявышняга:

Прарочым прагрэс мы
нярэдка,
а свет дэградуе людскі.
Чаму ж ты бязлітасны гэтні
ці, можа, цярплівы такі?..
Хацеў бы легендзе прыгожай
паверыць і дыхаць табой.
Няма цябе, праведны божа.
Мне страшна ад думкі такой!

Характэрная дэталь: ніколі раней у беларускай паэзіі савецкага часу не было столькі зваротаў да Бога, як зараз. Звяртаецца ледзь не ўсе агулам — і веруючыя, і атэісты, і беспартыйныя, і камуністы. Што ж, відаць, прыпякло не на жарт... У адным з вершаў палымянскай падборкі (1990, № 9) М. Кусянкоў піша яшчэ пра адну Галгофу роднага краю — радыяцыю, што завяршаецца спусташэннем зямлі:

Пазарасталі зеллем пагоркі.
Кольні ні пройдзе летаў і зім,
Ніў, што здзічэлі там, што
пагорклі,
Болей не ўбачым, толькі
сасні́м...

У сваіх ацэнках праяў рэчаіснасці з Кусянковым салідарызуюцца Ніл Гілевіч, Міхась Рудкоўскі, Раман Тармола, Васіль Макарэвіч, Мікола Арочка, Алег Лойка.

Гаворачы пра надзённасць, ці можна ігнараваць тое, што сур'ёзнае мастацтва заўсёды шырэй за пэўныя аператыўныя задачы, за хвілінnасць водгукаў на канкрэтныя рэаліі і запатрабаванні часу? У многім мае рацыю Ніна Мацяш, сцвярджаючы: «Не думаю, што «ісці ў нагу з часам» азначае абавязковае адлюстраванне надзённых праблем грамадства на пэўным этапе яго развіцця. Чалавек сам па сабе — праява, выява Часу ў яго духоўнай іпастасі. Наколькі ж праніклівa і арыгінальна мастак даследуе дух чалавека, настолькі і каштоўнае яго мастацтва — незалежна ад віду творчасці».

Ці задаволены патрабавальны чытач многімі адказамі, якія даюць на жыццёвыя пытанні вершатворцы? З-пад іх пяра вылятаюць жа і такія вось «птушкі» натхнення:

Люблю мой край, яго прыроду
І паўтару без лішніх слоў:
Байцы з апошняга паходу
Вясну прыносілі дамоў.
(Пятро Прыходзька,
«Пад знакам бяды»).

Імкненне да грамадзянскасці верша не заўжды прыносіць поспех, бо тэзіснасць развагі, набор «выкрывальніцкіх» аргументаў у дачыненні да такіх праяў, як мяшчанства і эгаістычная абмежаванасць, хамства і цынізм, бязумнасць і жорсткасць, маральная дэградацыя і канфармізм, не ў стане гарантаваць твору тую моц, якая адрознівае яго ад зарыфмаванай газетнай інфармацыі. Падобнае здарылася з вершамі С. Басуматравай «Прыстасаванцы» (успомнім аднайменных у Панчанкі), «Не наяўнасць...», «Матчына трывога» («ЛіМ», 2.2.90), М. Шэлехава «Палымяныя матэры» (там жа), М. Маляўкі «Мы — людзі» і «Глушыцелі» («ЛіМ», 16.2.90), Я. Міклашэўскага «Дрэва жыцця», «Гэты грукат трывожыць душу мне...», «Мы часта здаёмся без бою...» («Беларусь», 1989, № 1).

Слабым атрымаўся і верш І. Рубіна «Рэабілітацыя» («ЛіМ», 14.4.89), перагружаны моўнымі дэталямі персанажаў і апісальнасцю. Паслабляе яго і тая акалічнасць, што сюжэтная аснова тут досыць вядомая з іншых публікацый розных жанраў. Гэта не адмаўляе ў праве на жыццё, аднак вырашэнне задумы тут не ўдалося.

Мала чаго даюць для вызначэння духоўных арыенціраў і агульныя тырады тыпу: «Скажу табе, няхай сабе і марна: — Змагайся, каб святое не звялося, ідзі на бой, ідзі самаахвярна!» (А. Глобус. «Маладосць», 1990, № 2). Заклікі да барацьбы за абстрактнае «святое» не вельмі ўзрушваюць-актывізуюць і пачуццё, і думку. Апісальна - натуралістычнымі, у рэчышчы выкшталцонага, загерметызаванага эгацэнтрызму, пазбаўленага выхаду за круг толькі ўласных песімістычных сузіранняў, выглядаюць вершы А. Глобуса «Зімовы лес», «Бібліятэка», «Сон у трамваі», «Тэстамент» і іншыя, змешчаныя ў тым жа нумары часопіса, што і прыведзеныя вышэй радкі з верша «Паплечніку».

Чаму напал публіцыстычнай энергіі іншы раз слабее і ў сур'ёзных творах з актуальнай тэматыкай, дзе ёсць і дакладнасць рэалій, і незапазычанасць перажыванняў? Па той, відавочна, прычыне, што празмерная канстатацыя агульнавядомага не дазваляе мастацкаму слову ўзняцца над справаздачнасцю апісанняў. Такое закранула, на мой погляд, вершы Мар'яна Дуксы «Запомні гэты сціплы запавет...», «Было дарэшты ўсё паганства знішчана...», «За горла бяруць крэдыторы: плаці!» («Маладосць», 1990, № 11), дзе асобныя фразы — з выразнай аурай неаднойчы сказанага іншымі: «Не лепшае ніколі белы свет, калі мы злосць спускаем з ланцуга», «Бы д'ябла, крыўду да сябе не кліч, яе ўспамогі чорнай не прасі».

Як жа пераадолець бар'ер ілюстрацыйнасці і фактаграфічнасці? Гэтую задачу кожны вырашае па-свойму — і ў меру сваіх здольнасцей, і ў залежнасці ад схільнасцей да традыцый і наватарства, згодна ўласным эстэтычным сімпатыям і сфарміраваным прынцыпам. Імкненне пазбегнуць ардынарнасці— няпростая задача мастацтва. Публіцыстычны верш, як жанр найбольш аператыўны сярод іншых, сёння таксама на шляху інтэнсіўных пошукаў, дзе страт не меней, чым заваёў (калі — не больш).

## З ПАЭТЫЧНАЙ ПОШТЫ

**Іван КАРЭНДА**

# Праўда

I

Праўда такая горкая,
З такой палыновай аскомаю,
Што робіць жыццё агорклым —
Нібыта ў хаціне без коміна.
Праўда бывае жорсткаю —
За ноч галава пасівее,
Ці ў горле засядзе косткаю —
І чалавек нямее.
Праўда такая балючая,
Што робіць жыццё нямілым,
Што нават асілкаў скручвае
І іх пакідаюць сілы.
Праўда такая пякучая,
Што кроў закіпае ў жылах...

...Яе аднойчы мучылі —
Яна ж уздымала крылы.

II

Праўда заўсёды ў спрэчцы
З тваёй, чалавек, манoccurrence ю,
Калі, баючыся смерці,
Цалуешся ты з сатаною.
Праўда у згодзе з табою,
З тваім, чалавек, сумленнем,
Калі ты не згодзен з хлуснёю.
Не стаў перад ёй на калені.
Праўда—маланка бліскучая,
Што злодзеям вочы сляпіла.
Праўда — крыніца гаючая,
Што людзям вяртае сілы.
Праўда нікім не прыручана,
Паклонаў нікому не біла...

... Дашчэнту падман раструшчыла.
Краіну ад сну абудзіла.

III

Праўда, як вечнасць, жывучая,
Дарма ёй капаюць магілу.
Не быць ёй ніколі атручанай,
Не знікнуць за небасхілам!
І найвялікшае права,
Найпершы закон на свеце —
Глядзець праўдзе ў вочы прама
Ад нараджэння да смерці.

г. Мінск.

**Мікола СТАРЧАНКА**

# Дазволеная смеласць

Пласты мінулага, бы плугам,
На сонца вывернулі мы,
Крычым: «І наша ёсць заслуга,
Што холад адступіў зімы».
Цяпер мы смела, дружна рыем
Гісторыі збуцвелы дол,
Магчыма, ісціну адкрыем —
На гэта зверху ёсць дазвол.
Схавалі мы ў архівы вочы —
На гэта ёсць у нас дазвол,
І пільна паглядзець не хочам.
Што сёння робіцца наўкол.
Зноў вёска стала палігонам
Не дужа выспелых ідэй,
Гандлюе горад самагонам,
Па крамах ходзіць сухавей.
Замест рэальнасці — законы,
Сказаў што супраць — дэмагог,
Бюракратычныя талоны —
Вось сведкі болю і трывог.
Каманднa-пільная сістэма —
Вось гістарычны наш пракол.
І пра яе памылкі нема
Крычаць народу ёсць дазвол.

г. Гомель.

**Алесь КАСЦЕНЬ**

●

Мне сніцца стаў начамі кулямёт,
Што два гады плячо мне ў войску муляў.
І па мішэнях высланыя кулі
Ніяк не перапыняць свой палёт.

З газет і тэлерадыёпраграм
Такі наплыў крывавай інфармацыі,
Што сёння сны дзіцячыя не сняцца —
Рэальная пагроза іхнім снам.

У трыццаць пяць хто з нас не рэаліст?
І, можа быць, цяпер вось з роднай хаты
Мяне паклікаў да ваенкамата
Ружовы з афіцэрскай кніжкі ліст.

А сон гнятлівы цягнецца, грыміць.
Мяне, канечне, ў ім не забівае.
Прачнуся я. А ў свеце не сціхае.
І боль чужы не кожнаму баліць.

І стартавыя комплексы ракет,
І куля ў чорным целе кулямёта —
На наш, на патапляемы ўжо свет.

г. Паставы.

**Сяргей СЦЯПАН**

# Пагоня

Пачую раптам: недзе рог зайграе,
На захадзе барвовасць ад шчытоў.
То Беларусь з-пад Грунвальду вяртае
Сваіх непераможаных сыноў.

У золку ранішнім — узмыленыя коні,
Імчацца вoі грозна, праз вякі.
На іх штандарах белы герб Пагоні,
На Беларусь спяшаюцца палкі.

Даўно адбіта чорная навала,
Загінуўшых не вернеш да жыцця.
Радзіма-маці, як ты іх чакала
У страшныя часіны забыцця!

Іх доўгі шлях засыпалі завеі,
Стагоддзяў пыл на зброі і сцягах.
Радзіма, ты не траціла надзеі,
Яны прыйшлі па росах і снягах.

Пагоня рушыць па твайму загаду
Ад сініх пушчаў, камяніц старых.
Прарвуцца воі праз ману і здраду,
Каб ратаваць ад забыцця жывых.

г. Мінск.

**Алесь БІБІЦКІ**

●

Сей рупна зерне на палях,
Ды не рабі ты,
Каб амярцвелаю Зямля
Сышла з арбіты.

Хай колас звоніць, нібы звон,
Напамінае,
Што абыякавасць разгон
Нам замінае.

Не будзь староннім анідзе,
Схапіся й з чортам,
А то планета упадзе
Гнілым апортам.

І нам ніхто, як ні малі,
Не дапаможа.
Няўжо час судны для Зямлі
Настаў, о Божа?!

Пінскі раён.

**Васіль АНДРЫЕЎСКІ**

# Мёртвая зона

Я верыў доўга ў наш надуманы прагрэс,
Ды веру гэтую ў мяне аднойчы ўкралі...
Хаўтурным колерам гарыць ля ганка бэз,
Бы на магілу селішча вянок усклалі.

---

*Яўген Міклашэўскі*



# У СЯСТРЫ

## З кнігі «Каханне і смерць»

**Дзеці Марыі і Адама Багдановічаў Вадзік, Максім і Лёва ўсю зіму хварэлі. Што рабіць? Як паправіць іх слабае здароўе? Добра было б пажыць дзе-небудзь у вёсцы, на свежым паветры... І ў апошняй дэкадзе красавіка 1895 года Марыя Апанасаўна прыехала з дзецьмі ў маёнтак Вяззе да сястры Стэфы, мужу якой — свайму швагру Францу Секяржыцкаму — Багдановіч памог атрымаць пасаду аб'ездчыка Вяззеўскага лясніцтва...**

**Гэтыя старонкі са сваёй дакументальнай аповесці пра М. Багдановіча прапаную ўвазе чытачоў «ЛіМа».**

**АЎТАР.**

МАРЫЛЬКА прывыкала да вясковага жыцця. «Прывыкала» не тое слова. Ці можа птушка прывыкаць да волі, калі яе выпусціць з клеткі, у якой яе трымалі, пазбавіўшы гэтай волі? Вясковае жыццё яна ведала, праўда, ведала праз дзіцячае ўспрыманне, якое, бясспрэчна, пагасла ад часу і страціла сваю першародную сілу адчування. Хіба Ігумен, у якім яна нарадзілася і правяла шчаслівыя дзіцячыя гады, ва ўсякім разе, першыя гады свайго свядомага жыцця, адрозніваўся чым-небудзь ад вёскі, ад яе бясконцага клопату і беспрасветнай цемені і галечы? Але гэтае жыццё абыходзіла яе бокам, як і ўсю сям'ю Мякотаў, якая была ў сацыяльнай іерархіі на некалькі прыступак вышэй таго незайздроснага становішча, якое займала гаротная вёска.

Марылька амаль штодзень ні з таго ні з сяго са шчымлівым пачуццём незразумелай журбы ўспаміналa свой родны Ігумен і такое далёкае, амаль нерэальнае дзяцінства, калі жыў бацька, хоць зрэдку, але ўсміхалася, беручы ў рукі гітару, маці, і яны не думалі пра кавалак хлеба, вучыліся чытаць і пісаць, шыць і вышываць, спяваць і танцаваць—вучыліся ўсяму, што потым магло прыдацца ў жыцці. Тыя песні і рамансы, якія любіла спяваць яе маці, потым спявала і Марылька.

Яна прачыналася ад аднастайнага, але жыццесцвярджальнага спявання вязеўскіх пеўняў і, калі толькі пачынала світаць, выходзіла на двор. Стэфа ўставала даіць кароў, і, пачуўшы яе, падавалі свой голас, прагаладаўшыся за ноч, свінні, з кудахканнем злятаалі з седала куры.

Весела свяціла вясновае сонца, і за некалькі дзён шугнула ўгару трава, песцячы пагляд незвычайна яркай зелянінай — яркай перадусім таму, што ад яе за доўгую зіму адвыклі вочы,— а заадно і радуючы сэрца. І ў прывідны цень гэтай зеляніны міжволі цягнуліся лілавата-празрыстыя кроны бяроз, а на ліпах, якія раслі з абодвух бакоў веранды ад вуліцы, набракалі пупышкі, з якіх вось-вось павінна было прарэзацца пяшчотнае сакавітае лісце. У такім жа зялёным мроіве ўзвышаліся векавечныя дрэвы над Вяззем. І ад гэтай першароднай прыгажосці і поўні вясновага жыцця прыроды ў Марылькі радасна білася ў грудзях сэрца, і хацелася толькі аднаго—жыць! У такія хвіліны жыццё здавалася светлым, але гэтая ўцеха нечакана змянялася будзённай трывогай і раставала, як пара з чыгунка Стэфы, калі яна адлівала і ставіла на стол бульбу.

І не толькі бульбу, бо дзеці да яе, як вядома, не вялікія ахвотнікі. На стале штодзень з'яўляюцца малако, сыр, масла, яйкі ўсмятку і ўкрутую, каўбаса і вяндліна, бліны ці аладкі... Стэфа стараецца, як можа. Усё ёй здаецца, што дзеці мала ядуць. Падкормлівае і Марыльку (каб крыху патаўсцела). На вёсцы вырашылі, што старэйшая з іх не Стэфа, а Марылька. І праўда, Стэфа выглядае маладзейшай, хоць круціцца цэлы дзень як праклятая.

Устаўшы яшчэ прыцемкам, калі пачынае толькі днець, запальвае ў печы, ставіць варыць бульбу і свінням, і ўсёй сваёй птушынай жыўнасці. Падаіўшы кароў, таўчэ і месіць бульбу. Адным словам, турбот хапае. А дзеці—так і глядзі! І ўсіх трэба памыць, адзець, накарміць. Марылька ўпершыню прыехала ў вёску і, зблізку ўбачыўшы сялянскае жыццё, не магла не спачуваць сястры, якая не ведае «прасветлай» гадзіны. Праўда, ёй, як толькі можа, імкнецца памагчы адна няшчасная кабецінка — «грамадзянская жонка» (як называе яе Марылька) аднаго арандатара, якую выгналі з трыма дзецьмі на вуліцу—і ні кавалка хлеба, і ні даху над галавой. Найменшаму — чатыры месяцы.

І «добрая душа Стэфа» дала ёй прытулак у сябе на кухні, дзе тая і жыла. Франц амаль кожны вечар з гэтай прычыны даходзіць да істэрыкі: «Колькі яна тут жыць будзе! Я не збіраюся карміць усякіх... Што, табе болей трэба?»

Раніцай, пасля адной з такіх «істэрык» Марылька спытала:

— Зноў з-за яе?

— Нічога, пакрычыць і сціхне. Куды яна пойдзе з такім дзіцем?

Марыльцы адразу стала сумна: людзі могуць рабіць усё, што захочуць, але завошта павінны пакутаваць дзеці? Вось і ў Вяззі памерла дзяўчынка, якой не было яшчэ і года. Не маючы каровы, кармілі дзіцё чорт ведае чым.

І калі Стэфа сказала пра гэта, Марылька ажно пабляднела, нібыта памерла не чужое дзіця, а яе ўласнае. Так успрымала яна чужую бяду.

Погалас пра чуйнасць і спагадлівасць Стэфінай сястры, пра яе лекарскія здольнасці прайшоў па вёсцы, і дом Секяржыцкіх ператварыўся ў фельчарска-акушэрскі пункт. Да Марылькі пачалі прыходзіць перш-наперш па лекі ад жывата. Але якія лекі маглі дапамагчы людзям, асабліва дзецям, калі не было чаго есці, і елі што пападзе?

А жыццё ішло.

Чым далей, тым усё больш Марылька пераконвалася ў неверагоднай дабрыні і спагадлівасці сваёй сястры, якую дагэтуль яна зусім не ведала, і была, зразумела, бясконца ўдзячная Стэфе за ўсё, што тая рабіла, каб яна адчувала сябе, як дома.

І адкуль ёй было ведаць, калі ўжо пятнаццаць, так, амаль пятнаццаць гадоў, яна не жыла ў Ігумені: спачатку мінскі прытулак, потым Санкт-Пецярбургская земская настаўніцкая школа, зноў Мінск, а цяпер вось і Гродна. Дый каб жыла, наўрад ці ведала б лепш: Стэфа яшчэ пры жыцці бацькі паступіла ў прыватны пансіён, і, як пераканалася Марылька, з ёю можна было нагаварыць пра ўсё—і не толькі пра зямлю, але і пра неба.

Чым даўжэй яна жыла ў Стэфы, тым часцей яе думкі луналі ў Гродне. Як там Адамачак? Дзе абедае? У Іванова? Там дорага і нясмачна. Асабліва нясмачныя рубленыя катлеты. І яна вырашыла—толькі б не забыць—у наступным лісце папярэдзіць яго, каб не еў гэтых катлет і наогул адмовіўся ад паслуг Іванова.

У канцы красавіка пацяплела: насталі па-сапраўднаму веснавыя дні, і Марылька пачала абціраць Максіма і Вадзіка халоднай вадою. Вадзік нічога, не супраціўляўся, а вось Максім—нізашто: так баяўся халоднай вады.

Колькі ім тут выгоды, колькі задавальнення! Пра бацьку болей і не згадвалі, акрамя Лёвачкі. Ён увесь час паўтараў «тата бу» і лашчыўся да Франца, просячыся на рукі.

Міналі дні, а весткі ад Адама не было. І Марыльку ўсё больш пачало трывожыць маўчанне мужа. Да таго ж скончыліся лекі, а галовы ў хлопцаў—як і раней.

Усё, што ёй трэба, можна было б дастаць і ў Свіслачы, дзе ёсць аптэка, але ж у яе—ні капейкі.

Найболей Марыльку непакоіла тое, ці выслаў ён грошы Алене Мацвееўне, якая павінна была перадаць іх краўцу. «Паведамі мне хутчэй, ці адасланы грошы на паліто»,—просіць яна мужа ў лісце за 3 мая і піша на асобным лістку паштовай паперы свой падрабязны адрас: ст. Асіповічы Лібава-Роменскай чыгункі, маёнтак Вяззе, Францу Антонавічу Секяржыцкаму...

Мінуў яшчэ тыдзень. Ад Адама паранейшаму ніякіх вестак, і Марылька пачала не на жарты непакоіцца: ці не захварэў ён часам? Божа, хаця б нічога не здарылася! Не было таго дня, каб рана ці вечарам яна не малілася за яго.

Убачыўшы, як горача моліцца мама, Вадзік спытаў:

— Мама, за каго ты гэтак малілася?

— За тату... Каб ён не хварэў і быў здаровы. А ты ўжо не хочаш ехаць да яго?

— Хачу, толькі — пасля... як мы з дзядзькам Францам з'ездзім у Холуй.

Франц ужо некалькі разоў гаварыў, што збіраецца з'ездзіць у Холуй да знаёмага лесніка і возьме з сабой Сашу і Вадзю.

Журботны цяжар на душы:
з усіх бакоў
Панурых вокан анямелая
пустэча.
У хатах зграі ашалелых
пацукоў
Снуюць па ложках і даўно
астылых
печах.

Самотны птах над галавою
праляцеў,
Рудою плямай апусціўся на
ігрушу.
А я падумаў пра чарнобыльскіх
дзяцей
І з мёртвай зоны ў
невядомасць рушыў.

г. Мазыр.

## Аўгіння КАВАЛЮК

●

Маліся, жанчына, маліся.
За жыццё награшыла зашмат.
І дзеці ў цябе не ўдаліся,
І твой гаспадар, як кат.

Браты?! За братоў маліся —
Жанкі з іх вяроўкі ўюць,
Не з тымі, мабыць, сышліся,
Бо не па-боску жывуць.

І за сёстраў маліся —
Гнёздаў сваіх не звілі,
Занадта ўжо разышліся,
І ўсім гандляваць пачалі.

За ўсіх Беларусаў маліся,
Зыч ім здароўя і плёну,
Зыч, каб няшчасці звяліся,
І край наш не ведаў палону.

г. Санкт-Пецярбург.

## Мечыслаў ШАХОВІЧ

●

Пакуль навала злая пагражала
Percatварыць у попел
Крывічы —
Мой прашчур не спяшаўся
на арала
Перакаваць крывіцкія мячы.
Мой прашчур — беларус
русавалосы —
Ішоў штодня на працу —
ледзь зара.
Адным бруском вастрыў мячы
і косы,
Пакуль чужынцы прагнулі
дабра...

г. Смалявічы.

## Алесь ЛОБКІС

# Памяць

I

Мінулае варушым і варушым —
Не з сена вытрасаем цвіль і
тхліну.
Балюча і гаркотна за краіну...
Мінулае варушым і варушым.

А хтось трымціць, нібыта ліст
асіны.
А хтось заткнуў, бы даўняй
ватай, вушы...
Мінулае варушым і варушым—
Не з сена вытрасаем цвіль
і тхліну.

II

Мінулае варушым і варушым —
Бінты зрываем з незагойных
ран.
Каб толькі не запасці ў новы
зман!..
Мінулае варушым і варушым.

У кульцікаў яшчэ трывалы
збан,
Што шанцу дай — жах
выплюнуць на душы!..
Мінулае варушым і варушым —
Бінты зрываем з незагойных
ран.

III

Мінулае варушым і варушым —
І праўда перахоплівае дых.
Нервова ходзяць жаўлакі,
кадык:
Мінулае варушым і варушым.

Шукаем у натвораным брады.
Мо дападзём калі да цвёрдай
сушы...
Мінулае варушым і варушым —
І праўда перахоплівае дых.

Аршанскі раён.



Фота Э. ЭЛЬКСІНА.

З таго дня Вадзім увесь час круціцца каля дзядзькі са сваім запаветным пытаннем: «А калі мы паедзем?»

Паездка ўвесь час адкладвалася з-за таго, што Франц Антонавіч ці быў вельмі заняты ці нездаровілася Сашу. У яго за гэты час два разы падскоквала тэмпература. Наогул ён быў вельмі хваравіты хлопчык.

Марылька неяк, не падумаўшы, сказала пра гэта, дык Франц ажно ўскіпеў. Увогуле, з ім трэба было трымаць вуха востра. Што ні скажы — усё кепска.

Марылька заўважыла, што Стэфіны хлопцы хварэлі больш, чым яе, асабліва Саша, і гэта яе ўпотай радавала.

Стэфа ўжо так дагаджае, так штохвілю клапоціцца пра іх, што Марылька проста не ведае, як ёй аддзякаваць. Асабліва яна падкормлівае Максіма, каб ён крышку паправіўся. А Макс ледзь што—пачынае румзаць: такая ўжо мямля разлезлая, што не дай ты Бог! Таму і гуляць з ім ніхто не хоча. Але есць не ў свае духі—і ўвесь дзень нешта жуе, як быццам да гэтага цэлы год нічога не еў. А цётка ўсё падкормлівае і падкормлівае, задаволеная, што ён есць. То вяндлінкай, то каўбаскай, то яечняй, то малачком. Амаль не выходзіць пірог. Чаго няма, дык толькі мяса, і Стэфа ўвесь час гаворыць пра гэта—нібыта просіць прабачэння. Пачакайце, кажа, крыху: падрастуць кураняты--варыць булён будзем...

А ў яе і праўда: і куранят, і гусянят—процьма!

Лёвіку ад квактухі ўжо не раз папала: адзін раз дзюбнула ў руку, другі—ажно на галаву скокнула. Марылька ўбачыца—ледзь не самлела. Але нічога—абышлося. А Вадзік зарабіў ад суседзяў вымову: яго прабралі як след—забіў гусяня.

Але Вадзік рабіў не толькі кепскія, але і добрыя ўчынкі, і да слёз расчуліў—рассмяшыў адначасова — і цётку, і маці. На другі дзень пасля таго, як ён спытаў Марыльку, за каго яна гэтак моліцца, выйшаў вечарам, перад сном, на ганак, склаў ручкі і пачаў маліцца:

— Божанька, пашлі заўтра здароўе тату, Іванову, дзядзьку Давідовічу, дзядулю і ўсім людзям... Надзі, Веры...— і як пачаў пералічваць, здавалася, канца не будзе, і скончыў так: «А найхутчэй, паслязаўтра, пашлі здароўе тату».

І так некалькі вечароў запар. Марылька са Стэфай падслухалі і не маглі надзівіцца: вось разумнае дзіця! І трэба ж так...

А на наступны дзень, ужо надвячоркам, да Секяржыцкіх зайшоў млынар, каб паведаміць, што на пошце ў Асіповічах Марыльку чакае пісьмо, але новы наглядчык пошты сказаў, што аддасць яго толькі ёй.

Ад радасці Марылька ледзь не страціла прытомнасць. З грудзей адразу зваліўся неймаверны цяжар, які, здаецца, яе душыў, і цяжка было нават дыхаць. І ў яе невядома чаго падкасіліся ногі. Слабасць ад радасці?

Спала яна як забітая. Першую ноч за апошні тыдзень. Стэфа, калі яна ўстала (а ўстала Марылька позна, што з ёю здаралася вельмі рэдка), сказала, што заўтра Франц Антонавіч паедзе ў Асіповічы з гасцінцам новаму наглядчыку пошты. Ён дамовіцца з ім, каб усё, што будзе прыходзіць на іх адрас, ён аддаваў вяззеўскаму млынару, які ездзіў на станцыю па два-тры разы ў тыдзень.

Навіна, якую прынеслі ёй з пошты, вярнула Марыльку да жыцця. Як Стэфа ні старалася разважыць і супакоіць сястру, нічога не атрымлівалася... Марылька стаяла на сваім: з Адамам нешта здарылася. І толькі адно адрывала яе ад гэтых пакутных і назойлівых думак— людское гора, і яна адчувала сябе сапраўды шчаслівай, як магла камусь памагчы.

І здзіўляла яе перш-наперш не толькі сама бяда, з якою яна на кожным кроку сутыкалася ў вёсцы, а тое, што чалавек, як ні дзіўна, мог яе вытрываць. І атмасфера гэтай людской бяды была не апошняй прычынай яе заўсёднай душэўнай неўраўнаважанасці і таго прыгнечанага духоўнага стану, у якім яна і жыла, асабліва апошні тыдзень.

А тут яшчэ ўчора ёй расказалі, як у адной вёсцы мужык да паўсмерці збіў жонку толькі за тое, што яна адрэзала дзецям лустачку хлеба з апошняга бохана. Няшчасная жанчына ўцякла з хаты і схавалася на могілках, дзе правяла і ноч, а назаўтра з акрываўленай галавой валялася на зямлі, выпрошваючы даравання.

Гэтая «звычайная гісторыя» асабліва ўсхвалявала і ўзрушыла Марыльку. Яна паставіла сябе на месца гэтай гаротнай сялянкі і не магла зразумець, якое злачынства перад мужам зрабіла яна? Якая жорсткасць, якое дзікунства! Жыць не хочацца!

Або яшчэ больш неверагоднае і жудаснае здарэнне. Калі Франц некалькі дзён назад расказваў пра яго, Марыльцы захацелася закрычаць: «О Божа, калі ты ёсць на свеце, як ты можаш дапускаць такое!» Гэта было не ў ваколіцы Асіповіч, а недзе далей. Адна ўдава, пакінуўшы дома двое малых дзяцей, пайшла на падзённую працу і, калі вечарам вярнулася дахаты, убачыла на падлозе свайго меншага хлопчыка, які ляжаў, непрытомны, у лужыне крыві. Старэйшы брат адсек яму сякерай нагу. Яна ад адчаю і гора схапіла камень і забіла старэйшага сына.

Якое трэба мець сэрца, каб гэта ўсё перажыць!

Яна ізноў паспрабавала ўявіць сябе на месцы гэтай—не інакш, як праклятай Богам—маці. Не, яна яшчэ шчаслівая. Вось Стэфін Саша... Ізноў ляжыць у гарачцы—тэмпература пад сорак. Ён так часта хварэе, што Стэфа ўжо не выклікае і фельчара: паляжыць некалькі дзён і ўстане. А яе хлопчыкі, каб не прагаварыцца,—здаровыя.

11 мая, у чацвер, Марылька была ў такім узрушэнні, што нічога не магла рабіць, і нават Саша, з якім яна пачала займацца, заўважыў, што цётка Марыя сёння «нейкая не такая», як заўсёды. Здавалася, што яна яго і не слухала: сядзела і пазірала некуды ўбок, а потым спахаплівалася і прасіла яго тое ж самае слова прачытаць яшчэ раз. І ён чытаў.

Трывога за Адама, ад якога па-ранейшаму не было ніякіх вестак, перапоўніла чуйнае, узбуджанае журботным прадчуваннем Марыльчына сэрца, і ёй прыходзіла ў галаву немаведама што. Некалькі начэй запар ёй снілася па некалькі разоў за ноч, што ён ляжыць хворы, адзін у іх гродзенскай кватэры (якую ён павінен быў змяніць на асобны пакой і да яе прыезду з Вяззя знайсці новую) і ў яго ідзе горлам кроў, як гэта было тры гады назад у Мінску. Інакш бы ён абавязкова даў пра сябе знаць. Марылька была ўпэўнена, што яго маўчанне выклікана толькі бядой — а якою... Марылька баялася нават думаць. У сваіх трывожных снах—рэальным, хоць і дрымотным трызненні — яна, як наяве, бачыла, нібыта стаяла побач, як ён ляжыць на іхнім ложку з белым, як мел, тварам, а на пасцелі—плямы крыві. І яна ад гэтых бясконцых відовішчаў раз-пораз прахоплівалася, уся аблітая халодным потам. І ўжо не ведала, што ёй рабіць і што думаць. Тры дні назад хадзіла да вяззеўскага млынара, чалавека рэдкай дабрыні і сардэчнасці, з якім пазнаёмілася адразу пасля прыезду ў Вяззе, калі гуляла з дзецьмі на невялікім поплаўчыку паблізу млына, хадзіла прасіць, каб ён паслаў тэлеграму, а назаўтра атрымала... два нумары «Тыдня» і столькі ж «Рускіх ведамасцяў»... І ў той жа вечар напісала ліст мужу. Ён пачынаўся так:

«Я папраўдзе, Адам, не ведаю, што і думаць, чаму гэта на працягу трох тыдняў я не атрымала ад цябе ні радка, між тым, як ужо і з Вяззя паслала два лісты, у якіх Хрыстом Богам прасіла выслаць мне лекі...»

За тыдзень, калі не было лекаў, галовы хлопцаў сталі такія, што на іх і глядзець моташна.

І калі ён адразу ж не вышле ёй тое, што трэба, і пісаць больш не будзе... І няхай ён там хоць зусім прападзе... такая злосць! Яна ўвесь час тут сядзіць і думае, што ён, можа, памёр, ночы не спіць, пакутуе, хадзіла ўжо і тэлеграму пасылаць, кланялася Францу за 60 капеек на гэта і раптам атрымлівае... газеты... і ні ліста, ні пасылкі. І гэта называецца яго клапатлівасцю, увагай? Прасіла, каб абавязкова паведаміў, ці паслаў Алене Мацвееўне сем рублёў на паліто, якое засталося ў краўца і можа праз гэтую марудлівасць прапасці зусім, і зноў— ні слова. А яна ж і сама да набору даклала яшчэ... рублёў пяць. І ўсё гэта можа пайсці прахам!

Але тон Марыльчынага ліста паступова мяняецца, і яна, адчуваючы сябе вінаватай за тое, што ў Мінску так ці іначай растраціла ўсе грошы, спакайнеючы, пераходзіць да разважання, якое падобна на апраўданне: «Я ж цяпер столькі грошай расходваць не буду, цяпер мне і 18 рублёў у месяц будзе даволі, толькі высылай акуратна кожнае дваццатае, і дадатковых прасіць у цябе не буду, а то на хваробу Максіма, ды на наборку да паліто, ды на розныя закупкі пайшло шмат грошай. Цяпер вось ні ў Вадзіма, ні ў Максіма абутку няма, можна было б заказаць тутэйшаму шаўцу, але я адкладвала да 20. Цяпер толькі, дзеля Бога, вышлі ў Мінск на паліто, ды мне лекі.. не забудзь жа... сёння гэта зрабі».

Лекі Марыльцы былі патрэбны, каб лячыць сваіх вясковых пацыентаў: «Каб мне Бог шчасця даў, як гэта праўда, што я тут стала вядомая як лекарка»,— так абгрунтоўвае яна сваю просьбу хутчэй прыслаць ёй патрэбныя лекі.

Не, што ні кажыце, а Багдановіч жонку ведаў: сваю запальчывасць яна заўсёды ўтаймоўвала пачуццём прыроджанай справядлівасці і ў гэтым лісце (і не толькі, зразумела, у гэтым) паказала, што яна вышэй за ўсякія крыўды, якія б вялікія і слушныя яны ні былі.

У залежнасці ад настрою ўвачавідкі мяняўся і стыль яе пісьмаў, але нязменным заставалася адно: самаахвярная любоў маці і самаадданае каханне да бацькі сваіх дзяцей. Назіральная, самакрытычная Марылька абвострана адчувала сваю асаблівую адказнасць за выхаванне і здароўе дзяцей. І, калі гэта трэба было, умела прызнацца і ў слабасцях сваіх і ў праліках.

«Я папраўдзе, Адам, не ведаю...»— так пачынаецца гэты ліст, і вось—параўнайце—яго заключны акорд: «Пішы мне, Адамачак, часцей. Ты не паверыш, які ты мне менавіта цяпер дарагі і любы: пры адной думцы пра тваю смерць я вар'яцела па начах, і ўсе нашы зараз з мяне смяюцца. Калі я табе зрабіла якую-небудзь непрыемнасць, дык даруй: далібог жа, нехаця. За што ты на мяне злуешся? За тое, што я рада пажыць у вёсцы, і цэлы дзень быць з людзьмі? Кінь! Пішы мне, мой любы, залаценькі, а я затое прыеду да цябе такая тоўстая, што і не абымеш. Я тут вельмі папраўлася...»

# Вяртанне будзе прагрэсам

(Пачатак на стар. 10—11).

універсітэцкай, у акадэмічнай бібліятэках ёсць ірмалагіёны з беларускай зямлі—гэта, па-мойму, такія цудоўныя зборнікі, якіх у іншых бібліятэках вы не сустрэнеце).

Калі мы будзем працаваць над ленінградскімі фондамі, кожнаму асобна ісці ў пошуках проста не хопіць сіл—матэрыял жа і там яшчэ неўпарадкаваны. Таму калі беларусы з'ездзяць, літоўцы з'ездзяць—трэба хутчэй мяняцца інфармацыяй і ў будучым мо нават паспрабаваць разам і выдаваць гэтыя матэрыялы, што стасаваліся з жыццём Вялікага княства Літоўскага.

Мы цудоўна ведаем, што тады быў адзіны вяльможны двор, музыканты ездзілі з дваром і ў Гродна, і ў Вільню, і г. д. Ёсць багаты фонд двара вялікага князя літоўскага, у Варшаве. Услед за польскімі музыказнаўцамі, думаю, трэба і нам прайсці па ім і паглядзець. Бо я фрагментамі глядзела гэты фонд: там так багата беларускіх прозвішчаў, хоць яны пісаліся і па-польску, і на латыні. Відаць, карані тутэйшыя, музыканты — з віленскага краю, з беларускіх земляў.

Ёсць і ў нас, і ў вас праблема мовы. Пэўны час усё, што ствaралася на нашых землях, выдавалася па-польску. Яно яшчэ не вернута нашай культуры і прысвойваецца культурай польскай. А тут жа было зусім натуральнае карыстанне менавіта польскай мовай, бо яна ўжывалася як касцельная мова і як вяльможная мова—дык хіба гэта прычына, каб не лічыць створанае ці выдадзенае па-польску набыткам культуры нашага рэгіёна?

Цяпер самая вялікая задача літоўскіх навукоўцаў — выдаць гісторыю літоўскай музыкі ў 6-ці тамах. Але ёсць такія напластаванні, якіх мы ніколі не раздзелім, якія ўвойдуць як частка і ў беларускую, і ў літоўскую, і ў польскую культуру. І калі я чытаю энцыклапедычныя выданні, напрыклад, нямецкія, — сорамна, бо калі пра літаратуру, пра жывапіс і ёсць трошкі, дык музыка беларуская ці літоўская на самай нізкай прыступцы, быццам нічога і не было! У якую гісторыю ўваходзяць Нясвіжскі, Слонімскі, Гродзенскі прыдворныя тэатры — толькі не ў беларускую. Мы павінны зноў неяк выйсці з гэтай сваёй музычнай гісторыяй у Еўропу.

**Т. Шчарбакова, музыказнаўца:**

— Мы — сведкі ды ўдзельнікі таго, як культура, сама нараджаючы сябе, ратуе сябе і народ; нягледзячы на гранічныя нягоды сацыяльныя, культура жыве. І ў тым, што адбываецца сёння, мне бачыцца працэс больш агульны: ідзе адштурхоўванне пэўнага мёртвага пласту культуры, адпаведнага пэўнаму перыяду нашага жыцця ў межах вялікай еўразійскай прасторы, але ідзе і адраджэнне пладаноснага, забытага, адышоўшага далёка.

Адбываецца спроба будаваць новую культуру не толькі на Беларусі, і паўсюль людзі заклапочаны, якія даць стымулы, наб падштурхнуць культуру наперад. Мяняюцца эстэтычныя арыенціры. Дагэтуль навукай ці каляжнавуковым веданнем лічыліся эстэтычна значным, высокім і адзіным, вартым уліку ў даследчыцкіх працах, па-першае, элітарны пласт прафесійнага мастацтва і, па-другое, фальклор, які заўжды быў бязгрэшны. (Што фальклор вельмі неаднародны, фалькларысты ведаюць лепей як хто іншы). Усё прамежкавае, уся гіганцкая сяродкавая, ці «трэцяя» прастора культуры—аматарства мінулых стагоддзяў, г. зн. арыстакратычныя «гнёзды», памешчыцкі, чыноўніцкі, мяшчанскі побыт, царкоўнае мастацтва прафесійнае ды шырокае каляцаркоўнае аматарства,—усё гэта ігнаравалася, а калі гаварыць пра нашы апошнія дзесяцігоддзі—проста арыштоўвалася, маўчала, не функцыянавала. Адсюль і татальнае невуцтва ў культуры, калі Беларусь не ведала фундаментальных пластоў сваёй музыкі.

І вось фестываль, у тым, як ён склаўся—а практыка заўжды апярэджвае навуковую свядомасць,—паказальны для таго, ШТО трэба рабіць зараз...

Хачу закрануць немалаважнае пытанне, вакол якога ўзніклі спрэчкі,—аб адносінах паміж навуковым веданнем і выканаўчай практыкай. Трэба ўявіць сабе, што толькі пры найвысокім узроўні навуковага ведання і пры існаванні спецыяльных курсаў тыпу «Калегіум музікум» (а ў нас такіх няма) змыкаюцца дакладнае навуковае веданне, дакладная расшыфроўка, разуменне таго, што вось гэта —аўтэнтычнае і нічым не можа быць падменена, —і гэткі ж узровень выканаўчай культуры, які абавязвае да ўвасаблення музычнага помніка ў яго спрадвечным выглядзе. Такога роду струмень у выканальніцтве, які ўзнік проста на базе чыстай навукі, існуе ў Францыі ды ЗША. Ёсць імёны, ёсць ансамблі... У нашым жа асяроддзі гэтага напрамку няма, давайце шчыра пра тое казаць. У нас ёсць энтузіясты-навукоўцы, якія на свой розум, у меру сваёй любові да гэтай справы робяць яе. А тое, што трапляе на канцэртную эстраду, далёкае ад аўтэнтычнасці, ды я не лічу, што гэта дрэнна. Я проста лічу, што час аўтэнтычнага выканання яшчэ не прыйшоў.

Павінны мінуць нейкія гады, з'явіцца спецыялісты, павінны быць падрыхтаваны маладыя кадры, якія зразумеюць каштоўнасць аўтэнтычнага матэрыялу і ашчадлівага да яго стаўлення. Цяпер у практыцы адбываецца тое натуральнае, што і мае быць. А павінны быць розныя падыходы, якія сведчаць пра багацце творчай палітры ў нашым асяроддзі, пра наша разуменне, што такое аўтэнтычная інтэрпрэтацыя спадчыны, а што такое аранжыроўка. І не павінна быць пурысцкага падыходу: рабіце, маўляў, толькі так. Мы ўсведамляем, што аранжыроўка з густам, тонка зробленая, — гэта ўпрыгожанне культуры, і такія рэчы, мне здаецца, мелі месца на фестывалі.

Кампазітар мае права выказаць сваё стаўленне да спадчыны, да мінулага, беручы ўдзел у працэсе будавання новай культуры. Праз іх, праз кампазітараў, якія адчуваюць сучаснасць і адштурхоўваюць мёртвую, скажам, «совковую», інтанацыйнасць, даючы штосьці свежае, змыкаючыся з пластамі старэйшымі,—і будзе ствapaцца новая культура Беларусі.

●

Цярплівы мой чытач! Калі зараз ты сярдуеш, бо патраціў стольку часу, а поўнага ўяўлення пра фестываль не атрымаў, я не буду шукаць словы, каб палепшыць твой настрой. Калі ты «займеў зуб» на маю адвольную аранжыроўку тэмы, я не буду апраўдвацца. Я падумаю: жартуеш. Бо сапраўдны мой чытач, нягледзячы ні на што, радуецца. Адраджаецца капэла! Засвяцілася на музычным небасхіле зорка, якая пакажа нам дарогу вяртання да сябе.

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ.**

Фота У. ВІТЧАНКІ.

З ПОШТЫ «ЛіМа»

## ХТО МЫ БЕЗ МОВЫ...

Па Беларускім тэлебачанні штотыднёва гляджу перадачу «Тыдзень беларускага ўрада», у якой прымаюць удзел члены нашага СМ. Мне даводзілася слухаць выступленні М. Мясніковіча, С. Лінга, Г. Панькова і інш. Пасля гэтага дзіву даешся: як людзі, якія займаюць такія высокія пасады ва ўрадзе Беларусі, не ведаюць беларускай мовы. Гэта ж смеху варта! Як яны могуць патрабаваць ад сваіх падначаленых выконваць Закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы, калі самі не валодаюць ёю? Які яны паказваюць прыклад беларускаму народу? Сорамна за такіх кіраўнікоў. За час, што яны жывуць у Беларусі, можна было авалодаць кітайскай ці японскай мовамі, а не то што беларускай. Крыўдна і балюча, калі самі беларусы, якія займаюць такія высокія дзяржаўныя пасады, так зняважліва адносяцца да сваёй роднай мовы. Так і хочацца запытацца ў гэтых кіраўнікоў: дзе ж ваш нацыянальны гонар? Няўжо вам не сорамна, што беларусы страчваюць самае галоўнае, па чым пазнаецца народ, нацыя, наш нацыянальны твар,— мову? Без мовы мы не беларусы, а проста жыхары рэспублікі. Калі ёсць такое вялікае багацце, як родная мова, то яно павінна прымяняцца. Інакш навошта тады і беларусамі звацца?

**В. КРАЎЦОЎ.**

г. Віцебск.

РЭПЛІКА

## РАДАВАЦЦА Б, АЛЕ...

Дайшлі мы, як кажуць, да ручкі. Маю на ўвазе не толькі жахлівае эканамічнае становішча, у якім апынуўся колішні Савецкі Саюз, але і страшэнныя экалагічныя катаклізмы. Здаецца, у гэтым ужо ніхто не сумняваецца. Больш за тое — пачынаем непакоіцца. Шмат хто. Прынамсі, Мінскі гарадскі камітэт па экалогіі, гарадская санітарна-эпідэміялагічная станцыя, гарадскі савет Беларускага экалагічнага саюза, мінская эколага-тэхналагічная асацыяцыя гатовы аб усіх гэтых бедах крычаць на ўвесь голас. Таму і вырашылі выдаваць газету «Экалогія Мінска», першы нумар якой з'явіўся ў кіёсках сталіцы Рэспублікі Беларусь.

Тут бы радавацца, ды, як той казаў... З выхадам новай газеты працягваецца рухацца ранейшая «інтэрнацыянальная» кружэлка: не «Экалогію Мінска» мы бачым, а «Экологию...» Няўжо заснавальнікі новага выдання думаюць, што калі пра беды, якія абрынуліся на нас, гаварыць па-беларуску, дык гэта не да кожнага дойдзе? Ці што пра фізічнае здароўе чалавека варта турбавацца, а вось пра маральнае здароўе нацыі — няма патрэбы? Выходзіць, што гэтак.

**А. М.**



Фота С. ГРЫЦА.

# Хто прагне рэваншу

(Пачатак на стар. 5).

у дадзеным выпадку Грыгор'евым. А што, калі яму не спадабаюцца пытанні рабочых? А што, калі раўне: «Куды глядзелі, чаму не выхоўваеце працоўных?» А за гэтым маглі паследаваць і аргвывады...

Сёй-той скажа: усё гэта сплыло ў мінулае, навошта гэта ўспамінаць, калі камуністычнай партыі ўжо няма?

Не, хаваць яе зарана, хоць, сапраўды, яна і страціла былую сілу. Затое жыве наменклатура — той трэці клас, які абавязаны партыі сваім высокім становішчам у грамадстве.

Член прэзідыума Наваполацкага гарсавета, дэпутат Віцебскага абласнога Савета, старшыня гарадской суполкі БНФ Віталь Аляксандравіч Гідрановіч расказваў мне пра пасяджэнне прэзідыума 19 жніўня — у першы дзень путчу. На ім прапанова дэпутатаў ад Дэмакратычнага форуму выступіць з асуджэннем неабальшавіцкага перавароту сустрэла яраснае супраціўленне дэпутатаў-камуністаў дырэктара завода бялкова-вітамінных канцэнтратаў Канобрыя і інжынера завода «Нафтааргсінтэз» Мяньшова, якія адкрыта падтрымалі путчыстаў.

А. Захаранка ў час нашай працяглай гутаркі аднойчы скажа: «Учора час працаваў на дэмакратаў, сёння ён працуе на нас. Паглядзім, як новыя ўлады выкруцяцца з гэтага адчайнага эканамічнага становішча».

Як гэта ні сумна, а ёсць у яго развагах рацыянальнае зерне. Вельмі многія людзі жывуць сённяшнім днём — яны мяркуюць, што за пустыя паліцы павінен несці адказнасць той, хто цяпер стаіць на чале ўлады. Паспрабуй дакажы ім, што гэта камуністычны рэжым давёў краіну і нас да жабрацтва. У іх заўсёды напагатове фраза: «А раней кілбаса была!» Не звяртаць увагі на абывацельскія развагі? Як сказаць. Менавіта на іх, на люмпенізаваную частку грамадства, робіць стаўку партакратыя, якая дзе-нідзе пачынае актыўна дзейнічаць пад новай шыльдай. Узяць хоць бы новаспечаны рух «За дэмакратыю, за сацыяльны прагрэс і справядлівасць», які ўзначаліў другі сакратар былога Мінскага гаркома КПБ, сумнавядомы сваім пячорным антыдэмакратызмам В. Чыкін. У рух рэкрутавана нямала людзей, якія мараць аб вяртанні камуністычнага «раю». На ўзбраенне гэтыя фарысеі бяруць такія святыя словы, як «дэмакратыя», «прагрэс», «справядлівасць» і да т. п. Няхай гэта нікога не падманіць, як не падманяць дэкларацыі аб «незалежнасці» ўчарашніх партыйных газет. Нядаўна перагарнуў «абласную незалежную масавую газету» «Віцебскі рабочы». Такое ўражанне, што кожны нумар яго па-ранейшаму ўзгадняецца з абкомам партыі. Толькі ў выпуску «ВР» за 23 кастрычніка г. г. змешчаны аж чатыры матэрыялы, аўтары якіх льюць настальгічную слязу аб колішнім часе, прагнуць уступіць у якую-небудзь арганізацыю, якая б «паклала канец ганьбаванню камуністычнай партыі». Газета паведамляе і аб маючай адбыцца ўстаноўчай канферэнцыі руху працоўных Беларусі «За дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасць». Так, таго самага, чыкінскага...

Не помню, у якім выданні мне трапіў на вочы верш, што ўразіў сваім апошнім радком. Нешта такое: «когда приходит время свободы, время, когда торжествует закон, **мы забываем, как опасен околевающий дракон».**

Так, забываем...

**Міхась ЗАМСКІ.**

P. S. **Артыкул гэты быў дасланы ў набор яшчэ да разгляду на апошняй сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі пытання аб лёсе КПБ, дзейнасць якой была прыпынена парламентам пасля паражэння янаеўскага путчу.**

**Хто сачыў за яе працай, помніць, якую бурную рэакцыю часткі дэпутатаў выклікалі спробы камуністычнай фракцыі навязаць Вярхоўнаму Савету свой пункт гледжання на ўдзел кампартыі Беларусі ў жнівеньскіх падзеях. Не трэба было быць вялікім палітыкам, каб зразумець, што хавалася за яе, на першы погляд, бяскрыўднымі прапановамі — даць магчымасць камуністам склікаць свой з'езд, на якім КПБ, быццам бы, аб'явіць аб самароспуску, аб перадачы «часткі» сваёй маёмасці дзяржаве, стварэнні на законных падставах новай «грамадскай» арганізацыі (супраць гэтых «манеўраў» адразу выступіла парламенцкая апазіцыя БНФ, кіруючыся, відаць, меркаваннем, што партыі, якая заплямiла сябе нябачаным крывадушшам, хлуснёй, — верыць нельга).**

**Негатыўную рэакцыю многіх парламентарыяў выклікала і прапанова дэпутатаў-камуністаў адчыніць для былых гаспадароў апячатаныя памяшканні партыйных камітэтаў, каб папярэдзіць «захоп» іх... малымі прадпрыемствамі і кааператывамі (!), падрыхтаваць будынкі як след да зімы (дарэчы, прапановы гэтыя горача падтрымаў Старшыня Саўміна рэспублікі В. Кебіч). Не расчуліў парламентарыяў і заклік камуністаў паспачуваць учарашнім партфункцыянерам, якія, маўляў, засталіся без працы і сродкаў для існавання.**

**Але не так ужо «пакутуе» зараз былая партакратыя. Пра гэта сведчаць і факты, нагаданыя ў артыкуле «Хто прагне рэваншу». Сёння можна ўпэўнена гаварыць пра тое, што сітуацыя, апісаная ў ім, характэрная не толькі для Наваполацка...**

**Па шэрагу абставін (у прыватнасці, не было кворуму дэпутатаў) парламентары не прынялі рашэння па «партыйным» пытанні. Разгляд яго будзе прадоўжаны на наступнай, снежаньскай, сесіі Вярхоўнага Савета.**

**Мабыць, учарашнія гаспадары жыцця яшчэ спадзяюцца, што кампартыя, нібы тая казачная птушка Фенікс, адродзіцца з попелу. Але птушку, як кажуць, відаць па палёце. Гэтая — узляцець не павінна...**

**ВІНШУЕМ!**

Сёння вядомаму беларускаму крытыку і літаратуразнаўцу Эсфір Гурэвіч — 70 гадоў. «ЛіМ» жадае Эсфір Саламонаўне моцнага здароўя, далейшага плёну на літаратурна-крытычнай ніве.



# ПРЫЗВАННЕ — КРЫТЫКА

Вядомае выслоўе: хочаш лепш пазнаць паэта — пабывай у яго на радзіме. Ці, прынамсі, перачытай яго творы. Яны шмат табе скажуць і пра самога аўтара, і пра тое, што найбольш яго хвалюе і турбуе, чым жыве ён і да чаго імкнецца. А як быць з крытыкам, літаратуразнаўцам? Сказаць, што ён цалкам раскрываецца ў кнігах, напісаных у розныя гады, у нечым, канечне, пакрывіць душой. Якім бы таленавітым ні быў аўтар, але, такая ўжо спецыфіка крытычнага жанру, далёка не ўсё асабістае можа легчы, няхай і «між радкоў», у артыкул, прысвечаны аналізу пэўнай літаратурнай з'явы ці падзеі. Аднак і нельга цалкам адмаўляць прысутнасці ў тых жа артыкулах, рэцэнзіях асобы даследчыка. Асабістымі схільнасцямі, сімпатыямі ці антыпатыямі ён ужо кіруецца пры выбары прадмета гаворкі. Далей жа, па меры паглыблення аналізу, на першы план, як правіла, выходзіць тое, што найбольш блізка яму ці, наадварот, супярэчыць ягонаму стаўленню і да літаратуры, і да самога жыцця.

Творчая біяграфія Эсфір Гурэвіч найлепшым чынам пацвярджае гэтую думку. Усё, што з'явілася з-пад пяра яе адна-го са старэйшых беларускіх крытыкаў і літаратуразнаўцаў, пазначана пячаткай і асабістага вопыту, пачэрпнутага з пройдзеных жыццёвых дарог, і вопыту творчага, назапашанага ў працэсе доўгага, пільнага, памастакоўску дакладнага і прынцыповага (у друку Э. Гурэвіч выступае з 1948 года) назірання за літаратурным працэсам.

Заканчэнне літаратурнага факультэта Маскоўскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута ў Э. Гурэвіч супала з пачаткам Вялікай Айчыннай вайны. Маладая дзяўчына замест таго, каб працаваць па спецыяльнасці, вымушана была пайсці медыцынскай сястрой у ваенны шпіталь. Хаця чаму — «вымушана»? Не будзем забываць, што Э. Гурэвіч, як і тысячы яе равеснікаў, была выхавана на ідэях савецкага патрыятызму, і вайна з фашысцкай Германіяй стала для яе магчымасцю не на словах, а на справе даказаць сваю адданасць Радзіме, народнай уладзе.

Гэтая жыццёвая ўзнёсласць і рамантычная акрыленасць адчуваецца і ў манаграфіі Э. Гурэвіч «Творчая гісторыя раманаў М. Астроўскага». Канечне, цяпер не так і цяжка заўважыць, што ў працы месцамі прысутнічае пэўная ідэалізацыя падзей, якія сталі асновай твораў М. Астроўскага. Магчыма, аўтар і празмерна выдае дывідэнды самому раманісту. Але не будзем, як кажуць, разумнымі заднім чыслом. Чарговаму пакаленню крытыкаў і літаратуразнаўцаў па-свойму ацэньваць (і пераацэньваць!) шмат якія літаратурныя з'явы. Аднаго хацелася б, каб у гэтым не было кан'юнктуры, бо з якімі б добрымі намерамі яна ні рабілася, кан'юнктура застанецца кан'юнктурай. Манаграфія ж Э. Гурэвіч напісана па перакананні і тым цікавая яна і сёння.

І ўсё ж не памылюся, калі скажу, што Э. Гурэвіч набыла сваю індывідуальнасць, звярнуўшыся да беларускай літаратуры. Сапраўдны поспех да яе прыйшоў тады, калі аўтар пачала дэталёва вывучаць, даследаваць кнігі для дзяцей і юнацтва. Манаграфія Э. Гурэвіч «Беларуская дзіцячая літаратура (1917—1967)» — адна з першых у рэспубліцы спроб (перад гэтым выходзіў напісаны калектывам аўтараў вучэбны дапаможнік для вышэйшых навучальных установ) «Беларуская дзіцячая літаратура») прасачыць шляхі станаўлення і развіцця важнага пласта прыгожага пісьменства, засяродзіць увагу на вобліках найбольш значных творцаў. Неабходнасць і важкасць даследавання былі відавочныя. Своечасовасць — таксама. Невыпадкова ў хуткім часе выдавецтва «Детская литература» прапанавала не каму іншаму, а менавіта Э. Гурэвіч напісаць кнігу «Детская литература Белоруссии» для серыі, прысвечанай літаратурам саюзных рэспублік. Гэтае выданне пабачыла свет у 1982 годзе і прыхільна было сустрэта ўжо саюзнай грамадскасцю.

Шырокі рэзананс мела і кніга Э. Гурэвіч «Янка Маўр». Прымеркаваная да 100-годдзя з дня нараджэння пачынальніка беларускай дзіцячай літаратуры, яна тым не менш пазбаўлена юбілейнасці. Прынцыповасць ацэнак, аргументаванасць высноў, канкрэтнасць абагульненняў — якасці, характэрныя і для асобных кніг Э. Гурэвіч, і для рэцэнзій, для шматлікіх літаратурна-крытычных артыкулаў, на гэты раз асабліва далі аб сабе знаць. Кніга «Янка Маўр» — і творчая біяграфія чалавека, які шмат зрабіў для дзіцячай літаратуры, і, адначасова, слова пра самую гэтую літаратуру, і слова ў яе абарону, бо (і па-сённяшні дзень) знаходзіцца вельмі мала крытыкаў, ахвочых пісаць пра дзіцячую кнігу. Асобныя ж увогуле не разумеюць і не хочуць зразумець, што дзіцячая літаратура і літаратура для дзяцей — гэта не адно і тое. Для дзяцей, калі карыстацца гэтым тэрмінам, падыдзе любая кніга, якую возьме хлопчык ці дзяўчынка ў рукі. Дзіцячая ж літаратура — літаратура спецыфічная, зарыентаваная загадзя на кола пэўных праблем. Гэтая думка дамініравала ў манаграфіі Э. Гурэвіч «Беларуская дзіцячая літаратура», ёй прасякнута і кніга «Янка Маўр».

На багатым матэрыяле напісана і даследаванне «Пафас гераізму». Шмат у нашым літаратуразнаўстве манаграфій, у якіх аналізуецца проза аб Вялікай Айчыннай вайне, тым не менш кніга Э. Гурэвіч не губляецца сярод іх. І таму, што аўтар разгледзела спецыфічнае пытанне, звярнуўшы ўвагу на само паняцце гераічнага і спасціжэнне яго літаратурай. І таму, што гаворка выйшла за праблемы тэарэтычнага плана — Э. Гурэвіч выявіла глыбокае веданне матэрыялу, не прапусціўшы, па сутнасці, ніводнага больш-менш важнага твора не толькі беларускай, а і іншых літаратур.

Не цураецца Эсфір Саламонаўна «чарнавой» для крытыка, літаратуразнаўцы работы, выступаючы рэгулярна ў перыядычным друку. Я ўжо не кажу, што яна, доктар філалагічных навук шмат дапамагала і дапамагае цяпер маладым даследчыкам у аваладванні творчым вопытам.

Сапраўды: крытыка — яе прызванне!

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

**НАШ КАЛЯНДАР**

**175 гадоў з дня нараджэння А. Вярыгі-Дарэўскага (1816—1884), беларускага пісьменніка-дэмакрата, аднаго з арганізатараў узброеных выступленняў на Віцебшчыне ў час паўстання 1863—1864 гг. Першы пераклаў на беларускую мову паэму «Конрад Валенрод» А. Міцкевіча. Беларускія творы з-за цэнзурных умоў не мог публікаваць, рукапісы іх даследчыкамі не знойдзены. У кастрычніку 1858 года ў час паездкі з Віцебска ў Вільню завёў «Альбом», па сутнасці свайго роду рукапісны літаратурна - грамадскі альманах. У ім пакінулі аўтографы, вершы, а таксама нотныя і празаічныя тэксты У. Сыракомля, А. Кіркор, І. Ходзька і іншыя. В. Дунін-Марцінкевіч, А. Рыпінскі, Я. Вуль і іншыя рабілі запісы на беларускай мове. «Альбом» А. Вярыгі-Дарэўскага з'яўляецца помнікам беларускай культуры 19 стагоддзя.**

●

**80 гадоў з дня нараджэння пісьменніка П. Валкадаева (памёр у 1973 годзе). Друкаваўся з 1934 года. Аўтар паэтычных зборнікаў «Родная старонка», «Лівень», «Зялёная прыстань» і іншых. Выступаў таксама ў галіне прозы і нарыса. Пісаў па-руску.**

●

**85 гадоў назад (у лістападзе 1906 года) выйшаў першы нумар беларускай грамадска-палітычнай і літаратурна - мастацкай газеты «Наша Ніва». Выдавалася да жніўня 1915 года. Шырока асвятляла жыццё беларускага народа, спрыяла развіццю яго духоўнай культуры. У «Нашай Ніве» ўпершыню былі змешчаны многія творы М. Багдановіча, Цёткі, З. Бядулі, Я. Купалы, Я. Коласа і іншых пісьменнікаў. Газета садзейнічала публікацыі і прадстаўніком так званай масавай рабочае - сялянскай літаратуры. Нейкі час рэдактарам «Нашай Нівы» быў Я. Купала. У 1907 годзе літаратурны аддзел газеты ўзначальваў Я. Колас.**

*Сярод мнагалічбавай плеяды беларускай інтэлігенцыі, аддаўшай усе свае сілы й здольнасці адраджэнню нацыянальнай культуры роднай краіны, М. Багдановіч займае адно з першых месцаў.*

*У. ПІЧЭТА.*

**Леанід ЛЫЧ**

# «ДОЙЛІД» БЕЛАРУСКАГА АДРАДЖЭННЯ



100

**У гісторыі нашага народа дзвюма зусім непадобнымі адна да адной падзеямі адзначаны дзень 9 снежня 1891 года. Так ужо наканаваў лёс, што ў гэты дзень адышоў ад нас на вечны спакой першы беларускі сялянскі паэт Паўлюк Багрым, а ў сям'і Багдановічаў нарадзіўся сын Максім, які так удала, па-майстэрску цаглінку за цаглінай укладваў у сцены паэтычнага храма, падмурак якога заснаваўся з удзелам Паўлюка Багрыма. Але, на вялікі жаль, і Максіму, як і Паўлюку, не дадзена было доўга працаваць на ніве беларускай літаратуры.**

## 1. Нарадзіцца не спазніўся

Пад час з'яўлення Максіма на свет ужо сталі добра прыкметныя рысы нацыянальнага Адраджэння беларускага народа. Нягледзячы на цяжкія вынікі расправы з паўстаннем Кастуся Каліноўскага, кінутыя ім у глебу зерні не прапалі, пайшлі ў рост. Для абуджэння ў народа веры ў выжыванне шмат паспелі зрабіць да пачатку 90-х гадоў сваімі творамі, прасякнутымі сыноўскай любоўю да Бацькаўшчыны, Дунін - Марцінкевіч, Францішак Багушэвіч, Янка Лучына. Менавіта ў год нараджэння Максіма Ф. Багушэвіч выдаў у Кракаве зборнік «Дудка беларуская», які, напэўна ж, нязабаве трапіў і ў сям'ю Багдановічаў. Словы-заклікі з прамовы да зборніка «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі» для маладых Бацькоў Максіма Адама Ягоравіча і Марыі Апанасаўны маглі адыграць немалую ролю, каб гадаваць свайго сына на нацыянальных традыцыях, праз далучэнне да роднай мовы.

Вызначыць такі напрамак у сямейнай педагогіцы дапамагло ім і грунтоўнае азнаямленне з працамі па гісторыі, этнаграфіі і культуры роднага краю, аўтарамі якіх былі не толькі польскія і рускія вучоныя, але і беларусы. Хаця ў 1891 годзе Адам Багдановіч працаваў яшчэ загадчыкам Першага мінскага гарадскога пачатковага вучылішча, аднак цяга да гісторыі і этнаграфіі, фальклору і мовы беларускай у яго моцна акрэслілася. Зусім верагодна, што зацікаўленасць да іх праяўляла і Марыя Апанасаўна. А чытаць на той час ужо было што.

Да пачатку 90-х гадоў вучоным удалося рассеяць створаны польскімі і рускімі шавіністамі міф аб спрадвечнай адсталасці беларускага народа, яго няздольнасці да самастойнага нацыянальнага развіцця. Працы па гісторыі і культуры беларускага народа былі асабліва папулярнымі ў моладзі, што вучылася ў вышэйшых навучальных установах Пецярбурга і Масквы з іх багатымі рэвалюцыйна-дэмакратычнымі традыцыямі. Выкладзеная студэнтамі з Беларусі на старонках падпольнага гектаграфічнага часопіса «Гомон» (выдаваўся ў 1884 г. у Пецярбурзе) ідэя аб існаванні самабытнага беларускага народа, перспектывах яго захавання і развіцця адыграла велізарную ролю ў нацыянальна-культурным адраджэнні нашага краю. Ад таго часу яна практычна не замірала ў асяроддзі найбольш адукаванай нацыянальна самасвядомай часткі беларускай нацыі, беражна перадавалася ад старэйшых да малодшых пакаленняў. Не будзь у нас на рубяжы XIX—XX стагоддзяў такога ажыўлення ў народзе, наўрад ці на беларускай зямлі раскрыўся б яркі пісьменніцкі талент Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, аказалася б рэальным выданне на роднай мове газет і кніг, падручнікаў.

Праўда, у дваццацігадовага Максіма была зусім непадобная да маёй ацэнка апошніх дзесяцігоддзяў XX стагоддзя. «На вялікі жаль, — пісаў паэт, — гэта былі нудныя 80-я і 90-я гады, калі ўсякая жывая справа зараз жа і заціскалася, калі грамадзянская думка крэпка спала, калі ўсё жыццё якась пашарэла і прыгнікла. Не трэба і казаць, што ніякага колькі-небудзь прыкметнага беларускага руху тады і ў паміне не было, бо нацыянальная свядомасць не магла развівацца ў народзе без помачы ўласнай інтэлігенцыі, а яна толькі што яшчэ пачынала адслаівацца». Не, у гэты час грамадзянская думка ўжо абудзілася і ў нашым краі, на карысць нацыянальнага Адраджэння плённа працавала і ўласная інтэлігенцыя. Праз дваццаць гадоў пасля задушэння паўстання 1863—1864 гадоў яе сілы не толькі аднавіліся, але і ўзняліся на новы віток. Па гісторыі і культуры, этнаграфіі і фальклоры, мове Беларусі з'явілася столькі прац, што для людзей, якія былі знаёмы хоць часткова з імі, ужо не існавала пытання, ёсць ці няма самабытнага беларускага народа. Уступленню яго ў нацыянальны рух садзейнічалі падзеі, што адбываліся тады ў краінах Еўропы, а таксама на суседняй Украіне, якая ў гэтай справе дасягнула значна большага поспеху за Беларусь.

З мэтай большай пераканасці ў тым, што ў нашым краі тады ўжо многімі добра разумелася неабходнасць і заканамернасць беларускага Адраджэння, не лішнім будзе заўважыць, што гэта ідэя зусім не новай была нават і для больш ранняга гістарычнага перыяду: 40 — пачатку 60-х гг. Доказваюць гэта такія факты, як уключэнне Беларусі ў праграме кірыла-мефодзіеўскага брацтва ў якасці паасобнага штата агульнаславянскай федэрацыі; зварот М. Бакуніна да братоў-славян забяспечыць у будучым правы Беларусі на самастойнае месца, незалежную дзяржаву; погляды многіх польскіх і рускіх вучоных на беларускую мову як самастойную ў сям'і славянскіх моў. Цалкам пагаджаюся з А. Цвікевічам, які ў 20-я гады пісаў: «Ідэя беларускага культурнага адраджэння лунала ў канцы 50 і ў самым пачатку 60 гадоў у паветры і знаходзіла моцны адгалосак у агульным грамадска-культурным уз-

дыме ў Расіі... Падняўшая галаву рэакцыя і мураўёўскі тэрор разам з польскім паўстаннем задушылі яе далейшае развіццё». На вялікае шчасце, не надоўга, бо народ з такой багатай гісторыка-культурнай спадчынай, як беларускі, не можа апускаць крылы пры любых ахвярах.

«Вяхой, якая адзначае пункт пералому ў гісторыі беларускага адраджэння», Максім Багдановіч справядліва называў 1905 год: «Падзеі, звязаныя з гэтым годам, стварылі ў народных масах імкненне разабрацца ў акаляючым жыцці і выклікалі ліхаманкавы попыт на ідэалагічныя каштоўнасці. Пісаць для гэтага масавага чытача было неабходна перш за ўсё проста і зразумела, так што сама сабой з'явілася думка звярнуцца да беларускай мовы».

Узяўшыся за пяро, адразу ж актыўна пачаў працаваць на карысць нацыянальна-культурнага адраджэння, фармавання этнічнай самасвядомасці беларускага народа і Максім Багдановіч. У яго няма спецыяльнай манаграфічнай працы па данай праблеме, але калі азнаёміцца з тым, што па ёй напісана ў розных артыкулах, дык прыйдзеш да высновы, што асноўныя, найбольш важныя аспекты яе выдатным нашым паэтам даволі грунтоўна выкладзены. Таму ёсць усе падставы залічыць Максіма Багдановіча да кагорты самых слынных дойлідаў беларускага нацыянальнага Адраджэння. Ён быў не толькі сынам, але і здольным, таленавітым прадаўжальнікам яго, асабліва ў другім дзесяцігоддзі XX стагоддзя, у многіх адносінах надзвычай складаным і супярэчлівым. Выкладзеныя Максімам Багдановічам думкі па культурна - нацыянальным Адраджэнні беларускага народа вытрымалі шматгадовую праверку і, несумненна, могуць быць выкарыстаны ў наш надзвычай цяжкі час, хаця сёння даводзіцца мець справу не столькі з адраджэннем, колькі з выратаваннем беларускай нацыі як самабытнага этнасу.

## 2. Выжывем толькі з роднай мовай

Максім Багдановіч да канца быў упэўнены, што захавацца, забяспечыць за сабой пачэснае месца сярод цывілізаваных народаў планеты Зямля беларусы змогуць толькі праз сваю родную мову. Невыпадкова яна з'яўляецца лейтматывам для многіх яго паэтычных і публіцыстычных твораў, асялкам, якім ён вызначаў стан нацыянальнай самасвядомасці народа. Прыцягненню яго ўвагі да трагізму матчынай мовы Багдановіч прысвяціў адзін са сваіх найбольш пранікнёных вершаў, які ў любым дзесяцігоддзі дваццатага стагоддзя, у тым ліку і сёння, чытаецца, як суровае, але справядлівае папярэджанне аўтара:

**Народ, Беларускі Народ!**
**Ты — цёмны, сляпы,**
**быццам крот.**
**Табою ўсягды пагарджалі,**
**Цябе не пушчалі з ярма**
**І душу тваю абакралі, —**
**У ёй нават мовы няма.**

Для ўсіх народаў нацыянальная мова — найперш за ўсё форма іх духоўнай культуры, што асабліва добра пацвярджаецца на прыкладзе мастацкай літаратуры. Нездарма Максім Багдановіч так радаваўся кожнаму сапраўднаму таленту, які вырастаў на гэтай ніве, садзейнічаў папулярызацыі яго твораў у масах, добра ведаючы, што гэта не толькі дапаможа ім стаць больш адукаванымі і культурнымі, але і заняць актыўную пазіцыю ў справе беларускага Адраджэння.

Любоў у беларусаў да роднай мовы М. Багдановіч выхоўваў частымі спасылкамі на яе даволі прыстойны ўзрост, колішняе шырокае ўжыванне ў розных сферах дзяржаўнага і культурнага жыцця. Нагадваў, што жывое слова і далёкіх продкаў было такім выразным і сакавітым, што без выкарыстання яго нават не магла абысціся царкоўнаславянская мова, на якой друкавалася не толькі рэлігійная, але доўгія гады і свецкая літаратура. «Увесь час у кніжную мову прасачывалася, урастала народная і, паводлуг абасаблення трох расійскіх культур, разрывала яе на тры часці, кожная з каторых выраблялa ўласны нацыянальны выгляд». З гэтых слоў няцяжка заключыць, што з пэўнага гістарычнага этапу беларуская мова развівалася пад уплывам мясцовых варункаў і таму зусім ненавукова бачыць у ёй нейкі дыялект рускай мовы, як гэта любілі паўтараць аж да кастрычніка 1917 года нават многія масцітыя рускія вучоныя.

Пішучы ў час, калі новая беларуская мастацкая літаратура толькі набірала моц, а роднаму слову беларуса быў зачынены доступ у грамадскае жыццё, у класы і аўдыторыі навучальных устаноў, М. Багдановіч, каб пашырыць ідэю нацыянальна-культурнага Адраджэння ў гушчах народа, лічыў патрэбным прыгадаць яму пра самую шчаслівую пару ў гісторыі яго мовы. Прыпадала ж тая шчаслівая пара ўжо і на XV стагоддзе. «К гэтаму часу Вялікае княства Літоўскае даволі цвёрда устанавіла свае межы, і беларуская зямля рэзка абасобілася ад зямель маскоўскіх, так што ўсе стасункі між імі... на доўгі час абарваліся бадай што зусім. Таму ўмацоўваўшаяся тады маскоўская пісьменнасць павінна была доўгі час расці і развівацца без жаднага звязку з пісьменнасцю беларускай... Будучы больш развітой ад культуры літоўскай, яна (беларуская культура—**Л. Л.**) пераважыла гэтую апошнюю на вачах гісторыі, так што ўсё гасударственнае жыццё Вялікага княства адбывалася ў беларускіх нацыянальных формах... на беларускай гаворцы ішоў суд, пісаліся акты і граматы, вяліся перагаворы з чужаземнымі гасударствамі; па-беларуску размаўлялі і вялікія князі і баяры, нават літоўцы родам, бо абеларушванне іх ішло тады поўным ходам; звычайна, што свае духоўныя патрэбнасці яны задавальнялі з кніг у беларускай мове...» Прачытаўшы такое, у кожнага адданага нацыянальнай ідэі беларуса множыліся сілы і энергія ў змаганні за сваё выратаванне. Прыведзеныя словы і сёння не могуць не выклікаць у нас павагі да сваіх гістарычных традыцый, духоўнай спадчыны народа, жадання аддаць усяго сябе высакароднай справе яго далейшага нацыянальна - культурнага развіцця, паверыць у яго рэальнасць, нягледзячы на той жахлівы бездухоўны стан, у якім мы не па сваёй волі апынуліся за апошнія дзесяцігоддзі.

## 3. Захавалі адметную культуру

Паставіўшы перад сабой мэту дапамагчы роднаму народу не раствярыцца бясследна сярод сваіх блізкароднасных па гістарычным мінулым, культуры і мове суседзяў, Максім Багдановіч разумеў, што гэтага немагчыма дасягнуць без глыбокага ўсведамлення масамі ўсёй арыгінальнасці, адметнасці ўласнай духоўнай спадчыны, што даволі доўгі час не прызнавалася не толькі афіцыйнай палітыкай Расійскай імперыі, але і многімі прадстаўнікамі навуковай і творчай інтэлігенцыі. Маладога паэта не задавальняла такое памылковае стаўленне да культуры роднага краю. Пасля аналізу фактаў, не падлеглых, паводле сваёй агульнапрызнанасці, аспрэчванню, ён прыходзіць да такой не толькі праўдзівай, але і смелай для дарэвалюцыйнага часу высновы: «...беларуская культура зусім не з'яўляецца простым варыянтам культуры вялікарускай. Наадварот, у іх асобе перад намі знаходзяцца два самастойныя культурныя комплексы, якія ад самага ж пачатку раслі і развіваліся незалежна адзін ад аднаго. Адрозніваючыся паміж сабою і па бытавых першаасновах, і па ўплывах, накіраваных звонку, і па падзеях далейшага гістарычнага жыцця, яны, натуральна, прыйшлі да далёка не тоесных канчатковых вынікаў».

З гэтых падзей Багдановіч асабліва выдзяляў збліжэнне Беларусі з Заходняй Еўропай, што пазней ледзь не цалкам будзе ігнаравацца многімі гісторыкамі беларускай культуры. Ужо ў сярэднявеччы ў выпрацоўцы яе каштоўнасцяў удзельнічала «не толькі шэрая вёска, але і гандлёвы горад еўрапейскага тыпу... Ён зрабіў беларускую культуру больш маляўнічай, шматграннай, увёў яе ў абарот заходнееўрапейскага жыцця і стаў, такім чынам, перадавым фарпостам Заходняй Еўропы на ўсходзе». У адказ на знявагу роднага краю, што стагоддзямі распаўсюджвалі пэўныя польскія і рускія колы, Багдановіч пісаў, што ў эпоху Адраджэння Беларусь выйшла «на адно з першых месцаў сярод культурнага славянства», знаходзілася «далёка ўперадзе Маскоўшчыны — тагачаснай славянскай глухамені, якая харчавалася, нібыта чужаядная расліна, духоўнымі сокамі Белай Русі». Толькі дзеля справядлівасці паэт павінен быў растлумачыць чытачу, што тагачасная Маскоўшчына не праз сваю віну, а з прычыны цяжкіх вынікаў татара - мангольскага прыгнёту знаходзілася на такім нізкім узроўні культурнага развіцця.

Было б недаравальнай памылкай нацыянальна - культурнае адраджэнне любога народа разумець як простае вяртанне да некалі страчаных ім — часцей за ўсё па віне іншых— гістарычных традыцый і духоўных каштоўнасцяў. Такое вяртанне павінна разглядацца не болей як толькі першая прыступка, з якой народ, наважыўшыся да свайго адраджэння, абавязаны ісці ўгару, нязменна дадаючы да такіх традыцый і каштоўнасцяў усё новыя і новыя, больш дасканалыя свае набыткі, у якіх пераважаюць адметныя ад іншых культур нацыянальныя рысы, бо толькі пры такіх умовах ён застанецца самабытным сярод мноства чалавечых супольнасцяў. Дбаючы пра адраджэнне, захаванне і развіццё нацыянальна - спецыфічнага, ніяк нельга адгароджвацца ад сусветнага культурнага працэсу, бо ў ім заўжды можна знайсці такія элементы і накірункі, без уліку якіх ніводзін этнас не дасягне сапраўднага духоўнага прагрэсу, рана ці позна стане ахвярай асіміляцыі з боку больш культурных народаў. Такая жорсткая заканамернасць дзейнічала і пры жыцці Максіма Багдановіча. Як паводзіць народу, асабліва яго дзеячам культуры ў такой сітуацыі, вельмі добра разумелася паэту, што вынікае з наступных слоў: «Было б горш, чым няйдбальствам, нічога не ўзяць з таго, што соткі народаў праз тысячы год сабіралі ў скарбніцу светавай культуры. Але занасіць толькі чужое, не развіваючы свайго,— гэта яшчэ горш: гэта значыць губіць народную душу. Да таго ж адны жабракі могуць праз усё жыццё толькі браць. Трэба ж і нам, беручы чужое, калі-нікалі даць нешта сваё. А свайго... мы давалі менш, чым маглі».

З першай часткай вышэйпрыведзенай цытаты наша жыццё не ўступала ў супярэчнасць, а вось што датычыць другой яе часткі, тут мы не прыслухаліся — праўда, часта па незалежных ад нас прычынах — да папярэджванняў паэта, добра зглумілі «народную душу», бо змусілі яе і гаварыць чужой мовай, і жыць чужой культурай, адводзячы сваёй мове і культуры зусім мізэрную ролю, у выніку чаго цяпер ужо культуру і мову зямлі беларускай нават нельга ўсур'ёз назваць нацыянальнымі. У пагоні за славай многія нашыя кампазітары пісалі і пішуць музыку на вершы рускіх паэтаў, мастакі і архітэктары свядома ўхіляліся выкарыстоўваць у сваіх творах нацыянальныя матывы, тэатральныя калектывы, оперныя і эстрадныя спевакі не займаліся прапагандай нацыянальнага мастацтва, адрывалі беларусаў ад духоўнай спадчыны Бацькаўшчыны. Як і ў час творчай дзейнасці Максіма Багдановіча, мы яшчэ і сёння даём сабе і сусветнай цывілізацыі менш, чым можам, і толькі таму, што ўсур'ёз не клапоцімся пра трываласць нацыянальных асноў духоўнай культуры, марна спадзеючыся, што развіваць яе можна і пры заняпадзе беларускай мовы. Добра, што не так думалі і рабілі нашыя нацыянальна самасвядомыя папярэднікі, дзякуючы чаму і змаглі нават ва ўмовах жорсткага сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту выратаваць беларускі народ ад канчатковай пагібелі. Багдановіч з радасцю адзначаў у ліпені 1914 года такія факты, «як атрыманне гандлёвымі фірмамі карэспандэнцыі на беларускай мове... выданне імі па-беларуску прэйскурантаў, з'яўленне беларускіх каталогаў на саматужнай выстаўцы і да г. п.» На падставе такіх фактаў ён робіць правільную выснову: у краі «пачынае фармавацца ўсведамленне, што беларуская мова можа па праву ўвайсці ў мясцовы грамадскі абарот... Усё гэта паказвае, што ў свядомасці мясцовага грамадства беларускі народ не tabula raga (чысты аркуш), а самастойная нацыянальная велічыня, беларускі ж рух — жывая культурна - грамадская сіла». Сумняваюся, што сёння ўсе мы з такім разуменнем ставімся да сваіх крэўных нацыянальных патрэб і асабліва—да выратавання беларускай мовы, так шчыра верым у сваё адраджэнне, не шкадуем сілы і энергіі для ўвасаблення сваіх ідэалаў у жыццё.

Багдановіча і яго паплечнікаў ніколі не пакідала такая ўпэўненасць. Ніколькі не змяншаючы страт у нацыянальным у выніку мэтанакіраванай палітыкі царскага ўрада, паэт у дзесяцігадовым беларускім руху (за пачатак браў 1905 г.) убачыў такое, што паслужыла падставай заявіць: «Развіццё зазначанага руху дазваляе спадзявацца, што яшчэ адзін народ не знікне з твару зямлі, што не змарнатравіцца бясследна велізарная псіхічная праца многіх пакаленняў і беларуская культура — стварэнне гэтай працы — устаіць супроць напору іншых сіл і плыняў». І з гэтым нельга не пагадзіцца, беручы пад увагу маштабы ажыццёўленых за 1905—1914 гады перадавымі людзьмі задум па нацыянальна-культурным Адраджэнні беларускага народа.

(Працяг будзе).

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

# ГУЛЬНЯ ІДЗЕ НЕ Ў ШАЙБУ...

Мне не хацелася б выказваць свае дылетанцкія меркаванні на эканамічныя тэмы, не хацелася б кранацца палітыкі наогул. Ды, аднак, праўду кажуць, што калі ты не хочаш займацца палітыкай — дык палітыка зоймецца табой...

Мне не зразумелая тая эйфарыя, з якой у нас часам сустракаецца новая маскоўская палітыка. У тым ліку яе апошні перл — заява аб хуткім і татальным уводзе свабодных цэнаў. Мабыць, гэтая эйфарыя трохі паменшылася пасля таго, як у саюзнай інфармацыйнай праграме прагучаў прагноз: да канца 1992 года цэны на харчовыя тавары ўзрастуць у 15 разоў, на нехарчовыя — у 25 разоў. Давайце ўсё-такі падумаем, што гэта будзе азначаць для эканомікі наогул, і для эканомікі нашай рэспублікі ў прыватнасці.

Пры такіх тэмпах інфляцыі хто ж захоча ўкладваць свае капіталы ў вытворчасць? Чым ісці на рызыку, на злом галавы пераадольваць усе нашы «прэпоны» і заканадаўчыя неадпаведнасці, ці не прасцей накупіць на свае грошы тавару і «сядзець» на ім без ніякага руху — пройдзе год, і твая ўласнасць сама сабой падаражэе ў 25 разоў.

Магчыма, такія разважанні выглядаюць дылетанцкімі. Аднак ва ўсім свеце прызнана, што гіперінфляцыя — самая цяжкая хвароба эканомікі. Не могуць не разумець гэтага і ў Маскве: аднак жа самі штурхаюць краіну ў гэтую бездань.

Дык давайце ж падумаем — навошта яны гэта робяць? Мабыць, дарэмна шукаць адказ не гэтае пытанне ў сферы чыстай эканомікі. Справа ўся ў тым, што найперш клопат такога маскоўскага кіраўніцтва — царскага, бальшавіцкага ці цяпер вось дэмакратычнага — захаванне імперыі. Дзеля гэтага тры пакаленні людзей прымушалі «будаваць камунізм». Цяпер адбываецца замена сродкаў — але не мэты. Разлік просты: перш чым новаспечаныя суверэнныя дзяржавы здолеюць стаць на ногі, увесці хаця б свае валюты — павязаць іх эканамічна, уцягнуць у гонку цэнаў. Тым часам расейскае кіраўніцтва прыбірае да сваіх рук саюзную маёмасць, створаную працай прадстаўнікоў усіх рэгіёнаў «былога» СССР. Што застаецца ў такіх варунках Беларусі — вядома: быць і надалей нарыхтоўчай канторай, а калі што — дык і зручнай пляцоўкай для ядзерных гульняў. Як дасціпна выказаўся экс-кандыдат у члены Палітбюро Далгіх пад час сваёй вандроўкі па чарнобыльскіх мясцінах: «Белоруссия всегда была у нас на переднем крае».

У цэлым жа ўся гэтая валтузня чамусьці нагадвае мне ўлюбёнае разважанне хакейна-футбольнага каментатара Мікалая Озерава: «Гульня ідзе не ў шайбу, а ў саперніка. Шайбу падхватвае партнёр». Вось і застанёмся надалей маўклівай ды паслухмянай шайбай, ці, можа, настала пара ўголас заявіць аб сваіх інтарэсах?

**Аляксандр УРБАНОВІЧ.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Яраславу ПАРХУТУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці маці.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку, рэдактару штотыднёвіка «Наша слова» Эрнесту ЯЛУГІНУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці жонкі.**

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

# ЯК У ВАДУ ГЛЕДЗЯЧЫ...

У мінулым наша крытыка, адстойваючы прынцып партыйнасці літаратуры, рашуча і паслядоўна змагалася з безыдэйнасцю ў паэзіі. Здаралася, што безыдэйнымі, апалітычнымі абвяшчаліся творы пра каханне або пра прыроду. Цяпер, на хвалі вялікіх перамен, што адбываюцца ў краіне, некаторыя аўтары зрабілі рашучы паварот і гатовы бачыць ідэалогію нават у творах на вечную тэму або ў пейзажнай лірыцы, гатовы закрэсліць класічныя творы.

Для першага нумара часопіса «Маладняк» Янка Купала напісаў верш «Арлянятам», у якім блаславіў маладых паэтаў верай і праўдай служыць свайму народу. Цэлыя пакаленні пісьменнікаў прыходзілі ў літаратуру, акрыленыя бацькоўскім словам Я. Купалы. Па-свойму прачытаў амаль праз семдзесят год гэты верш Я. Купалы малады паэт Алесь Бадак. Ён задае чытачам газеты «ЛіМ» рытарычнае, як яму здаецца, пытанне: «Я ніяк не магу да канца зразумець: чаму на ўроку роднай літаратуры я павінен быў усё ж вучыць на памяць верш «Арлянятам»?.. Добра сказаў В. Кандрацьеў: «Калі паднімаеш руку на тытанаў, сам сабе здаешся крыху вышэйшым...»

Пятрусь Броўка напісаў выдатны верш на вечную тэму. Пра тое, як лірычны герой праз усё жыццё не можа забыць сустрэчу ў юнацкія гады з дзяўчынай. Пра каханне, якое прайшло міма. З таго часу ў яго памяці жыве вобраз незвычайнага хараства і не дае спакою шкадаванне, што не асмеліўся пазнаёміцца, расказаць пра свае пачуцці. Ды яшчэ, як напамінак пра тую сустрэчу, пахне чабор.

Здавалася б, якую «палітыку» можна вычытаць у гэтым вершы. А. Бадаку, каб зразумець старанна схаваны падтэкст, не трэба чытаць увесь верш. Дастаткова кінуць позірк на назву. І нават не на назву, а дастаткова звярнуць увагу на дату напісання. Мяркуйце самі. «Чаму пахне чабор?» — пытаецца ён. І адказвае: «Дык жа час у вершы — савецкі. Гэта ж мы да рэвалюцыі не ўмелі радавацца каханню. І ўсё ў нас было кепска. А зараз у нас усё добра». Тут вынесены прысуд больш суровы, чым «Арлянятам». Там А. Бадак гаварыў ад свайго імя, а тут ад імя ўсяго народа, бо нарадзіўся ён пасля рэвалюцыі.

Думаю, што П. Броўка не толькі пісаў свае творы, але чытаў чужыя і ведаў, што «мы» і да рэвалюцыі ўмелі радавацца каханню. Пра гэта расказаў Я. Колас у трылогіі «На ростанях», Ц. Гартны ў рамане «Сокі цаліны», Я. Купала ў п'есе «Паўлінка», М. Багдановіч у рамансе «Зорка Венера»...

Я некалькі разоў перачытаў верш, каб пераканацца, што напісаны ён пра савецкі час. Хацеў зразумець методыку аналізу мастацкага твора. Даволі арыгінальную, якой А. Бадак карыстаецца пры разглядзе іншых твораў.

**Лёгкія крокі на вузкай сцяжынцы,**
**Дзеўчына ў белай іскрыстай хусцінцы,**
**Быццам абсыпана промнямі зор,**
**Пахне чабор,**
**Пахне чабор...**

У творы няма хоць маленечкай дэталі, якая б сведчыла пра часавую прывязанасць. І ў часы Івана Грознага людзі з прыемнасцю нюхалі чабаровы пах. І у часы Скарыны хлопцы кахалі дзяўчат. Здаралася, што і ў часы «Слова аб палку Ігаравым» яны сустракаліся на вузкай сцяжынцы.

Не буду ўдакладняць, як называецца такі эксперымент над мастацкім творам, каб не даць повадy прыхільнікам падобнай крытыкі абвінавацiць мяне ў тым, што я «суправаджаю кожнае слова (!) апанента знішчальным каментарыем» («ЛіМ», 2. 11. 90).

Я ўжо атрымаў добрую порцыю крытыкі за свае падручнікі, напісаныя ў 1970 г., ад А. Бадака (26.1.90). Нядаўна ён зрабіў новы заход (20.9.91). На гэты раз на мой артыкул, у якім я аспрэчыў яго погляды на мастацкія творы, пра што толькі што гаварыў.

Яго новы артыкул мае назву «Палічыў за абразу...» Не ведаю, ці валодае мой апанент тэлепатычнымі здольнасцямі, але маю рэакцыю на грознае абвінавачанне ў тым, што «Р. Шкраба здзекліва выказваецца пра паэтычную творчасць апанента», г. зн. А. Бадака, ён адгадаў як у ваду гледзячы. Я палічыў гэта абразай і таму, што не заўважаю за сабой такіх здольнасцей, і таму, што, як гавораць юрысты, не было факта злачынства: я нідзе, ніколі не пісаў пра вершы А. Бадака. І нават не чытаў іх.

Не збылося спадзяванне, што ў новым артыкуле А. Бадак удакладніць свае пазіцыі, згодзіцца, што яму не хапае прафесіяналізму і належнага густу пры ацэнцы хоць бы таго ж верша «Пахне чабор».

Далей у лес — больш дроў. Да гэтага верша суровы крытык далучыў яшчэ вершы іншых нашых выдатных паэтаў: «Мая Бесядзь» і «Над брацкай магілай» А. Куляшова, «Песня кулікоў», «На пероне», «Рукі маці» і «Перапіска з зямлёю» М. Танка. А за што ж гэтыя творы, якія робяць гонар не толькі аўтарам, але і ўсёй беларускай паэзіі, заслужылі нелюбоў А. Бадака? Вось як арыгінальна ўдакладняе ён сваю пазіцыю. У ранейшым артыкуле ён пісаў, што ў школе не трэба вывучаць гэтыя вершы, бо ўключаны яны ў праграму людзьмі, якія прытрымліваюцца «таго ж ідэалагічнага прынцыпу». У новым артыкуле аўтар прызнаецца: «гэтых паэтаў я сам вельмі люблю і паважаю». Але ўключэнне іх у праграму дае падставу гаварыць «пра свядомую ідэалагізацыю школьнай праграмы, калі ўсе — ад першай да апошняй старонкі — падручнікі напісаны з аглядкай на марксісцка-ленінскае разуменне задач літаратуры». Добра, згодзімся з аўтарам, выкінем падручнікі, усе старонкі якіх папсавала «ідэалагізацыя», але якая сувязь паміж названымі вершамі і «марксісцка-ленінскім разуменнем»? І якая логіка: вершы добрыя, але для школы не падыходзяць. І ў чым вінаваты паэты, што нейкі няўмека склаў благія праграмы, а другі няўмека напісаў такія ж благія падручнікі?

Праўда, аўтар растлумачыў, чаму не падыходзяць. Ён ідзе, як кажуць, ад супрацьлеглага. Не падыходзяць таму, што «творы павінны адлюстроўваць жыццё ва ўсіх яго супярэчнасцях, шматгранна і, вядома ж, праўдзіва». Пад якім мікраскопам трэба разглядаць трагічны верш ваеннай пары пра пахаванне воінаў, каб вычытаць у ім ідылію? Чаму нельга даваць у рукі вучням верш, у якім славіцца самаахвярнасць, шчодрасць, працавітасць маці, расказваецца пра яе клопаты і бяссонныя ночы? Або верш, у якім славіцца праца хлебароба, што корміць і апранае свет?

Даволі арыгінальны пераход робіць А. Бадак ад верша П. Броўкі да творчасці П. Панчанкі. Давядзецца нагадаць яшчэ раз тую мясціну: «А зараз у нас усё добра. І ўсім добра. І вам, і мне, і Панчанку...» Папытаецеся, пры чым тут Панчанка? А вось пры чым. Ён, не падумаўшы, напісаў: «Не люблю я змрочных фарбаў, не люблю я шэрых тонаў». А я, не падумаўшы, паверыў паэту і прыняў яго словы, як кажуць, за чыстую манету. На самай справе трэба было ўсумніцца. Крытык дае праборку і мне, і паэту: «Аказваецца, можна і такім чынам выхоўваць школьнікаў у духу патрыятызму і савецкага інтэрнацыяналізму: выдаваць **жаданне** народнага паэта за **правіла** (падкрэслена аўтарам артыкула), якога ён «няўхільна трымаецца». Адным словам, не спраўдзіў П. Панчанка свайго абяцання, жаданне так і засталося толькі жаданнем.

Крытык і тут адгадаў мой таемны намер. Не так сабе я нагадаў у падручніку, што паэт не любіць змрочных фарбаў і шэрых тонаў.

Якая настырная гэтая «ідэалагізацыя»— гані яе праз дзверы, а яна лезе праз акно. Загаворы пра яркія колеры і радасны настрой, а яна ўжо тут. Напішы верш пра каханне, а яна толькі таго і чакала. Задумай пейзажны верш, і яна адкуль ні вазьміся.

Што датычыць выхавання людзей у духу патрыятызму і савецкага інтэрнацыяналізму, дык гэта не горшыя чалавечыя якасці, і школа не можа пра іх не думаць. Можа, А. Бадака бянтэжыць слова «савецкі», дык яно паходзіць ад слова «савет», а яны ў нас пакуль не скасаваны.

А. Бадак тлумачыць П. Панчанку, што ў яго не адны толькі светлыя фарбы. Думаю, што паэт сам гэта ведае. Ведаў і я, калі пісаў: «Колер у мастацкім творы ніколі не бывае нейтральным да яго зместу. Адпаведным чынам падабраныя фарбы могуць стварыць радасны настрой альбо, наадварот, трывожны і пагрозлівы».

Праблема, над якой б'ецца А. Бадак, вырашаецца проста. Змрочныя фарбы ў творчасці мастака — сведчанне яго стаўлення да свету і людзей. А шэрыя тоны — сінонім бяздарнасці. Здаецца, яшчэ ніхто не заслужыў пахвалу за шэрасць. Таленавіты аўтар жыццесцвярджальнай, маляўнічай і яркай паэзіі мае права імі не карыстацца. Што да П. Панчанкі, дык гэта не голая дэкларацыя, а прынцыповая пазіцыя, пацверджаная ўсёй творчасцю.

Хачу адзначыць добрую выхаванасць майго апанента. Ён мяне кліча па імю і па бацьку, называе «шаноўным літаратарам». Не разгадаў, які тут падтэкст. Проста абяззбройвае такая гіперкарэктнасць. Баюся быць горш выхаваным, толькі не магу зрабіць у адносінах да шаноўнага паэта тое самае. Я нават класікаў называю ў падручніку толькі па імю. Так прынята ў крытыцы.

У дні путчу партыя канчаткова скампраметавала сябе і ўчыніла акт самазабойства, а А. Бадак усё яшчэ вітае яе кіраўніцтва літаратурай, асабліва тыя пастановы, якія вучаць, як трэба адлюстроўваць «чалавечы фактар». Ну, і якая тут «крамола»? — пытаецца ён. Можна ўявіць, у якіх пацёмках блукалі Ф. Багушэвіч або М. Багдановіч, якія не мелі пад рукамі гэтых пастаноў і не ведалі, як і мы, што такое гэты «фактар».

Чым вытлумачыць такую супярэчлівасць? То А. Бадак лічыць твор пра каханне «ідэалагізацыяй» і патрабуе выкінуць з хрэстаматыі, то схіляе галаву перад умяшаннем партыі ў літаратуру і лічыць гэта «дэідэалагізацыяй». Такую супярэчлівасць Навум Каржавін назваў «плюралізмам у адной галаве».

Ведаю з вопыту, што не ўсе аўтары з належнай патрабавальнасцю ставяцца да сваёй творчасці. Не захоўваюць элементарнага правіла — удакладняць факты і звяраць цытаты. Гэта трэба абавязкова рабіць, калі пачынаеш спрэчку. А. Бадак піша: «Але самае галоўнае, з чым нельга пагадзіцца, дык гэта з тым, як лічыць Рыгор Васільевіч, школьная праграма і падручнікі па літаратуры не патрабуюць асаблівых змен. Маўляў, трэба толькі змяніць некаторыя плюсы на мінусы ў ацэнцы тых ці іншых твораў альбо з'яў у літаратуры, апусціць пару пастаноў партыі па гэтых (?) пытаннях і, калі ласка, дзеці, чытайце, вывучайце беларускую літаратуру». У маіх артыкулах гаварылася нешта адваротнае. Ставілася праблема стварэння «новых, сапраўды навуковых праграм, удасканалення і напісання падручнікаў», у якіх не будзе месца пастановам партыі, нават пра «чалавечы фактар», якія да душы прыйшліся А. Бадаку. А наконт плюсаў і мінусаў таксама сказана супрацьлеглае таму, што вычытаў апанент. Ставячы праблему «новага прачытання твораў, ацэнка якіх рабілася ў той час, калі партыйная догма ішла паперадзе цвярозай крытыкі», я пісаў: «Толькі трэба рашуча папярэдзіць, каб не рабілася спроба мяняць «плюс» на «мінус».

А. Бадак, што называецца, з парога адкідае мае артыкулы, не знайшоў ён нічога добрага і ў падручніках. Адна, праўда, мая думка спадабалася. Думка пра тое, што «крытыкуючы іншых, трэба быць гатовым да таго, што пакрытыкуюць і цябе». Толькі гэтую думку ён адрасуе мне. Пра свой артыкул ён думае інакш: «Мне здавалася, што гаворка ў ім ідзе пра агульнавядомае, даўно наспелае і што наўрад ці каму прыйдзе ў галаву думка аспрэчваць яго». Аўтар недаацэньвае сябе. У яго, як мы бачылі, ёсць нямала арыгінальных думак, далёка не агульнавядомых.

**Рыгор ШКРАБА.**

# НА ВАЛАСКУ?

**Хто з вас, панове музыканты, не заходзіў у госці да «Нотаў» — магазіна, што на вуліцы Леніна ў Мінску, хто не цешыўся яго ўтульнасцю! У абліччы магазіна бачыўся... абавязковы шчыры памочнік у творчай працы. Кожны знаходзіў адпаведнае патрэбам: тут і Бетховен, і джаз, лісты Шапэна і падручнік аркестроўкі... У магазіне заўсёды была літаратура, якая прываблівала пакупніка. І раптам...**

**Пэўна, чытачы помняць кампанію, што разгарнулася вакол дзіўнага няўстойлівага становішча «Нотаў». Спачатку па горадзе пайшла пагалоска пра закрыццё магазіна, затым — пра аб'яднанне яго з іншым гандлёвым пунктам. Дакладна ніхто нічога не ведаў, пакуль ад загадчыцы магазіна А. Дзмітрыевай не ўдалося даведацца, што па рашэнні непасрэднага шэфа — аб'яднання «Белкніга» магазін «Ноты» павінен зрабіцца музычным аддзелам магазіна «Мастацтва». Такі факт выклікаў абурэнне інтэлігенцыі: у амаль двухмільённай сталіцы, дзе ёсць кансерваторыя, філармонія, музычныя тэатры, вучылішча і ліцэй, — ніводнага «нотнага»! Наспяваў вялікі скандал, работнікі «Белкнігі» маглі быць абвінавачаны ў адмове ад распаўсюджвання і развіцця музычнай культуры. А гэта, пагадзіцеся, у эпоху беларускага Адраджэння ўжо сур'ёзна!**

**Аднак грамадскасць «разгарнула абарону». Пасля надрукавання ў «ЛіМе» адкрытага ліста да Старшыні Савета Міністраў рэспублікі В. Кебіча, за подпісамі многіх дзеячаў культуры (нумар за 27.09.91 г.), выступленняў па радыё, магазіну было літасціва дазволена прадаўжаць працу ў тым самым памяшканні. Па словах А. Дзмітрыевай, цяпер ужо ёсць перспектывы для выжывання магазіна. Бо ў гандлі рыхтуецца рэформа, якая разняволіць магазіны, дазволіць ім выбар уласнай арганізацыі: арэнда, гаспадарчы разлік ці малое прадпрыемства. Магазін «Ноты» зможа выбраць адну з гэтых форм, якая дапаможа яму выйграць барацьбу з бюракратыяй. Але не зашкодзіць і грамадская падтрымка.**

**Афіцыйнага загаду аб перасяленні магазіна і змяненні ягонага статуса пакуль няма. Добра было б, каб супрацоўнікі «Белкнігі» зразумелі, што магазіну — адзінаму дзіцяці ўсёй музычнай грамадскасці — патрабуецца ўвага і падтрымка, а не наадварот. У рэчышчы адраджэння духоўных каштоўнасцяў беларускага народа трэба развіваць і гэтую галіну, пашыраючы аб'ём працы магазіна. І ўжо, канечне, не пазбаўляючы яго законнага статуса і памяшкання ў цэнтры музычнага асяродка «паміж трох агнёў» — кансерваторыі, Саюза кампазітараў ды ліцэя.**

**Пакуль што лёс «Нотаў» на валаску. У гандлі — час выбару, «маламаёмасныя» музыканты фінансава дапамагчы не могуць. Дзе ж вы, спонсары?**

**М. МДЗІВАНІ,**
**студэнтка журфака БДУ.**




Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Друкарня «Беларускі Дом друку».

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.
Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65, Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04, аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.

Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ.

Рэдакцыйная калегія:

Заір АЗГУР, Алесь АСІПЕНКА, Анатоль БУТЭВІЧ, Анатоль ВЯРЦІНСКІ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ, Лілія ДАВІДОВІЧ, Міхась ДРЫНЕЎСКІ, Алесь ЖУК, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Ігар ЛУЧАНОК, Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, Нічыпар ПАШКЕВІЧ, Барыс САЧАНКА, Юрась СВІРКА, Рычард СМОЛЬСКІ, Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК, Віктар ТУРАЎ.

Адказны сакратар Барыс ПЯТРОВІЧ.

Індэкс 63856

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12